# СЛОЎНІК, ЯКОГА ЧАКАЛІ…

«Слоўнік выдавецкіх тэрмінаў» – карыснае лексікаграфічнае выданне, у якім прапануецца падрабязны агляд асноўнага дэфінітыўнага апарату выдавецкай і журналісцкай дзейнасці, нарматворчасці, тэорыі і практыкі рэдагавання. Кнігу такога кшталту даўно чакаюць і выдаўцы, і рэдактары, і журналісты. У Беларусі яна – адна з першых, тады калі ў Расіі існуе мноства прац па заяўленай тэматыцы. Ёсць і рускамоўныя даведачныя электронныя рэсурсы.

Прапануемы слоўнік – у галіне выдавецкай справы своечасовая і дарэчная з'ява. На гэта ёсць свае прычыны.

За апошнія два дзесяцігоддзі адбыліся прынцыповыя змены ў выдавецкай сферы: укараняюцца абноўленыя нормы стандартызацыі, мяняецца тыпалогія набору, значна ўдасканалілася паліграфічная база, колькасць выдавецтваў павялічылася і інш. Так, на пачатак 2012 г. налічвалася больш за 600 суб'ектаў гаспадарання, якія маюць ліцэнзіі на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці.

Важным фактарам развіцця выдавецкай справы стала прымяненне інфармацыйных тэхналогій. Прававыя і эканамічныя складнікі кнігавыдавецтва атрымалі навукова-тэхналагічную аснову. Фарміраванню новай выдавецкай сістэмы Беларусі садзейнічала глабалізацыя інфармацыйнай прасторы, уключэнне айчыннай вытворчасці кнігі ў сусветную выдавецкую супольнасць, што дало магчымасць вывучыць багаты міжнародны вопыт і прадуктыўна ўкараняць яго ў практыку. Дыверсіфікацыя выдавецкага бізнесу прывяла да змен і на рынку вакансій, узрос попыт на высокакваліфікаваных спецыялістаў па маркетынгу.

Заўважым, што ў кнізе ёсць адказы на шматлікія пытанні сучаснасці: патлумачаны і вызначаны новыя тэрміны, раскрыта напаўненне традыцыйных паняццяў, пракласіфікаваны дэфініцыі.

Праблемнае поле выдання не абмяжоўваецца толькі тлумачэннем выдавецкіх тэрмінаў, а пашыраецца на панарамны выклад даведачных і метадычных матэрыялаў. Слоўнік мае дакладную і лагічную структуру. У ім

утрымліваецца каля 700 дэфініцый, у якіх прасочваецца традыцыйнасць, пераемнасць і перспектыўнасць прымянення тэрміналагічнага апарату на практыцы.

Упэўнены, што кніга стане добрым падмуркам у выкладанні асноўных і факультатыўных курсаў для студэнтаў, карысным даведнікам для калег, рэдактараў і журналістаў.

Загадчык кафедры
стылістыкі і літаратурнага рэдагавання
Інстытута журналістыкі БДУ,
доктар філалагічных навук, прафесар В. І. Іўчанкаў

# УВОДЗІНЫ

Як ні дзіўна, але сур'ёзных слоўнікавых сістэм у свеце не так і многа – гэта Oxford, Collins, Merriam Webster (Англія), Duden, Langenscheidt (Германія), Larousse і La Rober (Францыя) і некаторыя іншыя. Ключавыя элементы ўсіх сістэм – гэта вялікія ўніверсальныя слоўнікі моў, якія аб'ядноўваюць тлумачэнні, фразеалогію, арфаэпію, граматычнае спалучэнне і г. д. Каб рэалізаваць гэтыя праекты, у названых вышэй і іншых краінах працавалі цэлыя інстытуты, бо гэта справа, па сутнасці, з'яўляецца састаўной часткай абароны нацыянальных інтарэсаў.

У старажытнарускай пісьменнасці ўжо ў XIII ст. пачалі з'яўляцца прыкладзеныя да рукапісных тэкстаў невялікія зборы іншаземных або незразумелых царкоўна-кніжных слоў (напрыклад, гласарый, што быў прыкладзены да «Новгородской кормчей»). Аналагічныя слоўнікі складаліся ў XVI–XVII стст. у Ноўгарадзе і Маскве.

Узрастаючыя культурныя запатрабаванні ў перыяд фарміравання і развіцця літаратурных нацыянальных моў, навукі і тэхнікі Новага часу выклікалі з'яўленне слоўнікаў розных тыпаў, якія паводле зместу падраздзяляюцца на энцыклапедычныя, біяграфічныя, лінгвістычныя.

У сваю чаргу, гэтыя слоўнікі вызначаюць напрамкі стварэння новых мадыфікацый. Энцыклапедычныя даюць апісанні прадметаў і з'яў, якія абазначаюцца словамі (тэрмінамі), а таксама ўключаюць у свой склад тлумачэнні рознага роду ўласных назваў, імёнаў дзеячаў, геаграфічных назваў, устаноў, падзей і г. д. Яны могуць быць агульнымі, якія ахопліваюць усе галіны культуры, як, напрыклад, «Энциклопедический словарь» Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона (82 асноўныя і 4 дадатковыя паўтамы, 1890–1907), «Большая советская энциклопедия» (65 т. і дапаўненне, 1926–1947), або прыватнымі, якія ўтрымліваюць тэрміналогію пэўнай галіны навукі або тэхнікі. Прапануемы «Слоўнік выдавецкіх тэрмінаў» – гэтага кшталту. Узнік ён на базе літаратуразнаўства.

Калі ў Беларусі пачалі задумвацца над значэннем літаратурных тэрмінаў, адказаць складана. Яшчэ ў «Предисловии в притчи премудрого Соломона, царя Израилева» (1517) Францыск Скарына тлумачыў «людзям паспалітым» сэнс многіх філасофскіх і літаратурных твораў.

Лаўрэнцій Зізаній у кнізе «Грамматика словенска...» (Вільня, 1596) упершыню ў практыцы ўсходніх славян выклаў асновы вершаскладання. Зыходзячы з прынцыпаў антычнага верша, ён растлумачыў такія паняцці, як *метр*, *стапа*, вызначыў некаторыя вершаваныя памеры.

Лекцыі Мацея Сарбеўскага, якія ён чытаў у Полацкай езуіцкай калегіі ў 1618–1627 гг., леглі ў аснову дзвюх яго фундаментальных прац – «Курс паэтыкі» і «Пра

дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер». У іх аўтар даў разгорнутае тлумачэнне многім паняццям, што адносяцца да родаў, відаў і жанраў мастацкай літаратуры, яе спецыфікі, структуры, функцый.

Тэрміналагічная работа праводзілася ў Беларусі і ў больш познія часы. Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) падрыхтаваў 24 выпускі навуковай тэрміналогіі. Далучыўся да гэтай работы і Янка Купала. Працуючы старшынёй гуманітарнай секцыі Інбелкульта, ён апублікаваў у 1923 г. працу «Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва» ў серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» (вып. 2). Работа ў гэтым напрамку праводзілася і ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа, у тэрміналагічнай камісіі пры выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», у навучальных установах рэспублікі.

Карыстаючыся купалаўскай тэрміналогіяй, Максім Гарэцкі ўключыў у трэцяе выданне сваёй знакамітай «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920) раздзел «Назваслоўе», дзе ў даходлівай форме растлумачыў 344 літаратурныя тэрміны.

Новы этап у гісторыі беларускага літаратуразнаўчага словалетапісу пачаўся ў 60-я гг. ХХ ст. Ён увабраў як дасягненні ўсяго айчыннага літаратуразнаўства (працы А. Адамовіча, Р. Бярозкіна, Н. Гілевіча, У. Гніламёдава, М. Грынчыка, В. Жураўлёва, В. Каваленкі, А. Лойкі, М. Мушынскага, І. Навуменкі, А. Яскевіча і інш.), так і здабыткі славянскай, найперш рускай, украінскай і польскай, тэарэтыка-літаратурнай думкі. Менавіта на іх глебе выраслі першы ў пасляваеннай Беларусі «Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік» А. Макарэвіча (1963; 2-е выд. – 1969), «Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў» М. Лазарука і А. Ленсу (1983; 2-е выд. – 1996), «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах» (2001) і «Паэтычны слоўнік» (2004) В. Рагойшы.

На падмурку літаратуразнаўчых прац у апошнія гады сталі праводзіцца тэрміналагічныя даследаванні ў журналістыцы: В. П. Вараб'ёў, С. В. Дубовік «Журналістыка: ад А да Я: даведнік» (2002), С. В. Дубовік «Даведнік журналіста» (2006). У іх не толькі разглядаюцца асноўныя прафесійныя тэрміны і паняцці журналістыкі, але і даецца багаты інфармацыйны матэрыял, які непасрэдна датычыцца дадзенай галіны. Лагічным працягам гэтых прац з'яўляецца прапануемая кніга.

Слоўнік тэрмінаў уключае каля 700 найменняў, частка з іх упершыню ўведзена ў навуковы абарот. Па традыцыі матэрыялы ў слоўніку размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Тэрміны, на якія ёсць асобныя артыкулы, выдзелены курсівам.

Выданне ўключае заканадаўчыя акты ў галіне выдавецкай справы: законы Рэспублікі Беларусь «Об авторском праве и смежных правах», «Аб рэкламе», а таксама стандарты выдавецкай дзейнасці, палажэнне аб ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці, пытанні да экзамену на права атрымання выдавецкай ліцэнзіі.

Асноўная мэта кнігі – дапамагчы работнікам сучасных выдавецтваў (ад кіраўніка да карэктара) даведацца, што азначае той ці іншы выдавецкі тэрмін, пазнаёміцца з нарматыўнымі і даведачнымі матэрыяламі, метадычнымі рэкамендацыямі, якімі варта кіравацца ў практычнай дзейнасці. Яна прынясе шмат карысці і людзям, якія не маюць спецыяльнай журналісцкай адукацыі: студэнтам, паліграфістам, маркетолагам, работнікам сферы кнігагандлю і кнігараспаўсюджвання, а таксама ўсім, хто любіць і паважае кнігу.

# «ВАЛАДАРНІЧАЕ ПА ЧАСЕ І НАД ЧАСАМ»

## (СЛОЎНІК ВЫДАВЕЦКІХ ТЭРМІНАЎ)

Шчыра гавару вам:
друкаванае слова
валадарнічае не толькі
па часе, але і над часам.
*М. С. Ляскоў*

# А

**АБАВЯЗКОВЫЯ ЭКЗЭМПЛЯРЫ ВЫДАННЯЎ.** Экзэмпляры, якія перадаюцца іх вытворцамі праз паліграфічныя прадпрыемствы ва ўстановы і ведамствы бясплатна або за плату ў парадку, што ўстаноўлены дырэктыўнымі органамі і заканадаўствам.

**АБ’ЁМ ВЫДАННЯ.** Велічыня, якая вызначаецца колькасцю старонак у выданні або колькасцю ўлікова-выдавецкіх *аркушаў* у ім.

**АБ’ЁМ КНІГІ (ЧАСОПІСА).** Колькасць друкаваных *аркушаў*.

**АБ’ЁМ РУКАПІСУ.** Колькасць аўтарскіх *аркушаў*.

**АБЖЫМ КНІГ.** Прасаванне кніг у пераплёце.

**АБЗАЦ** (ад ням. Absatz – уступ). 1. Водступ управа ў пачатку радка друкаванага або рукапіснага тэксту (чырвоны радок). 2. Частка тэксту паміж двума такімі водступамі, якая характарызуецца фармальнай звязнасцю і адноснай сэнсавай паўнатой. Абзац залежыць перш за ўсё ад індывідуальных стылістычных асаблівасцей, аўтарскага густу, а таксама ад жанру твора, ступені экспрэсіўнасці тэксту.

**АБОРКА.** Частка паласы набору, якая мае звужаны фармат для завёрсткі збоку ілюстрацыі або табліцы.

**АБРАЖЭ** (ад фр. abrégé – кароткае ізлажэнне). Пералік асноўных тэм або ўнутраных загалоўкаў главы (падраздзела), змешчаны перад яе тэкстам пасля загалоўка. Абражэ ўжываецца, каб падрыхтаваць чытача да разумення тэксту, заінтрыгаваць або дапамагчы выбраць для чытання тую частку, якая яго цікавіць.

**АБРЭЗ КНІЖНАГА БЛОКА.** Верхні, бакавы, ніжні край кніжнага блока, які падвяргаецца трохбаковай абрэзцы, зафарбоўцы, залачэнню, таршаніраванню.

**АВАНТЫТУЛ.** Першая старонка кнігі, размешчаная перад тытулам. На авантытул змяшчаюць, як правіла, невялікі тэкст або ілюстрацыю, надзагаловачныя даныя.

**АГЛАЎЛЕННЕ** (з м е с т). Важнейшы элемент даведачна-суправаджальнага апарату выдання, які дазваляе чытачу лёгка і хутка знайсці ў кнізе патрэбны матэрыял, дае агульнае ўяўленне аб тэматычным змесце кнігі, яе структуры, праблематыцы і г. д.

Тэрміны «аглаўленне» і «змест» блізкія па сэнсе, але не раўназначныя. Першы выкарыстоўваецца тады, калі работа напісана па плане і разбіта на роўныя часткі, другі прымяняецца ў зборніках аднаго аўтара, а таксама ў зборніках артыкулаў, напісаных некалькімі аўтарамі.

**АГУЛЬНАВЫДАВЕЦКІ САБЕКОШТ.** Расходы на вытворчасць выданняў без камерцыйных (невытворчых) расходаў.

**АГУЛЬНАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Від рэдагавання, пры якім рэдактар дапамагае аўтару або аўтарскаму калектыву дасягнуць адзінства зместу і формы, пазбегнуць супрацьлегласцей, фактычных недакладнасцей, але не закранае спецыяльных бакоў рэдагуемага твора.

**АГУЛЬНЫ АБ'ЁМ.** Сума аб'ёмаў выданняў, выпушчаных выдавецтвам (выдавецтвамі) за пэўны перыяд; агульная колькасць экзэмпляраў у тыражах усіх гэтых выданняў.

**АГУЛЬНЫ ЛІСТАЖ.** Сума лістажоў выданняў, выпушчаных выдавецтвам (выдавецтвамі) за пэўны перыяд часу.

**АГУЛЬНЫ ТЫРАЖ.** Сума тыражоў выданняў, выпушчаных выдавецтвам (выдавецтвамі) за пэўны перыяд часу (агульная колькасць экзэмпляраў у тыражах усіх гэтых выданняў).

**АДБІТАК.** Тэкст, графічнае адлюстраванне на паперы або іншым матэрыяле, атрыманы пры дапамозе любой паліграфічнай тэхнікі.

**АДБІЎКА.** Спосаб нешрыфтавога выдзялення тэксту шляхам павелічэння прабелаў паміж асобнымі фрагментамі тэксту або элементамі паласы набору.

**АДКРЫТАЯ ВЁРСТКА.** Вёрстка, пры якой ілюстрацыя або табліца не прыкрыты на паласе асноўным тэкстам зверху або знізу, а пры аборцы яшчэ і збоку.

**АДЛЁТ.** Правы верхні вугал паласы.

**АДСТАЎ.** Палоска шчыльнай паперы (пры закругленым карашку кніжнага блока) або кардону (пры прамым карашку), якую наклейваюць на ўнутраны блок пакрыццёвага пераплётнага матэрыялу паміж старонкамі пераплётнай крышкі для таго, каб даўжэй захаваць форму карашка ў гатовай кнізе і не дапусціць псавання ціснення або маляўнічага адбітку на карашку пераплётнай крышкі.

**АКАДЭМІЧНАЕ ВЫДАННЕ.** Навуковае выданне твора (твораў) любога віду літаратуры з дэталёва тэксталагічна падрыхтаваным тэкстам, якое ўключае варыянты, рэдакцыі, дакументальныя крыніцы з падрыхта-

ваным апаратам, што падводзіць вынікі вывучэння дадзенага твора і творчасці аўтара. Паколькі такія выданні патрабуюць вялікіх калектыўных навуковых намаганняў, глыбокіх энцыклапедычных ведаў, яны рыхтуюцца акадэмічнымі ўстановамі, у сувязі з чым атрымалі адпаведную назву.

**АЛІГАТ.** Прыплеценыя адно да аднаго выданні або кніга-перавёртыш, зборнік, які ўключае два творы, кожны з якіх пачынаецца са сваёй старонкі пераплёту або вокладкі; для чытання кожнага зборніка трэба іх перавярнуць. У кожнага твора існуе свой тытульны ліст, свая пагінацыя.

**АЛЬБОМ.** Кніжнае або камплектнае ліставое выяўленчае выданне, як правіла, з тлумачальным тэкстам.

**АЛЬГРАФІЯ.** Спосаб плоскага друку з друкаванай формы, выраблены на алюмініевай пласціне, разнавіднасць літаграфіі.

**АЛЬМАНАХ** (ад араб. альманах – каляндар). Неперыядычны зборнік, у якім змяшчаюцца звесткі з розных галін грамадскай дзейнасці, звычайна з указаннем літаратурных навінак, навуковых дасягненняў, заканадаўчых змяненняў і г. д. Літаратурны альманах – зборнік літаратурных твораў розных аўтараў. Як правіла, матэрыялы ў ім аб’яднаны паводле нейкай прыкметы – тэматычнай, жанравай.

**АЛЬФАЦІН.** Электронная фотанаборная машына.

**АМБАЛАЖ.** Шчыльная папера, у якую ўпакоўваюць рулоны друкарскай або іншай паперы.

**АНАГРАМА** (ад грэч. ana – пера- і gramma – літара). Перастаноўка літар у слове, у выніку якой утвараецца новае слова, напрыклад: мука – кума. Анаграмы часта выкарыстоўваюцца журналістамі і пісьменнікамі пры стварэнні псеўданімаў.

**АНАНІМ** (ад грэч. anonymos – безыменны). Аўтар пісьма або артыкула, які не называе свайго прозвішча. Ананімныя допісы, як правіла, не прымаюцца да друку, але могуць даць падставу для правядзення журналісцкага расследавання.

**АНАНІМНАЕ ВЫДАННЕ.** Монавыданне або аўтарскі зборнік, у выхадных даных якіх не ўказваецца аўтар.

**АНКЕТА** (ад фр. enquête – расследаванне). Публікацыя, у якой чытача запрашаюць прыняць удзел у ацэнцы якіх-небудзь сацыяльных, палітычных праблем, з’яў культуры або журналісцкай дзейнасці.

**АНОНС** (фр. annonce ад annoncer – аб’яўляць). Паведамленне аб будучых канцэртах, вернісажах, кінафестывалях, кніжных кірмашах, масавых гуляннях, якое публікуецца без каментарыяў.

**АНТАЛОГІЯ** (ад грэч. anthologia – букет кветак, кветнік). Неперыядычны зборнік выбраных твораў, складзены па адпаведных прыкметах (проза, вершы) або на пэўную тэму. Лічыцца, што першую анталогію склаў старажытнагрэчаскі паэт Мелеагр з Гадары (канец II – пачатак I ст.

да н. э.). У яго анталогію «Вянок», акрамя асабістых твораў, увайшлі вершы яшчэ сарака шасці паэтаў.

**АПАРАТ ВЫДАННЯ.** Сукупнасць дадатковых элементаў выдання (каментарыяў, указальнікаў, заўваг, спасылак і г. д.), якія прызначаны патлумачыць асноўны тэкст, садзейнічаць засваенню твораў, што ўвайшлі ў выданне, аблегчыць чытачу карыстанне выданнем, а таксама дапамагчы яго апрацоўцы ў статыстычных, бібліятэчна-бібліяграфічных і інфармацыйных службах.

**АПАРАТ КНІГІ.** Сукупнасць матэрыялаў, якія дапаўняюць і пашыраюць асноўны тэкст, дазваляюць чытачу лепш успрымаць інфармацыю, змешчаную ў кнізе. Апарат кнігі аблягчае адпаведную апрацоўку выдання ў бібліятэках, кнігагандлёвых і інфармацыйных арганізацыях. Да апарату кнігі адносяць анатацыю, прадмову, заўвагі, каментарыі, унутрыкніжную і прыкніжную бібліяграфію, указальнікі, дадатак, спіс літаратуры, аглаўленне (змест), выхадныя звесткі. Апарат кнігі значна павышае яе практычную каштоўнасць.

**АПЕРАТЫЎНАЯ ПАЛІГРАФІЯ.** Від паліграфічнай вытворчасці, які не мае магчымасці выбару паліграфічнага абсталявання і спосабу друку з-за неабходнасці тэрміновага выканання заказу. Вызначаецца мабільнасцю і спецыялізуецца на выпуску прадукцыі па рэкламнай, будаўнічай, фінансавай, страхавой і падобнай тэматыцы (паўнаколерныя, малатыражныя лістоўкі, брашуры, буклеты, этыкеткі і г. д.).

**АПЛІКАЦЫЯ.** Стварэнне мастацкіх відарысаў шляхам наклейвання на тканіну або паперу шматколерных кавалачкаў матэрыялу. У паліграфіі – нанясенне на пластмасавыя пераплётныя крышкі відарысаў шляхам прыварвання паліграфічнай плёнкі іншага колеру.

**АПРАЦОЎКА МАТЭРЫЯЛУ.** Праўка арыгінала.

**АПРОШ.** Прабел, які аддзяляе адно слова ад другога.

**АПЯЧАТКА.** Памылка ў газеце, кнізе, дапушчаная па віне наборшчыка або карэктара. Апячатка можа мець месца з-за збою ў рабоце паліграфічнай тэхнікі.

**АРАБЕСКА.** Узорысты арнамент са стылізаванага лісця, кветак, геаметрычных фігур.

**АРГТЭХНІКА.** Сукупнасць тэхнічных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для механізацыі і аўтаматызацыі аперацый уліку, планавання, кантролю, аналізу і падрыхтоўкі дакументаў ва ўстановах, у арганізацыях і на прадпрыемствах, напрыклад: камп'ютар, мадэм, манітор, прынтар, сканер, тэлетайп, тэлефакс.

**АРКУШ.** Адзінка аб'ёму выдання. Існуюць аўтарскі, друкаваны, уліково-выдавецкі, умоўны друкаваны, кніжны, фізічны аркушы.

**АРКУШ НАБОРУ.** Адзінка вымярэння прадукцыі наборнага падраздзялення, якая можа мець ад 8 да 64 звярстаных палос і залежыць ад колькасці долей папяровага аркуша, прынятага для выдання.

**АРХІТЭКТОНІКА КНІГІ.** Мастацтва пабудовы кнігі, гарманічная і прадуманая кампаноўка ўсіх яе элементаў: тэксту, ілюстрацыі, аздабленняў і г. д., састаўная частка мастацкага канструявання кнігі.

**АРХІТЭКТУРА КНІГІ.** Пабудова кнігі, прынцыпы яе афармлення, падбор шрыфтоў, рубрык і г. д. Ужываецца як сінонім паняццяў «афармленне кнігі», «дызайн кнігі», «кніжная графіка».

**АРХІЎНЫ ЭКЗЭМПЛЯР ВЫДАННЯ.** Экзэмпляр айчыннага выдання, які захоўваецца вечна ў Нацыянальнай бібліятэцы і дзяржаўным (нацыянальным) фондасховішчы (у Беларусі – Нацыянальная кніжная палата). Яго нельга выдаваць за межы гэтых устаноў, выключаць з фонду.

**АРЫГІНАЛ** (ад лац. originalis – першапачатковы). Тэкставы і ілюстрацыйны матэрыял, які прайшоў рэдакцыйна-выдавецкую апрацоўку і прызначаны для апублікавання.

**АРЫГІНАЛ-МАКЕТ.** Форма арыгінала, якая поўнасцю супадае з будучым выданнем. Арыгінал-макет садзейнічае скарачэнню тэрміну выпуску выдання.

**АСАРТЫМЕНТ ВЫДАВЕЦКАЙ ПРАДУКЦЫІ.** Колькасць назваў выдавецкай прадукцыі, выпушчанай выдавецтвам або групай выдавецтваў за пэўны перыяд часу (у большасці выпадкаў робіцца гадавы падлік). Так, згодна з данымі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, у 2011 г. выпушчаны 11 084 кнігі і брашуры, у тым ліку дзяржаўнымі выдавецтвамі – 524.

**АСІМЕТРЫЧНАЯ ВЁРСТКА.** Несіметрычнае размеркаванне матэрыялаў па паласе.

**АСЮРЭ.** Друкарская лінейка, якая дае адбітак у выглядзе некалькіх тонкіх паралельных ліній, хвалістых або прамых. Ужываецца, напрыклад, на бланках (чэках), каб пазбегнуць падробкі.

**АТЛАС.** Картаграфічнае або выяўленчае кніжнае выданне, асноўным матэрыялам якога з'яўляюцца карты (астранамічныя, геаграфічныя), або дапаможнік для нагляднага навучання ці засваення розных дысцыплін (анатамічны, заалагічны, медыцынскі, тэхнічны атлас і г. д.).

**АТРЫБУЦЫЯ** (ад лац. attributio – прыпісванне). Устанаўленне аўтарскай прыналежнасці твора, калі ён ананімны або падпісаны псеўданімам.

**АЎДЫТ.** Праверка сапраўднасці заяўленага выдаўцом тыражу, якая праводзіцца незалежнай арганізацыяй.

**АЎДЫЯВЫДАННЕ.** Выданне, якое ўключае ў якасці дадатку, дапаўнення, ілюстрацыі гуказапісу, або выданне, асноўным матэрыялам якога з'яўляюцца гуказапісы, а тэкст і відарыс носяць суправаджальна-тлумачальны характар.

**АЎДЫЯНОСЬБІТ.** Матэрыял, які выкарыстоўваецца для гуказапісу і захоўвае інфармацыю (гукавы носьбіт). Віды аўдыяносьбітаў: фатаграфічны, механічны, магнітны (магнітная стужка), лічбавы.

**АЎТАКАРЭКТУРА.** Паўаўтаматычная або аўтаматычная карэктура ў камп'ютарным наборы да вываду копіі тэксту.

**АЎТАР.** Фізічная асоба, працай якой створаны твор. Аўтар паведамлення (дакумента) – асоба як крыніца інфармацыі.

**АЎТАРСКАЕ ПРАВА.** Частка грамадзянскага права, якая рэгулюе адносіны, што ўзнікаюць у сувязі са стварэннем і выкарыстаннем твораў навукі, літаратуры, мастацтва і журналістыкі.

**АЎТАРСКАЯ КАРЭКТУРА.** Вычытка набранага матэрыялу аўтарам з мэтай пераканацца ў захаванасці тэксту, ліквідаваць уласныя і чужыя памылкі і па магчымасці палепшыць твор.

**АЎТАРСКІ АРКУШ.** Адзінка вымярэння аб'ёму літаратурнага твора, прынятая для ўліку працы аўтара, перакладчыка, рэдактара і інш., роўная 40 тыс. друкарскіх знакаў, або прыкладна 22–23 старонкам машынапіснага, або 700 радкам вершаванага тэксту, або 3000 $см^2$ надрукаванага аўтарскага ілюстрацыйнага матэрыялу.

**АЎТАРСКІ АРЫГІНАЛ.** Арыгінал літаратурнага або іншага твора, які прадстаўлены аўтарам у выдавецтва для яго падрыхтоўкі і выпуску ў свет. Бывае рукапісны, электронны, а пры паўторным выданні можа быць у выглядзе расклейкі старонак.

**АЎТАРСКІ ДАГАВОР.** Пагадненне аб выкарыстанні твора навукі, літаратуры або мастацтва, якое заключаецца аўтарам ці яго нашчадкамі з адпаведнай арганізацыяй-карыстальнікам (выдавецтвам, тэатрам, кінастудыяй і г. д.). Заключэнне аўтарскага дагавора абавязковае, акрамя выпадкаў, калі закон дапускае выкарыстанне твора без дазволу ўласніка аўтарскага права. Аўтарскі дагавор заключаецца ў пісьмовай форме. Вусная форма аўтарскага дагавора дапускаецца толькі пры публікацыі ў перыядычных выданнях і энцыклапедычных даведніках.

**АЎТАРСКІ ЗБОРНІК.** Зборнік твораў аднаго аўтара або аўтарскага калектыву, складзены аўтарам (аўтарскім калектывам) або староннім складальнікам.

**АЎТАРСКІ ЗНАК.** Умоўнае літара-лічбавае абазначэнне прозвішча аўтара або першага слова загалоўка выдання.

**АЎТАРСКІ ЭКЗЭМПЛЯР.** Бясплатны экзэмпляр кнігі, які выдае выдавецтва аўтару пасля атрымання тыражу.

**АЎТАРЫЗАВАНАЯ КОПІЯ.** Копія аўтарскага арыгінала твора, якую прачытаў, паправіў і падпісаў аўтар.

**АЎТАРЫЗАЦЫЯ.** Прагляд і адабрэнне аўтарам свайго твора ў якой-небудзь крыніцы: у рукапіснай (камп'ютарнай) копіі, друкаваным выданні або ў перакладзе на іншую мову. Аўтарызацыя – галоўная ўмова дабраякаснага тэксту.

**АЎТАРЭФЕРАТ.** Рэферат твора, напісаны яго аўтарам.

**АЎТАРЭФЕРАТ ДЫСЕРТАЦЫІ.** Навуковае выданне ў выглядзе брашуры, якое ўтрымлівае падрыхтаваны аўтарам рэферат даследавання, што будзе прадстаўлены ім для атрымання вучонай ступені.

**АЎТОГРАФ.** 1. Асабісты подпіс, подпіс аўтара. У журналістыцы часта пад матэрыялам размяшчаецца аўтограф асобы, з якой гутарыў карэспандэнт, з пажаданнямі чытачам. Аўтограф выкарыстоўваецца і як подпіс галоўнага рэдактара ў канцы нумара выдання. 2. Аўтарскі рукапіс, уласнаручны аўтарскі рукапісны тэкст.

**АЎТОНІМ.** Сапраўднае прозвішча аўтара, процілеглае выдуманаму – псеўданіму.

**АЎТЭНТЫЧНЫ** (ад грэч. authentikos – сапраўдны). Тэкст дакумента, які адпавядае арыгіналу на іншай мове і мае з ім аднолькавую сілу. У міжнароднай журналістыцы тэрмін «аўтэнтычны» адносіцца да міжнародных дагавораў. Калі дагавор падпісаны на дзвюх ці некалькіх мовах, тады тэксты на кожнай з гэтых моў лічацца роўна аўтэнтычнымі (гэта значыць, аднолькава сапраўднымі) і маюць роўную юрыдычную сілу.

**АФІЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, у якім змешчаны матэрыялы заканадаўчага, нарматыўна-прававога або афіцыйна-дырэктыўнага характару, апублікаванае ад імя дзяржаўных органаў, устаноў, ведамстваў або грамадскіх арганізацый.

**АФІША.** Рэкламнае або даведачнае ліставое выданне, якое апавяшчае аб нейкім мерапрыемстве і прызначана для расклейвання.

**АФОРТ.** Від гравюры. Малюнак прадрапваецца гравіравальнай іголкай у слоі кіслотатрывалага лаку, які пакрывае металічную пласціну, прадрапленыя месцы пратраўліваюцца кіслатой, а атрыманая паглыбленая выява запаўняецца фарбай і адціскаецца на паперу.

**АФСЕТНЫ ДРУК.** Спосаб плоскага друку, пры якім фарба з друкарскай формы перадаецца на прамежкавую эластычную паверхню, а з яе пераносіцца на паперу або іншы матэрыял. Афсетны друк мае перавагі ў параўнанні з іншымі спосабамі друку: высокую хуткасць, меншы знос друкарскай формы, больш нізкія патрабаванні да паперы. Выкарыстоўваецца для друкавання ўсіх тыпаў выданняў (у тым ліку шматфарбных).

**АЭРОГРАФ.** Прыбор для рэтушы фотаздымкаў.

# Б

**БАЗА ДАНЫХ.** 1. Комплекс звестак, фактаў, прызначаных для іх уводу, захоўвання, апрацоўкі і выдачы з дапамогай камп'ютарызаваных сродкаў сувязі. Раней гэты тэрмін ужываўся ў сувязі з работай апаратараў ЭВМ. Ва ўмовах развіцця інфармацыйных супермагістралей і інтэрнэта ўзнікла неабходнасць у буйнамаштабных базах даных. Цяпер кожны карыстальнік камп'ютара можа атрымаць патрэбныя матэрыялы хутка і дастаткова поўна. 2. Змест інфармацыі ў інфармацыйным банку.

**БАКАВІК.** Адмысловы від загалоўка або загаловак з падзагалоўкам, які завёрстваецца збоку артыкула.

**«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА».** Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом "Беларуская навука"» – асноўнае звяно ў выдавецкай сістэме Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, адно са старэйшых выдавецтваў краіны. Заснавана ў Мінску ў 1924 г. як рэдакцыйна-выдавецкі аддзел Інстытута беларускай культуры. З 1929 г. у складзе Акадэміі навук БССР, з 1932 г. – выдавецтва АН БССР. З 1963 г. мела назву «Навука і тэхніка», з 1996 г. – «Беларуская навука», з чэрвеня 2000 г. – Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Беларуская навука»». У лютым 2005 г. пасля далучэння рэдакцыйна-выдавецкай установы «Навука і інавацыі», у складзе якога знаходзіліся рэдакцыі аднайменнага навукова-практычнага часопіса і інфармацыйна-аналітычнай газеты «Веды», а таксама участак паліграфіі, выдавецтва было рэарганізавана ў Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом "Беларуская навука"». Асноўны напрамак дзейнасці – выданне навуковай, навукова-папулярнай, даведачнай і іншай літаратуры, выпуск навуковых часопісаў і газеты, заснавальнікам якіх з'яўляецца НАН Беларусі, аказанне паліграфічных паслуг.

**«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» імя Петруся Броўкі.** Выдавецтва Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Заснавана ў Мінску ў 1967 г. як галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пры АН БССР на правах НДІ, з 1975 г. у сістэме Дзяржкамдруку БССР, у 1980 г. пераўтворана ў выдавецтва, прысвоена імя Петруся Броўкі. Спалучае выдавецкую дзейнасць з навукова-даследчай. Спецыялізуецца на падрыхтоўцы і выданні ўніверсальных, рэгіянальных і галіновых энцыклапедый, энцыклапедычных даведнікаў і слоўнікаў, тлумачальных, перакладных і іншых слоўнікаў беларускай мовы. Падрыхтавала і ў 1969–75 гг. выдала 12-томную Беларускую савецкую энцыклапедыю – універсальны даведнік па ўсіх галінах ведаў, першую шматтомную энцыклапедыю ў гісторыі беларускага народа. У 1996–2007 гг. выдала ўніверсальную Беларускую энцыклапедыю ў 18 тамах.

**БЕЛАРУСКІ ДОМ ДРУКУ.** З'яўляецца самым буйным паліграфічным прадпрыемствам у рэспубліцы. Створаны ў снежні 1917 г. у Мінску як друкарня Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту. Потым друкарня імя Сталіна, друкарня «Звязда», выдавецтва ЦК КПБ, Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"». Штомесяц тут друкуецца больш за 70 млн экзэмпляраў газет (150 назваў), 10 млн экзэмпляраў часопісаў, 5 млн экзэмпляраў брашур. Штогод выпускае звыш 5,5 млн экзэмпляраў кніг у цвёрдай і 9 млн у мяккай вокладцы. Супрацоўнічае з 200 выдавецтвамі і рэдакцыямі Беларусі і іншых краін. Сярод мноства ўзнагародаў за прафесіянальную дзейнасць – прызы міжнароднай праграмы «Партнёрства дзеля прагрэсу», «Залаты арол», «Залатое клішэ», «Залаты Меркурый», «Залатая ліцера», прыз першага міжнароднага конкурсу «Мэтр паліграфіі».

«**БЕЛАРУСЬ».** Адно са старэйшых выдавецтваў краіны. Заснавана ў 1920 г. як Беларускае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР. Са студзеня 1921 г. – Дзяржаўнае выдавецтва БССР. У снежні 1922 г. увайшло ў склад Белтрастдруку. У чэрвені 1924 г. ЦВК і СНК БССР рэарганізавалі Белтрастдрук і кааператыўнае выдавецтва «Савецкая Беларусь» і на іх базе стварылі Беларускае дзяржаўнае выдавецтва БССР, перайменаванае ў 1933 г. у Дзяржаўнае выдавецтва БССР. У час Вялікай Айчыннай вайны працавала ў Маскве і называлася «Савецкая Беларусь». У снежні 1943 г. зноў перайменавана ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР. У 1944 г. аднавіла дзейнасць у Мінску, у 1963 г. атрымала назву «Беларусь».

Выпускала палітычную, сацыяльна-эканамічную, мастацкую, дзіцячую, медыцынскую, вытворчую, даведачную, музычную літаратуру, альбомы, плакаты і іншыя выданні.

З 2002 г. з'яўляецца правапераемнікам выдавецтваў «Ураджай» і «Полымя», рэарганізаваных шляхам далучэння.

Адзін з прыярытэтных напрамкаў дзейнасці Дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства «Беларусь» – выпуск альбомаў, навуковых і навукова-папулярных выданняў па выяўленчым мастацтве, кніг-альбомаў аб унікальнай прыродзе Беларусі, гарадах рэспублікі, якія славяцца сваёй гісторыяй і архітэктурнай спадчынай.

**БЕСТСЕЛЕР** (ад англ. best – лепшы і sell – прадавацца). Выпушчанае вялікім тыражом і разлічанае на самае шырокае кола чытачоў кніжнае выданне, якое карыстаецца найбольшым попытам.

**БІБЛІЯГРАФІЧНЫ ДАВЕДНІК** (с л о ў н і к). Даведнік, які ўтрымлівае бібліяграфічныя звесткі, матэрыялы аб жыцці і дзейнасці асобы, дае спісы прац і літаратуры.

**БІБЛІЯГРАФІЯ** (ад грэч. biblíon – кніга і graphŏ – пішу). Пералік кніг і артыкулаў па якой-небудзь тэме або родзе літаратуры. Тэарэтычныя пытанні бібліяграфіі (бібліяграфазнаўства) пачалі распрацоўвацца з XVIII ст. У перыядычных выданнях змяшчаюцца матэрыялы бібліяграфічнага характару, у якіх паведамляецца пра новыя кнігі. Бібліяграфія ў кнізе і брашуры – пералік літаратурных матэрыялаў, якія датычацца змешчаных у іх твораў. Як правіла, размяшчаецца ў канцы кнігі або артыкула, калі ёсць неабходнасць – у канцы глаў і раздзелаў.

**БІГОЎКА.** Нанясенне прамавугольных паглыбленняў на вокладцы кнігі, брашуры ў месцах будучых згібаў для аблягчэння іх раскрыцця.

**БІЛЬДАПАРАТ.** Прыстасаванне для перадачы адлюстравання тэксту, фотаздымкаў, малюнкаў, чарцяжоў.

**БЛАНК.** Форма дакументаў, прызначаных для пісьмовага запаўнення неабходных звестак, лічбаў, статыстычных даных.

**БРАЙЛЕЎСКІ ШРЫФТ.** Друк для сляпых, які ажыццяўляецца пры дапамозе стварэння рэльефных кропак. Пры абмацванні яны даюць магчымасць распазнаваць пэўную літару.

**БРАШУРА.** Неперыядычнае кніжнае выданне аб'ёмам звыш чатырох, але не больш сарака васьмі старонак. Як правіла, выпускаецца ў мяккай папяровай вокладцы.

**БУКЛЕТ** (ад фр. bouclette – завітушка). Ліставое выданне, сфальцаванае (складзенае) у неразрэзаны сшытак. Часцей у выглядзе буклетаў выпускаюцца рэкламныя праспекты, невялікія даведнікі, карты гарадоў, гістарычных месцаў для турыстаў і г. д.

**БЮЛЕТЭНЬ.** Перыядычнае выданне або выданне, што працягвае сваю дзейнасць, змест якога складаюць нарматыўныя, даведачныя, інструктыўныя, рэкламныя матэрыялы выдаючай арганізацыі або ўстановы.

# В

**ВАДЗЯНЫЯ ЗНАКІ** (ф і л і г р а н ь). Асобныя знакі ўнутры паперы, бачныя на прасвет. Наносяцца на грашовыя купюры, каштоўныя паперы, некаторыя дакументы і г. д. Дазваляюць аблегчыць праверку сапраўднасці дакументаў.

**ВЕЕРНЫЯ РАДКІ.** Размяшчэнне радкоў у паласе пад вуглом адзін да аднаго – веерам, што не адпавядае вёрстцы палос.

**ВЕЛЕНЕВАЯ ПАПЕРА** (ад франц. vélin) – тонкі пергамент або велень (шчыльная гладкая папера вышэйшага гатунку, сыравінай для якой у старажытныя часы служылі анучы).

**ВЕРЖЭ.** Папера з узорам, падобным на вадзяныя знакі, асобны від папяроснай паперы.

**ВЁРСТКА.** 1. Працэс фарміравання палос выдання з тэкставых радкоў, клішэ, лінеек, упрыгожанняў і прабельных матэрыялаў. Пры вёрстцы захоўваюцца тэхнічныя правілы, якія забяспечваюць адзінства пабудовы ўсіх палос і спрыяюць чытаемасці і эканамічнасці выдання. 2. Адбітак звярстаных палос, у які ўносяцца неабходныя выпраўленні.

**ВІНЬЕТКА.** Невялікі малюнак, які ўпрыгожвае паласу або старонку кнігі. Па сваім змесце звязана з тэкстам, адлюстроўвае нацыянальны арнамент, перадае каларыт той або іншай мясцовасці. Часцей выкарыстоўваецца ў кнігах, радзей – у газетах.

**ВІСЯЧЫ РАДОК.** 1. Апошні няпоўны радок абзаца, які перайшоў пры вёрстцы наверх наступнай калонкі. У чыставым варыянце вёрсткі паласы вярстальшчык або пераносіць вісячы радок уніз папярэдняй калонкі, або ставіць над калонкай поўны радок. 2. Канцавы радок абзаца, які стаіць першым на паласе або ў калонцы, ці пачатковы радок абзаца, які стаіць на паласе (у калонцы) апошнім. Тэхнічнымі правіламі вёрсткі не дапускаюцца вісячыя радкі. Выключэннем можа быць толькі кароткі радок матэматычных разважанняў паміж формуламі.

**ВОКЛАДКА.** Верхнія шчыльныя лісты, якія з двух бакоў закрываюць кнігу, сшытак, захоўваюць выданне ад пашкоджвання. Служыць элементам знешняга мастацкага афармлення.

**ВУЧЭБНА-МЕТАДЫЧНЫ ДАПАМОЖНІК.** Вучэбнае выданне, якое ўтрымлівае матэрыялы па методыцы выкладання вучэбнай дысцыпліны (яе раздзела, часткі) або па методыцы выхавання.

**ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА.** Вучэбнае выданне, якое вызначае змест, аб’ём, парадак вывучэння пэўнай дысцыпліны (яе раздзела, часткі).

**ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК.** Вучэбнае выданне, якое дапаўняе або часткова (ці поўнасцю) замяняе падручнік.

**ВУЧЭБНЫ НАГЛЯДНЫ ДАПАМОЖНІК.** Вучэбнае тэкставае або выяўленчае выданне, якое ўтрымлівае матэрыялы ў дапамогу вывучэнню, выкладанню або выхаванню.

**ВЫГАНКА РАДКА.** Павелічэнне колькасці набраных радкоў шляхам рэдагавання, павелічэння прабелаў паміж словамі і літарамі.

**ВЫДАВЕЦ.** Установа або асоба, што выпускаюць друкаваную прадукцыю.

**ВЫДАВЕЦКА-ПАЛІГРАФІЧНЫ КОМПЛЕКС.** Юрыдычна аформленае і афіцыйна зарэгістраванае аб’яднанне, якое ажыццяўляе рэдакцыйную падрыхтоўку і паліграфічнае выкананне розных відаў выданняў.

**ВЫДАВЕЦКАЯ АНАТАЦЫЯ.** Анатацыя выдавецтва, размешчаная ў выданні на абароце тытульнага ліста, апошняй старонцы вокладкі, пераплёце, клапане супервокладкі. Асноўная мэта анатацыі – коратка ахарактарызаваць змест і адметнасць выдання, падкрэсліць яго асаблівыя якасці.

**ВЫДАВЕЦКАЯ КАЛЕГІЯ** (р э д к а л е г і я). Орган, створаны ў выдавецтве для кіраўніцтва яго дзейнасцю, абмеркавання і вырашэння ўсіх важнейшых пытанняў. Памеры калегіі, яе склад, паўнамоцтвы і абавязкі вызначаюцца статутам працоўнага калектыву ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі». Выдавецкая калегія можа выступаць як орган, які поўнасцю адказвае за работу калектыву, але часцей яна выконвае дарадчыя функцыі і дапамагае дырэктару ў кіраванні калектывам. У склад выдавецкай калегіі, як правіла, уваходзяць дырэктар, галоўны рэдактар, іх наметнікі, загадчыкі асноўных аддзелаў і рэдакцый, менеджар (камерцыйны дырэктар), а таксама могуць быць уключаны яе заснавальнікі і кіраўнікі або прадстаўнікі ўстаноў ці арганізацый, якія садзейнічаюць выпуску выдавецкай прадукцыі.

**ВЫДАВЕЦКАЯ МАРКА.** Фірменны знак, эмблема выдаўца або выдавецтва, у якіх сімвалічна адлюстроўваецца спецыфіка іх дзейнасці.

**ВЫДАВЕЦКАЯ НАЗВА.** Друкаваная адзінка, новае або паўторнае выданне.

**ВЫДАВЕЦКАЯ ПРАДУКЦЫЯ.** Выданне, сукупнасць выданняў, выпушчаных у свет, незалежна ад тыражу, спосабу вырабу, напрыклад: *кніга, часопіс,* газета*, брашура, альбом,* плакат*, буклет,* паштоўка*,* іншы выраб паліграфічнай вытворчасці.

**ВЫДАВЕЦКІ АСАРТЫМЕНТ.** Агульная колькасць назваў выданняў, якія выпусцілі выдавецтва або рэдакцыя за пэўны перыяд часу.

**ВЫДАВЕЦКІ ДАГАВОР.** Дагавор, у якім вызначаюцца ўзаемаадносіны паміж аўтарам і выдавецтвам. У ім агаворваюцца памеры, якасць рукапісу, тэрміны здачы, ганарар за працу і інш.

**ВЫДАВЕЦКІ ДОМ.** Арганізацыя, якая мае юрыдычную і фінансавую самастойнасць і афіцыйную ліцэнзію на вядзенне выдавецкай дзейнасці. Ажыццяўляе рэдакцыйную падрыхтоўку або таксама і выпуск *кніг, брашур,* газет*, часопісаў.* У адпаведнасці са статутам выдавецкі дом можа займацца рэкламнай, інфармацыйнай і іншымі відамі дзейнасці.

**ВЫДАВЕЦКІ КАТАЛОГ.** Каталог, які ўтрымлівае пералік выданняў, выпушчаных выдавецтвам за пэўны перыяд.

**ВЫДАВЕЦТВА.** Прадпрыемства (дзяржаўнае, грамадскае, кааператыўнае, прыватнае, змешанае), якое ажыццяўляе падрыхтоўку і выпуск друкаванай прадукцыі. Па відах выпускаемай прадукцыі адрозніваюць выдавецтвы кніжныя, кніжна-часопісныя, газетныя, газетна-часопісныя. У асноўным выдавецтвы тыпізаваны па тэматычным прынцыпе, мэтавым або чытацкім прызначэнні. У Рэспубліцы Беларусь у 2011 г. працавалі шэсць дзяржаўных выдавецтваў: «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, «Беларусь», «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Беларуская навука», «Мастацкая літаратура». Акрамя таго, выдавецкай дзейнасцю зай-

маліся больш як 600 суб’ектаў гаспадарання розных форм уласнасці. Паспяхова працуюць буйнейшыя паліграфічныя прадпрыемствы – Беларускі Дом друку, Мінская фабрыка каляровага друку, Мінскі паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа. Выдавецтвы і паліграфічныя прадпрыемствы выпускаюць усе асноўныя віды літаратуры – вучэбную і вучэбна-метадычную, мастацкую, дзіцячую, энцыклапедычную, навуковую і інш.

**ВЫДАННЕ.** Твор, атрыманы шляхам друкавання або ціснення, паліграфічна аформлены, які прайшоў рэдакцыйна-выдавецкую апрацоўку, мае ўстаноўленыя выхадныя звесткі і прызначаны для распаўсюджвання змешчанай у ім інфармацыі.

**ВЫДЗЯЛЕННЕ Ў ТЭКСЦЕ.** Набор з мэтай выдзялення абзацаў, сказаў, слоў шрыфтам, які адрозніваецца ад асноўнага. Выдзяленне ў тэксце можа быць зроблена курсівам, больш буйным або дробным шрыфтам, разрадкай (павелічэннем прабелаў паміж літарамі і знакамі), падкрэсліваннем лінейкамі слоў і сказаў, паўтлустым, тлустым шрыфтам.

**ВЫКЛЕЕНЫ МАКЕТ.** Макет вёрсткі, як правіла, выклееены тэхнічным рэдактарам з адбіткаў гранак і пробных адбіткаў арыгіналаў папалосна.

**ВЫКЛЮЧКА РАДКОЎ.** Раўнамернае змяненне прабелаў паміж словамі для давядзення радка да патрэбнага фармата.

**ВЫПУСКАЮЧЫ.** Прадстаўнік рэдакцыі ў выдавецтве, дзе друкуюцца часопісы, газеты. Сочыць за дакладным і правільным праходжаннем усіх тэхналагічных працэсаў, тэхнічным афармленнем і своечасовым выхадам выдання.

**ВЫПУСКНЫЯ ДАНЫЯ.** Частка выпускных звестак, у якой даецца вытворча-тэхнічная характарыстыка выдання, даты яго праходжання ў вытворчасці, назвы і адрасы выдавецтва і друкарні.

**ВЫСОКАМАСТАЦКАЯ КНІГА.** Выданне, для якога характэрны індывідуальны макет мастацкага афармлення, высакаякасная папера і іншыя паліграфічныя матэрыялы, асобныя дэталі (лясэ, футляр, супервокладка), прымяненне розных, у тым ліку рэдкіх, спосабаў друку і рэпрадуцыравання, але найперш – цэльнасць і мастацкая прадуманасць усіх кампанентаў выдання.

**ВЫСОКІ ДРУК.** Спосаб друку, калі перадача адлюстравання на паперы робіцца з формы, друкарскія элементы якой рэльефна ўзвышаюцца над плоскасцю формнага матэрыялу. Высокі друк – прамы спосаб перадачы адлюстравання, гэта значыць, што фарба з формы перадаецца непасрэдна на паперу.

**ВЫХАДНЫ ЛІСТ.** Першы ліст кнігі, на якім указваюцца назва кнігі, аўтар, выдавецтва, месца выхаду і год выдання.

**ВЫХАДНЫЯ ЗВЕСТКІ.** Асноўныя даныя аб друкаваным творы з указаннем месца і часу выхаду ў свет, тыражу, памераў. Выхадныя звесткі не-

абходны для бібліятэчна-бібліяграфічнай апрацоўкі, а таксама для ўліку і планавання выдавецкай і рэдакцыйнай дзейнасці.

**ВЫЧЫТКА.** Граматычная і рэдакцыйна-тэхнічная апрацоўка арыгінала выдання, падрыхтаванага рэдактарам да набору.

**«ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА».** Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства, адно з буйнейшых у Беларусі. Заснавана ў 1961 г. у Мінску на базе выдавецтва і рэдакцыйна-выдавецкага аддзела БДУ. Да 1963 г. называлася выдавецтвам вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР. Выдае падручнікі, навуковыя дапаможнікі і навучальна-метадычную літаратуру для ВНУ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, манаграфіі, навукова-папулярную літаратуру, даведнікі, слоўнікі. Тэматыка выпускаемых кніг: беларуская і руская мовы, літаратура, культура; біялогія, хімія, экалогія; замежныя мовы (англійская, нямецкая, французская, іспанская, кітайская); гісторыя, матэматыка, фізіка, хімія, інфарматыка, медыцына і педагогіка, псіхалогія; тэхніка, тэхналогія, эканоміка, менеджмент, маркетынг, правазнаўства і інш. Аб'ём гадавога выпуску – каля 150 назваў, тыраж – больш за 900 тыс. экзэмпляраў.

**ВЫЯЎЛЕНЧАЯ РЭКЛАМА.** Рэкламная аб'ява ў прэсе, якая, у адрозненне ад радковай або рубрычнай рэкламы, распрацоўваецца з выкарыстаннем прыёмаў прыцягнення ўвагі чытачоў, напрыклад: *ілюстрацый,* вылучальных шрыфтоў, свабодных ад тэксту ўчасткаў або колеру.

**ВЯРСТАЛЬШЧЫК.** Спецыяліст камп'ютарнай сістэмы, які вярстае палосы газеты, старонкі часопіса або кнігі. Ад яго прафесіяналізму залежыць узровень тэхнічнага і мастацкага афармлення друкаванага выдання.

# Г

**ГАДАВЫ ТЫРАЖ.** Сума тыражоў выданняў, якія выйшлі ў свет у пэўным годзе ў выдавецтве (краіне).

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР.** Асоба, якая вызначае рэдакцыйную палітыку выдавецтва і кіруе ўсёй рэдакцыйнай работай калектыву.

**ГАНАРАР** (ад лац. honorarium – узнагароджанне за паслугі). Узнагароджанне, што выплачваецца аўтару або яго нашчадкам за выкарыстанне твора літаратуры, навукі, мастацтва ці журналістыкі, на які распаўсюджваецца аўтарскае права, незалежна ад формы і прызначэння твора, а таксама спосабу яго выкарыстання.

**ГАРНІТУРА.** Камплект шрыфтоў аднаго малюнка, але розных памераў (кегеляў) і абрысаў. Кожная гарнітура мае сваю назву, напрыклад «новая газетная». Многія гарнітуры носяць назвы іх стваральнікаў-мастакоў: «Лазурскага», «Баннікаўская».

**ГАРТ.** Друкарскі сплаў са свінцу, сурмы і волава, які выкарыстоўваецца для адліўкі літар і радкоў металічнага набору і стэрэатыпаў.

**ГЕКТОГРАФ.** Прыбор, які друкуе адбіткі з рукапіснага тэксту або малюнка пры дапамозе спецыяльнай жэлацінавай масы.

**ГЛУХАЯ ВЁРСТКА.** Спосаб вёрсткі кніг. Клішэ абрамляецца тэкстам з чатырох бакоў, што стварае ўражанне арыгінальнай падачы ілюстрацыі, глухога дапаўнення кніжнай старонкі.

**ГЛЫБОКІ ДРУК.** Спосаб друку з формы, якая складаецца з паглыбленых друкарскіх элементаў, што ляжаць у адной плоскасці з прабельнымі элементамі. Глыбіня друкуючых элементаў розная і адпавядае танальнасці арыгінала. На адбітку розныя слаі фарбы даюць магчымасць перадаць драбнейшыя нюансы светлаценяў – ад самага светлага да максімальна насычанага. Глыбокі друк выкарыстоўваецца для друкавання высокатыражных ілюстраваных выданняў, альбомаў, часопісаў, каштоўных папер, паштовых марак, шпалераў, тэкстурных папер і г. д.

**ГОД ВЫПУСКУ ВЫДАННЯ.** Апошні элемент выхадных звестак выдання. Ім лічыцца год выпуску ў свет экзэмпляраў твора, г. зн. год здачы тыражу або яго пачатковай партыі ў кнігагандлёвую арганізацыю. Указваецца арабскімі лічбамі без скарочанага або поўнага слова «год».

**ГРАВЮРА.** Малюнак, узноўлены з клішэ, выразанага ручным спосабам па дрэве, метале або лінолеуме (лінагравюра).

**ГРАТЭСК.** 1. Твор мастацтва (карыкатура, сяброўскі шарж) з элементамі перабольшання. 2. Назва газетнага і кніжнага шрыфтоў, якія выкарыстоўваюцца для набору загалоўкаў, шапак, рубрык, падзагалоўкаў.

**ГРАФЕМА.** Тыпавая графічная форма (будова) літары, дзякуючы якой чытач пазнае літару незалежна ад мастацкіх асаблівасцей яе выканання.

**ГРАФІКА.** 1. Разнавіднасць выяўленчага мастацтва, заснаванага на камбінацыях ліній і штрыхоў, кантрасту белага і чорнага без выкарыстання фарбы. 2. Творы гэтага віду мастацтва.

**ГРУПОЎКА РАДКОЎ ЗАГАЛОЎКА.** 1. Падзел загалоўка на радкі, які па тэхнічных правілах набору павінен выконвацца па сэнсе, г. зн. так, каб цесна звязаныя словазлучэнні не аказаліся ў розных радках, бо гэта ўскладняе чытанне. 2. Размеркаванне радкоў загалоўка па той або іншай сістэме іх групоўкі, напрыклад: блочнай, асіметрычнай, ступеньчатай і г. д.

# Д

**ДАВЕДНІК.** 1. Даведачнае выданне прыкладнога, практычнага характару, матэрыял, у якім артыкулы размешчаны ў сістэматызаваным парадку або па алфавіце. 2. Даведнік, які ўтрымлівае звесткі аб нейкім геаграфічным пункце, раёне або культурна-асветніцкай установе, выставе, экспазіцыі і г. д., размешчаныя ў парадку, зручным для азнаямлення.

**ДАГАВОРНЫ ВЫДАВЕЦКІ ПАРТФЕЛЬ.** Уключае: 1) яшчэ не створаныя аўтарам і не прадстаўленыя ў выдавецтва творы, на якія заключаны аўтарскі дагавор; 2) аўтарскія арыгіналы твораў, якія паступілі ў выдавецтва паводле аўтарскага дагавору, але яшчэ не адобраны; 3) аўтарскія арыгіналы твораў, якія паступілі самацёкам (без заказу) і могуць быць прыняты да выдання.

**ДАГАВОРНЫ ГОД.** Абумоўленая працягласць (тэрмін дзеяння) кантракта, заключанага з арганізацыяй распаўсюджвання рэкламы.

**ДАДАТКОВЫ ТЫРАЖ.** Выраб пасля выпуску і здачы асноўнага тыражу ў кнігагандлёвую сетку ў межах таго ж каляндарнага года дадатковага тыражу, які раней не планаваўся. У такім разе з аўтарам заключаецца паўторная дамова, а ў выпускных даных аб тыражы робіцца заўвага (дадатковы тыраж).

**ДАДРУКОЎКА ТЫРАЖУ.** Гл. *Дадатковы тыраж.*

**ДАЗДАЧА ТЫРАЖУ.** Здача друкарняй выдавецтву часткі або частак агульнага тыражу выдання пасля таго, як была здадзена асноўная частка тыражу.

**ДАЙДЖЭСТ** (ад англ. digest – кароткае ізлажэнне). Зборнік, у якім змешчаны найбольш цікавыя матэрыялы, перадрукаваныя з іншых выданняў.

**ДАКУМЕНТАЛЬНА-МАСТАЦКАЕ ВЫДАННЕ.** Літаратурна-мастацкае выданне, што ўтрымлівае твор (творы), у аснову якога пакладзены навуковы факт.

**ДАПАМОЖНІК.** Выданне, прызначанае для дапамогі ў практычнай дзейнасці або ў авалоданні вучэбнай дысцыплінай.

**ДВУХФАРБАВАЯ ДРУКАРСКАЯ МАШЫНА.** Друкарская машына, якая прызначана для друкавання адначасова ў дзве фарбы з дзвюх друкарскіх форм.

**ДЗЕСЦЬ.** Мера паперы, роўная 50 *аркушам*.

**ДЗЁННІК.** Разнавіднасць мемуарнай літаратуры; выкананыя ў храналагічнай паслядоўнасці запісы аб падзеях у асабістым і грамадскім жыцці, аб думках і перажываннях, выкліканых гэтымі падзеямі.

Асабліва вялікую цікавасць прадстаўляюць пісьменніцкія дзённікі: яны даюць чытачам і літаратуразнаўцам багаты матэрыял па тэорыі грамадскай думкі пэўнага часу, расказваюць пра падзеі, звязаныя з біяграфіяй майстра, пра гісторыю стварэння асобных твораў. У форме дзённіка напісаны арыгінальныя мастацкія творы «Дневник лишнего человека» І. Тургенева, «Дневник провинциала в Петербурге» М. Салтыкова-Шчадрына. У беларускай прозе такую форму выбралі М. Гарэцкі («На імперыялістычнай вайне»), К. Чорны («Дзённік»), Я. Колас («Кніга ташкенцкага быц-

ця»), І. Мележ («Першая кніга»), М. Танк («Ліссткі календара»), Я. Брыль («Жменя сонечных промняў») і інш.

**ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ** (Д з я р ж к а м д р у к). Уваходзіў у сістэму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкоўваўся ўраду Рэспублікі Беларусь. Дзяржкамдрук меў абласныя ўпраўленні па друку. У сферы яго дзейнасці знаходзіліся друкаваныя сродкі масавай інфармацыі, выдавецкая справа, кніжны гандаль, паліграфія і кнігадрукаванне. Да 1996 г. у Беларусі не было сваіх паліграфічных вышэйшых навучальных устаноў. Цяпер Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт рыхтуе спецыялістаў па спецыяльнасцях: «Тэхналогія паліграфічных вытворчасцей», «Выдавецкая справа», «Паліграфічнае абсталяванне: сродкі апрацоўкі інфармацыі». Прафесійных журналістаў рыхтуе Інстытут журналістыкі БДУ. Гл. *Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*. 24.09.2001 г. Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку пераўтвораны ў *Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.*

**ДРУК.** 1. Адзін са спосабаў фіксацыі інфармацыі (тэксту, фотаздымкаў, малюнкаў, схем, графікаў і г. д.) з дапамогай тыражавання адбіткаў з друкарскай формы. 2. Сукупнасць надрукаваных выданняў, друкаваная прадукцыя, у тым ліку і перыядычныя, і неперыядычныя друкаваныя сродкі масавай інфармацыі.

**ДРУК У АБРЭЗ.** Друкаванне рэкламных аб'яў без палёў, пад абрэз старонкі. Як правіла, такая аперацыя прыводзіць да падаражання друкарскіх паслуг.

**ДРУКАВАНЫ АРКУШ.** Адзінка вымярэння аб'ёму выдання, роўная плошчы аднаго боку папяровага ліста стандартнага фармата.

**ДРУКАРСКАЯ СІСТЭМА МЕР.** Гл. *Сістэма мер у паліграфіі.*

**ДСТ**. Дзяржаўны стандарт.

**ДУБЛІКАТ.** Дадатковы друкаваны арыгінал часткі рукапісу, набранай шрыфтам, які адрозніваецца ад шрыфту асноўнага тэксту (табліцы, зноскі, формулы, загалоўкі, цытаты, тэкстоўкі і г. д.).

**ДЫСТАНЦЫЙНЫ НАБОР.** Перадача паліграфічнага набору тэксту па тэлеграфе.

**ДЫЯПАЗІТЫЎ.** Прамое фатаграфічнае адлюстраванне на шкле або іншым матэрыяле.

**ДЭКАЛЬКАМАНІЯ.** Спосаб пераносу малюнка, звычайна шматфарбнага, з паперы на паперу, шкло, дрэва, фарфор і іншыя матэрыялы. Выкарыстоўваецца для пераносу чарцяжоў, схем, стандартных надпісаў.

**ДЭФІС.** Рыска, якая з'яўляецца знакам пераносу або служыць для злучэння слоў. Графічна дэфіс абазначаецца пры праўцы дзвюма кароткімі рыскамі ў адрозненне ад працяжніка, які абазначаецца адной доўгай рыскай.

# Ж

**ЖАНРАВЫ ЗБОРНІК.** Зборнік твораў аднаго жанру або формы, напрыклад: нарысаў, артыкулаў, эсэ і г. д.

**ЖУРНАЛІСТ.** Прафесійны работнік сродкаў масавай інфармацыі, інфармацыйных агенцтваў, прэс-службаў, а таксама прафесіянал у гэтай сферы, які не ўваходзіць у штат рэдакцыі, а працуе па заказе (пазаштатны супрацоўнік) або самастойна піша матэрыялы і прапануе іх рэдакцыям. Дзейнасць журналістаў ажыццяўляецца ў трох сферах – аўтарскай, рэдактарскай, адміністрацыйна-арганізацыйнай.

Аўтарская работа журналістаў заключаецца ў стварэнні твораў, разлічаных на фарміраванне масавай свядомасці (грамадскай думкі, светапогляду, гістарычнай свядомасці) аўдыторыі. Як правіла, журналісты працуюць у розных жанрах. Ва ўмовах плюралізму ў сродках масавай інфармацыі, калі падзеі і ўчынкі могуць разглядацца з розных пунктаў гледжання і па-рознаму інтэрпрэтавацца, журналісты абавязаны прытрымлівацца рэальных фактаў і поглядаў, выпрацаваных на аснове дадзенага сродку масавай інфармацыі.

Рэдактарская работа журналістаў заключаецца ў стварэнні і рэалізацыі інфармацыйнай палітыкі (праграмы) выдання. Паўсядзённая рэдактарская работа журналістаў – стварэнне бягучага нумара: заказ матэрыялаў для яго, падбор і апрацоўка тэкстаў, вызначэнне структуры нумара (размяшчэнне матэрыялаў, фарміраванне загаловачных комплексаў) і г. д.

Адміністрацыйна-арганізацыйная дзейнасць журналістаў заключаецца ў фарміраванні калектыву па ўзгадненні з заснавальнікам-выдаўцом, у падрыхтоўцы, прыняцці і выкананні статута рэдакцыі, вызначэнні структуры рэдакцыі і парадку ўзаемадзеяння розных службаў, наладжванні сувязей з агенцтвамі і прэс-цэнтрамі, рэкламнымі арганізацыямі і рэкламадаўцамі, матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні работы рэдакцыі (праграмы), арганізацыі распаўсюджвання тыражу, вывучэнні попыту чытацкай аўдыторыі і іншых формах забеспячэння работы рэдакцыі.

Тэрмінам «журналіст» у тэорыі функцыянавання сродкаў масавай інфармацыі абазначаецца адзін з суб’ектаў сістэмы «заснавальнік – журналіст – аўдыторыя», пры гэтым тэрмін падразумявае не толькі асобнага работніка сродку масавай інфармацыі, але і рэдактара, журналісцкі калектыў, орган інфармацыі.

Дзейнасць журналістаў рэгулюецца юрыдычнымі нормамі заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі, аб праве на інфармацыю і абарону інфармацыі, аб правах грамадзян і сацыяльных інстытутаў і аўтарскіх правах. Самарэгуляцыя ў журналісцкім корпусе ажыццяўляецца на аснове

этычных кодэксаў, статутаў рэдакцый, правіл паводзін персаналу, іншых дакументаў, а таксама няпісаных норм, агульнапрынятых у асяроддзі журналістаў.

**ЖУРНАЛІСТЫКА.** Сацыяльны інстытут, які ўзнік у сувязі з неабходнасцю распаўсюджвання інфармацыі: сацыяльнай (масавай – для шырокіх слаёў аўдыторыі ў адпаведнасці з яе запатрабаваннямі), спецыяльнай (навуковай, тэхнічнай, медыцынскай і інш.), разлічанай на прафесіяналаў, і той, дзе спалучаюцца рысы масавай і спецыяльнай інфармацыі.

Журналістыка для масавай аўдыторыі – гэта сукупнасць сродкаў масавай інфармацыі, якія выконваюць сацыяльна арыентаваную ролю ў сферы масавай свядомасці праз зварот да грамадскай думкі, гістарычнай свядомасці розных груп грамадства. Сучасная журналістыка – гэта сістэма друку (газет, штотыднёвікаў, часопісаў), радыё- і тэлевізійных праграм, функцыянаванне якіх забяспечваецца інфармацыйнымі агенцтвамі, прэс-службамі і г. д.

Развітай сістэме журналістыкі папярэднічала сукупнасць пражурналісцкіх з'яў, якія ўзніклі ў сувязі з неабходнасцю перадачы інфармацыі ўжо на першых кроках развіцця чалавецтва. Спачатку гэта былі вусныя выступленні, затым інфармацыя перадавалася ў пісьмовым выглядзе на скрутках папірусу ці на пакрытых глінай або гіпсам драўляных дошках. У Еўропе да ўзнікнення кнігадрукавання распаўсюджваліся рукапісныя зводкі навін. У Італіі яны рыхтаваліся спецыяльнымі цэхамі, а ў дапятроўскай Русі – Пасольскім прыказам.

Журналістыка ўзнікла ў Еўропе ў пачатку XVII ст. з мэтай выдання друкаваных газет, а праз паўвека пачаўся выпуск часопісаў. У сярэдзіне XIX ст. з'явіліся тэлеграфныя агенцтвы, у 20-я гг. XX ст. хутка развівалася радыёвяшчанне, а з 40-х гг. – тэлебачанне.

Сучасная журналістыка выкарыстоўвае навейшую паліграфічную, радыя- і тэлевізійную тэхніку, разнастайныя каналы наземнай і касмічнай сувязі. Праз камп'ютарныя сеткі можна атрымліваць электронныя версіі газет, аўдыя- і відэаінфармацыю, запытваць інфармацыю з банкаў даных у розных краінах. Перад журналістыкай паступова адкрываецца сусветная інфармацыйная прастора.

Дзейнасць журналістыкі рэгулюецца рознымі міжнароднымі арганізацыямі (ААН, ЮНЕСКА, Саветам Еўропы і інш.) і нацыянальным заканадаўствам (у Рэспубліцы Беларусь – Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі» і шэрагам іншых заканадаўчых актаў. У адпаведнасці з імі ў рэспубліцы фарміруюцца дзеючыя ў сферы журналістыкі дзяржаўныя і грамадскія органы, прафесійныя арганізацыі журналістаў).

# З

**ЗАВОД.** Частка агульнага тыражу выдання, які з-за тэхнічных абмежаванняў прыходзіцца вырабляць партыямі ў розны час або аднячасова, але на розных паліграфпрадпрыемствах.

**ЗАГАЛОВАК.** Назва літаратурнага твора, серыі, падсерыі, якая адлюстроўвае тэму, ідэю, прадмет, цэнтральны вобраз. Загаловак павінен адпавядаць зместу публікацыі, даваць уяўленне пра яе тэму, галоўную ідэю, характар і кірунак. Важнымі якасцямі загалоўка з'яўляюцца выразнасць, лаканічнасць, вобразнасць, здольнасць зацікавіць чытача, прыцягнуць яго ўвагу, прымусіць прачытаць матэрыял. Загаловак набіраецца ў адзін або некалькі радкоў, адным або рознымі шрыфтамі і, як правіла, ставіцца над матэрыялам, да якога адносіцца. У некаторых выпадках (напрыклад, для разбіўкі буйнога тэкставага кавалка) загаловак пераносіцца ў сярэдзіну матэрыялу.

**ЗАГАЛОВАК-ЦЫТАТА.** Загаловак, які ўяўляе вытрымку з тэксту пэўнага твора, звычайна класічнага, і заключаецца ў двукоссе.

**ЗАКАЗ НА ПУБЛІКАЦЫЮ.** Пісьмовая інструкцыя з указаннем надрукаваць рэкламную аб'яву пэўнага памеру ў канкрэтным нумары газеты або часопіса па дагаворнай цане.

**ЗАКАЗНОЕ ВЫДАННЕ.** Кніга або брашура, выпушчаная выдавецтвам па заказе арганізацыі ці ўстановы, а не па дагаворы з аўтарам.

**ЗАЛАТОЕ СЯЧЭННЕ** (з а л а т а я   п р а п о р ц ы я). Прынцып дзялення такім чынам, каб суадносіны паміж вышынёй і шырынёй паласы набору або старонкі кнігі (разам з палямі) былі такімі, што меншая частка адносілася да большай так, як большая да цэлага.

**ЗАСТАЎКА.** Малюнак, як правіла, у канцы матэрыялу. Застаўка звязваецца з тэмай тэкстаў, пераклікаецца з ім і загалоўкам. Пастаянныя застаўкі ёсць у большасці газет і часопісаў.

**ЗАЎВАГІ І КАМЕНТАРЫІ.** Тлумачэнні або дапаўненні да асноўнага тэксту, калі ён можа быць незразумелы чытачу ва ўсім аб'ёме і тонкасцях або ўспрыняты няправільна. Розніца паміж гэтымі тэрмінамі заключаецца ў тым, што заўвагі – гэта кароткая даведка да слова (слоў), а каментарыі – талкаванне тэксту твора ў цэлым або яго фрагмента. Здараецца, што такія паняцці ідуць побач, тады гэтую частку апарату лепш азагаловіць «Заўвагі і каментарыі».

Заўвагі і каментарыі падраздзяляюцца на аўтарскія, выдавецкія, тэксталагічныя, гісторыка-літаратурныя, рэальныя, слоўнікавыя і г. д.

Тэксталагічны каментарый утрымлівае звесткі па гісторыі падрыхтоўкі тэксту да друку. У ім даецца разгорнутае тлумачэнне тэксталагічнай работы, якая праводзілася пры падрыхтоўцы выдання. У акадэмічных і на-

вуковых выданнях каментарыі больш аб'ёмныя, складаныя, у масавых уяўляюць кароткае паведамленне пра час выхаду твора, час і месца першай публікацыі.

У гісторыка-літаратурным каментарыі раскрываецца сэнс твора, гісторыя яго стварэння, лёс. Рэальны каментарый дае тлумачэнні гістарычным падзеям, называе імёны і прозвішчы. У слоўнікавым каментарыі тлумачацца словы і моўныя тонкасці (архаізмы, неалагізмы, дыялекталагізмы і г. д.). Яны могуць размяшчацца ў тэксце або выдзяляцца шрыфтам і загалоўкам «Заўвага».

**ЗБОР САЧЫНЕННЯЎ.** Полівыданне, у якім поўна прадстаўлена творчасць аўтара за ўвесь перыяд або за пэўны этап творчай дзейнасці. Віды збораў: поўны, збор твораў, выбраныя творы.

**ЗБОРНІК НАВУКОВЫХ ПРАЦ (РАБОТ).** Выданне, якое ўтрымлівае даследчыя матэрыялы навуковых і вучэбных устаноў, таварыстваў, аднаго або некалькіх аўтараў.

**ЗВЕРКА.** Адзін з відаў карэктуры. У час унясення карэктарскіх правак у падпісанай да друку паласе могуць з'явіцца памылкі. У працэсе тэхнічнай зверкі іх знаходзяць і выпраўляюць.

**ЗМЕШАНЫ НАБОР.** Набор рознымі шрыфтамі розных памераў.

**ЗНАК.** Умоўны графічны сімвал, які служыць для нагляднага абазначэння прадметаў, паняццяў, з'яў і, як правіла, выкарыстоўваецца пры наборы тэкстаў, напрыклад: астранамічны знак, матэматычны знак, знакі прыпынку, знак для абазначэння зносак.

**ЗНАК АХОВЫ АЎТАРСКАГА ПРАВА** (капірайт). Знак, які ўказвае, што твор або частка выдання ахоўваюцца аўтарскім правам. Знак аховы аўтарскага права © абазначаецца лацінскай літарай, змешчанай у крузе, побач з якой указваюцца прозвішча ўласніка аўтарскага права і год першага выпуску ў свет. Гл. *Аўтарскае права.*

**ЗОРАЧКА.** Знак, які выкарыстоўваецца для абазначэння зносак. У некаторых выданнях зорачка больш буйнога памеру выкарыстоўваецца для аддзялення загалоўка ад падзагалоўка ці шапкі ад загалоўка, завярстанага ніжэй.

**ЗРОКАВЫ ЦЭНТР СТАРОНКІ** (аптычны цэнтр старонкі). Кропка на старонцы, якая знаходзіцца ніжэй геаметрычнага цэнтра старонкі, але стварае ў чытача ўражанне, што пастаўлены на яе месцы загаловак або фотаздымак дзеліць старонку па вышыні на роўныя часткі. Калі ж іх размясціць у геаметрычным цэнтры, яны здадуцца чытачу апушчанымі, гэта значыць быццам бы дзеляць старонку на няроўныя часткі (зверху большую, чым знізу).

**ЗРЫЎ ПАПЕРЫ.** Пашкоджаныя слаі паперы ў рулоне, якія не выкарыстоўваюцца пры друку.

# I

**ІЛЮСТРАЦЫЯ** (ад лац. illustratio – выява, жывое апісанне). Адлюстраванне, якое праясняе, тлумачыць або дапаўняе які-небудзь тэкст, напрыклад: фатаграфія, малюнак, *чарцёж*, *карта*.

**ІМІТАЦЫЙНЫ ШРЫФТ.** Шрыфт, падобны па напісанні на машынапісны або рукапісны. Надае выданню арыгінальнасць і своеасаблівую стылізацыю.

**ІНІЦЫЯЛ.** Пачатковая прапісная літара павялічанага памеру. Маляваныя ініцыялы выкарыстоўваюцца для ўпрыгожвання і выдзялення тэксту.

**ІНСТРУКЦЫЯ.** Афіцыйнае або нарматыўнае вытворча-практычнае выданне, якое ўтрымлівае правілы па рэгуляванні вытворчай і грамадскай дзейнасці або па карыстанні вырабамі ці паслугамі.

**ІНСТЫТУТ ЖУРНАЛІСТЫКІ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА.** Факультэт журналістыкі БДУ пачаў сваю дзейнасць 1 лістапада 1944 г. Першы выпуск адбыўся ў 1949 г., калі 20 выпускнікоў факультэта атрымалі дыпломы прафесійных журналістаў.

За апошнія гады факультэт журналістыкі фактычна поўнасцю мадэрнізаваў вучэбныя планы, абнавіў вучэбна-тэхнічную базу; з'явіліся новыя кафедры, лабараторыі, вучэбны цэнтр камунікацыйных тэхналогій, у склад якога ўваходзіць пяць вучэбных лабараторый. Адкрыты новыя спецыяльнасці: «Інфармацыя і камунікацыя», «Міжнародная журналістыка», «Літаратурная работа». У 1998 г. на аснове кафедры тэорыі і практыкі сучаснай журналістыкі створаны кафедры перыядычнага друку, сацыялогіі журналістыкі, літаратурна-мастацкай крытыкі, тэхналогій камунікацыі. У верасні 2005 г. была створана кафедра тэорыі і метадалогіі журналістыкі. У многіх рэдакцыях рэспубліканскіх выданняў, на радыё і тэлебачанні дзейнічаюць філіялы факультэцкіх кафедраў – своеасаблівыя творчыя лабараторыі журналісцкага майстэрства. Пры факультэце арганізавана эксперыментальнае творчае тэлерадыёаб'яднанне (рус. ЭМТТРО), дзе практыкуюцца студэнты, працуюць курсы перападрыхтоўкі журналісцкіх кадраў. У 2009 г. факультэт ператвораны ў Інстытут журналістыкі БДУ.

**ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ.** Спецыфічны від уласнасці на вынікі інтэлектуальнай індывідуальнай або калектыўнай працы. У міжнародных пагадненнях, а таксама ў заканадаўстве некаторых краін – зборны тэрмін. У інтэлектуальную ўласнасць уключаюцца правы, якія адносяць да навуковых, мастацкіх і літаратурных твораў, выканаўчай дзейнасці артыстаў, гуказапісу, радыё- і тэлеперадач (гэта значыць аўтарскія правы), таксама правы, звязаныя з абаронай ад нядобрасумленнай канкурэнцыі. Паняцце інтэлектуальнай уласнасці ўпершыню выкарыстана ў 1967 г. у Канвенцыі аб стварэнні Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці.

**ІНТЭРЛІНЬЯЖ.** Адлегласць паміж радкамі набору.

**ІНТЭРПАЛЯЦЫЯ** (ад лац. interpolatio – змяненне, пераробка). Унясенне ў аўтарскі тэкст слоў і словазлучэнняў, якія не належаць аўтару. Інтэрпаляцыя або тлумачыць тэкст, або ўказвае на згоду ці нязгоду чытача з аўтарскім выказваннем. Як правіла, інтэрпаляцыя ўтрымлівае спасылкі на іншыя месцы гэтага твора, прыводзяцца меркаванні іншых аўтараў.

**ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ЁМКАСЦЬ**. Колькасць інфармацыі, якая змяшчаецца ў паведамленні (дакуменце).

**ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТОК.** Рэфератыўнае неперыядычнае выданне аб навукова-тэхнічных дасягненнях.

# К

**КАДРЫРАВАННЕ.** Прыём, з дапамогай якога выяўляецца найбольш выразны фрагмент.

**КАЛЕКТЫЎНЫ АЎТАР.** Арганізацыя, прадпрыемства, ад імя якіх апублікавана выданне. Указваецца ў надзагаловачных даных у якасці першага элемента.

**КАЛЕКТЫЎНЫ ЗБОРНІК.** Зборнік твораў розных аўтараў. Можа мець агульны загаловак, што дае магчымасць не ўказваць на тытульным лісце прозвішча аўтараў, творы якіх змешчаны ў выданні.

**КАЛЕНКОР.** Матэрыял, выраблены на тканіннай аснове са спецыяльным слоем пакрыцця.

**КАЛІДОР У КАРЭКТУРНЫМ ТЭКСЦЕ.** Міжслоўныя прабелы ў групе запар размешчаных радкоў (не менш трох), якія сумешчаны па вертыкалі або пад вуглом і ствараюць ураджанне трэшчыны, разарванасці тэксту.

**КАЛОНКА.** Частка паласы пры шматкалонкавай вёрстцы выдання, утвораная радкамі, якія набраны на фармат, што складае пэўную долю ад агульнага фармата набору паласы, і аддзеленая ад сумежнай калонкі вертыкальным прабелам.

**КАЛОНЛІНЕЙКА.** Лінейка, размешчаная ўверсе кожнай паласы, старонкі кнігі ў якасці ўпрыгожвання, а таксама для аддзялення калонтытула ад асноўнага тэксту.

**КАЛОНЛІЧБА.** Парадкавы лічбавы нумар старонкі выдання або слупка (пры нумарацыі па слупках). Размяшчаецца ў ніжнім або верхнім месцы старонкі ў самых розных месцах ад краю набору. Па тэхнічных правілах калонлічба не ставіцца на тытульным лісце, яго абароце, старонцы з перадвыпускнымі і выпускнымі данымі, а таксама на старонках, запоўненых ілюстрацыямі.

**КАЛОНТЫТУЛ.** Даведачны радок над тэкстам старонкі (магчыма збоку ад яго, радзей пад ім), які ўказвае на яго змест: у зборніку – які твор

якога аўтара на старонцы надрукаваны; у манаграфіі – да якога параграфа якой главы ён адносіцца, якую тэму асвятляе.

**КАЛЬКУЛЯЦЫЯ САБЕКОШТУ ВЫДАННЯ.** Улік сабекошту выдання па затратах на яго падрыхтоўку і вытворчасць.

**КАМБІНАВАНЫ ДРУК.** Друкаванне на адным лісце аднаго арыгінала некалькімі спосабамі друку.

**КАМБІНАВАНЫ ПРЫЁМ ВЫДЗЯЛЕННЯ.** Выдзяленне слоў, славазлучэнняў і фрагментаў тэксту адначасова некалькімі прыёмамі: шрыфтавым у спалучэнні з нешрыфтавым – курсівам у разрадку, набор з уцяжкай і шрыфтам больш дробнага кегелю, курсіў і іншы колер і г. д.

**КАМЕНТАРЫЙ.** Частка апарату выдання, у якой даецца шырокае тлумачэнне тэксту твора ў цэлым з боку гісторыка-літаратурных, гісторыка-тэхнічных, выдавецкіх або іншых фрагментаў з мэтай дапамагчы чытачу зразумець тэкст у поўным аб'ёме.

**КАМЕРЦЫЙНЫЯ РАСХОДЫ ВЫДАВЕЦТВА** (невытворчыя расходы). Расходы на рэкламу, тару і ўпакоўку, дастаўку выданняў, аплату паслуг і іншых пасрэдніцкіх прадпрыемстваў, утрыманне памяшканняў, дзе захоўваецца прадукцыя ў месцах рэалізацыі.

**КАМПАЗІЦЫЯ** (ад лац. compositio – складанне). Кампазіцыя абумоўліваецца як рэаліямі жыцця, якое адлюстроўваецца ў журналісцкім творы, так і светапоглядам, публіцыстычнымі метадамі і канкрэтнымі ідэйна-эстэтычнымі, жанравымі задачамі, што ставіць аўтар. Тое або іншае бачанне свету і разуменне яго рэальных суадносін і сувязей вызначаюць крыніцы і спосабы будовы журналісцкага твора. Як аўтар успрымае і ўсведамляе жыццё, так ён паказвае і фарміруе яго ў сваіх матэрыялах.

Кампазіцыя патрабуе жыццёвай праўды, строгай падпарадкаванасці ўсіх частак твора тэме, ідэі, сюжэту.

**КАМПАЗІЦЫЯ ПАЛАСЫ.** Кампаноўка элементаў паласы такім чынам, каб набор тэксту, рэпрадукцыі ілюстрацыі, загалоўкі, рубрыкі гарманічна спалучаліся ў мастацкае цэлае, дапамагалі лепшаму засваенню матэрыялу.

**КАМПАКТНЫ НАБОР.** Набор тэксту вузкім або дробным шрыфтам.

**КАМП'ЮТАРНЫ НАБОР.** Набор тэксту з дапамогай ЭВМ – увод, выпраўленне, фармаванне ў радкі і раздрукоўка тэксту ў электронна-выдавецкай сістэме для вырабу рэпрадуцыруемага арыгінала-макета або магнітнага запісу, які выкарыстоўваецца для кіравання наборным аўтаматам.

**КАНГРЭЎНАЕ ЦІСНЕННЕ.** Бясфарбнае або з ужываннем фарбы цісненне штампам на паперы, кардоне, пераплётнай тканіне, пры якім атрымліваецца выпуклае ў выглядзе барэльефа адлюстраванне.

**КАНТ** (бардзюр). Абводка рэкламнай аб'явы лінейкай або арнаментам.

**КАНТРАКТ.** Добраахвотнае заключэнне пагаднення паміж двума і больш бакамі. У беларускіх сродках масавай інфармацыі шырока выкарыстоўваецца кантрактная форма прыёму на працу журналістаў і спецыялістаў рэдакцыйнага персаналу.

**КАНТРАСТ.** Рэзка выяўленая супрацьлегласць элементаў, якія стаяць побач: чорнага шрыфту і белай плямы, загалоўка або тэксту з размешчанай побач ілюстрацыяй, набораў рознымі фарматамі размешчаных побач матэрыялаў і г. д. Кантраст актыўна выкарыстоўваецца пры афармленні выданняў, надае ім арыгінальнасць і ўпрыгожвае старонкі.

**КАНТРАФАКЦЫЯ.** Незаконны, пірацкі выпуск выдання, які вядзе да парушэння аўтарскіх і выдавецкіх правоў.

**КАНТРОЛЬНАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Паўторнае рэдагаванне вопытным рэдактарам ужо падрыхтаванага да выдання аўтарскага арыгінала для кантролю за якасцю работы пачынаючага рэдактара або пры асаблівай складанасці і важнасці твора, які рыхтуецца да выдання.

**КАНТРОЛЬНЫ ЭКЗЭМПЛЯР.** Экзэмпляр выдання з ліку дасылаемых паліграфічным прадпрыемствам у выдавецтва першых экзэмпляраў з тыражу, якія неабходны выдавецтву для дазволу на выпуск у свет, для захоўвання ў архіве.

**КАНТЫ.** Часткі пераплёту, якія выступаюць на некалькі міліметраў за краі кніжнага блока (пераплёт або вокладка з кантам), у адрозненне ад абразной вокладкі (пераплёту).

**КАНЦАВАЯ ПАЛАСА.** Паласа з канцавым прабелам унізе, які сведчыць аб заканчэнні выдання або раздзела, пачатак якога абазначаны спускавой паласой.

**КАНЦАВЫ РАДОК.** Радок у канцы абзаца. Канцавы радок пры развёрстцы матэрыялу на некалькі калонак не ставяць зверху калонкі.

**КАН'ЮНКТУРНАЯ ПРАЎКА.** Выпраўленне ў карэктурных адбітках, выкліканае непрадбачанымі абставінамі – з'яўленнем новых афіцыйных дакументаў, распараджэнняў кіраўнічых структур і г. д.

**КАПІРАЙТ.** Гл. *Знак аховы аўтарскага права.*

**КАПІЦЕЛЬ.** Наборны шрыфт, у якім літары па вышыні роўныя радковым, але маюць малюнак прапісных.

**КАПТАЛ.** Каляровая тасьма з патоўшчаным канцом, якую наклейваюць на верхні і ніжні канцы карашка кніжнага блока, каб замацаваць і зберагчы іх, умацаваць кніжны блок. Каптал служыць таксама элементам мастацкага афармлення, калі гарманіруе з каляровай гамай пераплёту па колеры.

**КАРДОН.** Шчыльны драўнінна-валакністы матэрыял, які выкарыстоўваецца для вырабу пераплётных крышак (пераплётны кардон) і футаралаў.

**КАРТА.** Картаграфічны твор, пабудаваны ў картаграфічнай праекцыі, паменшаны відарыс паверхні Зямлі ці іншага нябеснага цела або незямной прасторы, які паказвае размешчаныя на іх аб'екты ў пэўнай сістэме ўмоўных знакаў. Карты бываюць геаграфічныя, тапаграфічныя, галіновыя, тэматычныя, зоркавыя, фізіка-геаграфічныя, рэльефныя і г. д.

**КАРТАГРАФІЧНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, большасць аб'ёму якога займае картаграфічны відарыс.

**КАРТАГРАФІЧНАЯ ПАПЕРА.** Папера, выробленая са 100%-най цэлюлозы (100, 120, 140 г/м$^2$) і блізкая па сваіх уласцівасцях да афсетнай паперы № 1 высокай якасці, замест якой часта выкарыстоўваецца для друкавання шматфарбных выданняў.

**КАРТАГРАФІЧНЫ ТВОР.** Твор, галоўнай часткай якога з'яўляецца картаграфічны відарыс.

**КАРТАТЭКА ВЫДАВЕЦТВА.** Картатэка, якая служыць для кантролю за рухам выдання па этапах рэдакцыйна-выдавецкага працэсу і выплатамі ўзнагароджання аўтару, мастаку і г. д.

**КАРТРЫДЖ.** Кантэйнер для размяшчэння носьбітаў інфармацыі (магнітных стужак, дыскаў), касета.

**КАРЭКТАР** (ад лац. corrector – папраўшчык). Выдавецкі, рэдакцыйны, друкарскі работнік, які выпраўляе ў адбітку, што чытаецца ім, памылкі або недакладнасці, дапушчаныя ў час набору. У некаторых выдавецтвах карэктар ажыццяўляе таксама вычытку арыгінала-макета перад здачай яго ў набор.

**КАРЭКТУРА** (ад лац. correctura – выпраўленне). 1. Выпраўленне памылак у адбітку друкарскага набору або на старонцы машынапіснага арыгінала-макета з мэтай прывядзення ў поўную адпаведнасць з арыгіналам і правіламі мастацка-тэхнічнага афармлення. 2. Адбітак друкарскага набору, на якім неабходна зрабіць выпраўленні.

**КАРЭКТУРНАЯ ПРАЎКА.** Праўка ў карэктурных адбітках, якая па прычыне таго, чаму яна ўносіцца, падзяляецца на аўтарскую (аўтара і мастака), карэктарскую (выдавецкага карэктара), рэдактарскую і друкарскую (усе віды, акрамя апошняга, лічацца выдавецкай карэктурнай праўкай).

**КАРЭКТУРНЫ АБМЕН.** Выдавецка-паліграфічны працэс, які прадугледжвае дастаўку ў выдавецтва карэктарскіх адбіткаў для выпраўлення і вяртання назад пасля выпраўлення памылак.

**КАТАЛОГ.** Нарматыўнае вытворча-практычнае, даведачнае або рэкламнае выданне, якое змяшчае сістэматызаваны пералік прадметаў або паслуг.

**КАТАЛОГ ВЫСТАВЫ.** Каталог, які ўтрымлівае пералік і апісанне прадметаў, экспануемых на выставе.

**КВАДРАТ.** Асноўная мера тыпаметрычнай друкарскай сістэмы вымярэння: у квадраце 48 друкарскіх пунктаў (1048 мм).

**КВАДРАТНЫЯ ДУЖКІ.** Прымяняюцца для выдзялення ў тэксце цытат; абазначэнняў у бібліяграфічных друкуемых тэкстах, якія адсутнічаюць у апісваемых выданнях; для таго, каб заключыць у іх тэкст, унутры якога ўжо ёсць круглыя дужкі.

**КЕГЕЛЬ** (к е г л ь). Адлегласць паміж пярэдняй і задняй сценкамі літары. Выкарыстоўваецца як тэрмін для вызначэння памеру шрыфту і іншага наборнага матэрыялу. Вымяраецца ў друкарскіх пунктах і квадратах.

**КІКЕР.** Кароткі радок над загалоўкам, набраны дробным шрыфтам. Выконвае спецыяльную функцыю: паведамляе аб аўтарстве матэрыялу або абазначае прыналежнасць яго да рубрыкі. Іншы раз кікер не выстаўляецца па левым краі, а знаходзіцца ў цэнтры, калі матэрыял займае некалькі калонак.

**КІПСЕК.** Багата аформленая кніга-альбом.

**КІШЭННАЕ ВЫДАННЕ**. Выданне малога фармата, зручнае для пераноскі ў кішэні, а таксама чытання ў дарозе і г. д. У нашай краіне кішэнныя выданні адносяцца да малафарматных выданняў.

**КЛАПАН.** Загнутая ўнутр пераплёту частка супервокладкі. Язычок футарала, што прыкрывае карашок кнігі, край якога прасоўваецца паміж футаралам і пераплётам.

**КЛАСІФІКАЦЫЯ КНІГ.** Спосаб сістэматызацыі кніг паводле іх зместу.

**КЛЕЯВОЕ ЗМАЦАВАННЕ БЛОКА.** Бясшвейнае змацаванне блока з дапамогай клею.

**КЛІШЫРАВАНЫ ЗАГАЛОВАК.** Загаловак, намаляваны мастаком і пераведзены на клішэ. Выкарыстоўваецца для ўпрыгожвання газетных і кніжных палос, старонак.

**КЛІШЭ.** Друкарская форма высокага друку, якая прызначаецца для ўзнаўлення выяўленчых арыгіналаў. Уяўляе пласціну з цынку, магнію, латуні, медзі, фотапалімерных матэрыялаў і г. д., на якой размешчаны рэльефныя друкарскія элементы (у адной плоскасці) і паглыбленыя прабельныя элементы. Клішэ могуць быць штрыхавымі, растравымі і камбінаванымі. Адрозніваюць клішэ для адна- і шматфарбнага друку. Вырабляюць фотамеханічным або аўтаматычным спосабам.

**КНІГА.** Тыражаваны дакумент, як правіла, вялікага інфармацыйнага аб’ёму, паліграфічная форма. У вузкім сэнсе – неперыядычнае тэкставае кніжнае выданне аб’ёмам больш за 48 старонак, у шырокім – сродак замацавання і перадачы твораў пісьменнасці, графікі, картаграфіі, мастацка аформлены апарат, прыстасаванне для найлепшага разнастайнага выкарыстання ў ёй твораў.

**КНІГААБМЕН.** Перадача твораў друку ў пастаяннае карыстанне з адных бібліятэк у іншыя. Існуюць кнігаабмены ўнутраныя (у межах адной

краіны) і міжнародныя, якія ажыццяўляюцца на падставе міждзяржаўных дамоўленасцей і пагадненняў.

**КНІГАДРУКАВАННЕ.** Спосаб размнажэння кніг, заснаваны на прыцісканні паперы ці іншага матэрыялу да пакрытай фарбай друкарскай формы, што ўзнаўляе тэкст і ілюстрацыі.

Вопыты кнігадрукавання былі распачаты ў Кітаі ў 1041–1048 гг. (Бі Шэн). У Еўропе кнігадрукаванне ўзнікла ў 40-я гг. XVI ст. (І. Гутэнберг). Першая славянская друкарня заснавана ў 1491 г. у Кракаве Ш. Фіёлем, першая друкарня на тэрыторыі былога СССР – у 20-я гг. XVI ст. у Вільні Францыскам Скарынай. Першая друкаваная кніга «Апостал» надрукавана у 1564 г. у Маскве І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам.

**КНІГАЗНАЎСТВА.** Комплекс роднасных, цесна ўзаемазвязаных, але адносна самастойных навуковых дысцыплін грамадскага цыкла, якія вывучаюць кнігу, працэсы яе стварэння, распаўсюджвання і выкарыстання, а таксама галіны культуры і народнай гаспадаркі, што ажыццяўляюць гэтыя працэсы. Уключае гісторыю кнігі, гісторыю і арганізацыю кніжнай справы, кніжнага гандлю, бібліятэчную справу (бібліятэказнаўства).

**КНІГА-ЦАЦКА.** Кніжнае або ліставое выданне для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, выраблена ў такой форме, каб дзіця магло не толькі яго разглядаць і чытаць, але і гуляць з ім.

**КНІЖНАЕ ВЫДАННЕ.** Неперыядычнае выданне, асаблівасцю матэрыяльнай структуры якога з’яўляецца мацаванне лістоў у карашку. Кніга можа быць выданнем тэкставым (кніга, брашура), выяўленчым (альбом), нотным (партытура оперы), картаграфічным (геаграфічны атлас).

**КНІЖНЫ БЛОК.** 1. Складзеныя ў адпаведнай паслядоўнасці і склееныя, прашытыя разам або сфальцаваныя сшыткі. Кніжны блок можа быць у выглядзе падборкі, калі сабраныя па парадку сшыткі прыкладваюцца адзін да аднаго, і ўкладкі, калі адзін сшытак укладваецца ў другі. 2. Камплект замацаваных у ходзе брашуровачных працэсаў сшыткаў або асобных газетных лістоў з усімі старонкамі і іншымі дэталямі (уклейкі, прыклейкі, форзацы, стужкі-закладкі і г. д.) аднаго экзэмпляра будучай кнігі, падрыхтаваны для ўстаўкі ў пераплётную крышку або для пакрыцця вокладкай.

**КНІЖНЫ ЛІСТ.** Старонка кнігі з адваротам.

**КОМІКС.** Выяўленчае выданне, якое змяшчае серыю малюнкаў, як правіла, з адным сюжэтам і кароткім тлумачальным тэкстам.

**КОРПУС** (ад лац. corpus – звод, збор). Шрыфт, кегель якога раўняецца 10 пунктам (3,759 мм).

**КСЕРАГРАФІЯ.** Фатаграфічны працэс, заснаваны на дзеянні святла на матэрыял, пакрыты святлоадчувальным слоем з паўправадніка, на які

перад здымкам наносіцца электрастатычны зарад, у выніку чаго ў слоі ўтвараецца скрытая электрастатычная выява, або ксеракопія.

**КУЛЬТУРА ВЫДАННЯ.** Ступень адпаведнасці выдання ў цэлым або ўсіх яго кампанентаў задачам эфектыўнага выкарыстання. Высокай культуры выдання характэрна наяўнасць у ім усіх элементаў, неабходных для паўнацэннага, рознабаковага выкарыстання яго рознымі чытачамі, пасрэднікамі паміж імі і выдаўцамі.

**КУРСІЎ** (ад лац. cursivus – бягучы). Шрыфт, які мае нахіл асноўных штрыхоў літар управа і імітуе рукапісны. Вугал нахілу асноўных штрыхоў курсіву каля 150 градусаў. Прымяняецца для набору асноўных матэрыялаў або выдзяленняў у тэксце.

# Л

**ЛАГАТЫП.** Назва выдання ў арыгінальным графічным выкананні або напісанні. Выкарыстоўваецца ў якасці сімвала выдання і часта з'яўляецца яго гандлёвай маркай.

**ЛАМІНІРАВАННЕ** (прыпрасоўка плёнкі). Тэрмічны працэс нанясення на адну-дзве старонкі адбітка, паперы, кардону празрыстай палімернай плёнкі са слоем клею або без яго.

**ЛАКІРАВАННЕ.** Працэс апрацоўкі адбіткаў пасля друку. Розныя віды лакіравання значна паляпшаюць яркасць, насычанасць каляровага адлюстравання, а таксама выконваюць ахоўную функцыю.

**ЛАКІРОЎКА.** Пакрыццё спецыяльным лакам шматфарбных або чорна-белых друкаваных адбіткаў.

**ЛЕДЭРЫН.** Пераплётны матэрыял на тканіннай аснове, прызначаны для пакрыцця вокладак.

**ЛЕКСІКА** (ад грэч. lexikos – слоўнікавы). Сукупнасць усіх слоў мовы, яе слоўнікавы склад.

**ЛІГАТУРА.** Абазначэнне адным пісьмовым знакам дзвюх або больш літар.

**ЛІД.** Пачатак артыкула ў выглядзе сказа, абзаца ці некалькіх абзацаў у залежнасці ад складанасці матэрыялу. Мэта ліда – у мяккай, запрашальнай форме прыцягнуць увагу чытача да артыкула. Часцей за ўсё ўжываюцца наступныя тыпы лідаў: рэзюме, цытатны, пытальны і інш.

**ЛІНАВАЛЬНАЯ МАШЫНА.** Машына, прызначаная для лінеення паперы рознымі лінейкамі і фарбамі.

**ЛІНАГРАВЮРА.** Клішэ, зробленае з лінолеуму.

**ЛІНАТЫПНЫ НАБОР.** Набор на радковаадліўных машынах, які атрымаў сваю назву ад фірмы «Лінатып», буйнога вытворцы такога абсталявання. Сёння прымяняецца вельмі рэдка.

**ЛІНЕЙКІ ДЛЯ НАБОРУ.** Наборны матэрыял у выглядзе лінеек, якія адрозніваюцца па малюнку ачка, таўшчыні штрыха і кегелю, выкарыстоў-

ваемых для раздзялення асобных частак тэксту, падкрэслівання, заключэння тэксту ў рамкі, афармлення вокладак, тытульных лістоў, заставак і г. д. У залежнасці ад малюнка адрозніваюцца лінейкі тонкія (вострыя), паўтлустыя (паўтупыя), тлустыя (тупыя), пункцірныя з рознай адлегласцю паміж кропкамі, рантавыя, двайныя, трайныя, хвалістыя, штрыхаваныя і г. д. Кегель лінеек – ад 1 да 20 пунктаў.

**ЛІНІЯ ШРЫФТУ.** Уяўная лінія, на якой ляжыць ніжні край ачка ўсіх літар, акрамя круглых (О, С), а таксама звісаючых элементаў.

**ЛІНІЯТУРА** (ад лац. linea – лінія). Колькасць растравых элементаў (ліній), змешчаных на адным лінейным сантыметры. Чым больш ліній у сантыметры, тым вышэй якасць узнаўлення адлюстравання. Выбар лініятуры залежыць ад спосабу і хуткасці друку, якасці паперы і прызначэння прадукцыі.

**ЛІСТ ПАДПІСНЫ.** Адбітак, атрыманы на машыне пасля заканчэння ўсіх падрыхтоўчых тэхналагічных аперацый. Зацвярджаецца майстрам або тэхнолагам цэха, які правярае размяшчэнне малюнкаў і тэксту згодна з параметрам, указаным у макеце, параўноўвае з пробнымі адбіткамі, падпісанымі выдавецтвам, а пры неабходнасці – з арыгіналам. Зацверджаны падпісны ліст з'яўляецца эталонам для ўсяго тыражу.

**ЛІСТАВАЯ ПАПЕРА** (ф л а т а в а я  п а п е р а). Парэзаная ў лісты папера, што пастаўляецца папяровымі прадпрыемствамі. Звычайна шчыльнасць такой паперы складае 80 г/м$^2$ і вышэй.

**ЛІСТАВОЕ ВЫДАННЕ.** Выданне ў выглядзе аднаго або некалькіх лістоў друкаванага матэрыялу любога фармата без змацавання, напрыклад: агітлістоўка, газета.

**ЛІСТАЖ.** Велічыня, якая вымяраецца колькасцю друкаваных або ўлікова-выдавецкіх аркушаў ва ўсім тыражы выдання або агульным тыражы выдавецкай прадукцыі, выпушчанай або плануемай да выпуску. Падлічваецца памнажэннем колькасці экзэмпляраў у тыражы на аб'ём выдання ў друкаваных аркушах (друкаваны лістаж) або ва ўлікова-выдавецкіх аркушах (улікова-выдавецкі лістаж).

**ЛІСТОК.** Неперыядычнае або перыядычнае выданне аб'ёмам ад аднаго да чатырох старонак, прызначанае для аператыўнага распаўсюджвання навукова-тэхнічнай інфармацыі.

**ЛІСТОЎКА.** Неперыядычнае тэкставае ліставое выданне агітацыйнага, рэкламнага або інфармацыйнага зместу, аб'ёмам ад адной да чатырох старонак.

**ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА.** Навука, якая вывучае розныя роды і віды літаратуры, пераважна мастацкай, асаблівасці яе развіцця і ацэнкі ёю сучаснасці.

**ЛІТАРАТУРНАЕ АГЕНЦТВА.** Арганізацыя, якая выконвае функцыі пасрэдніка паміж аўтарам і выдавецтвам.

**ЛІТАРАТУРНАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Рэдактарскі аналіз, ацэнка і ўдасканаленне разам з аўтарам літаратурных форм твора, састаўная частка рэдагавання.

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне твора (твораў) мастацкай літаратуры: раманаў, аповесцей, апавяданняў, вершаў, паэм, драматычных твораў, казак, легендаў, мастацкіх нарысаў, эсэ і г. д.

**ЛІТАРАТУРНАЯ ПРАЎКА.** Рэдактарская праўка арыгінала, мэта якой – ліквідаваць недахопы ў творы (матэрыяле): моўныя, стылёвыя, кампазіцыйныя.

**ЛІТАРАТУРНЫ АГЕНТ.** Асоба, якая ў адпаведнасці з заключаным дагаворам прадстаўляе інтарэсы аўтара і выдавецтва.

**ЛІТАРАТУРНЫ ЗАПІС.** Від літаратурнай творчасці, заснаваны на перапрацоўцы літаратарам-прафесіяналам вуснай або пісьмовай загатоўкі аўтара-нелітаратара ў літаратурна дасканалы твор таго ці іншага жанру. У выдавецкай дзейнасці той, хто робіць літаратурны запіс, лічыцца сааўтарам. У гэтым выпадку аўтарскае ўзнагароджанне размяркоўваецца паміж сааўтарамі па ўзаемным пагадненні.

**ЛІТАРАТУРНЫ ПОМНІК.** Літаратурны твор, які ўвайшоў у гісторыю літаратуры як асабліва значны па сваіх вартасцях.

**ЛІТАРАТУРНЫ РЭДАКТАР.** Рэдактар, які аналізуе, ацэньвае і выпраўляе мастацкія, фактычныя, стылёвыя недахопы твора, займаецца яго вычыткай.

**ЛІХТАРЫК.** Першая літара ў слове, з якога пачынаецца абзац, як правіла, выдзеленая вялікім кегелем, іншым шрыфтам ці намаляваная. Ужываецца для ўпрыгожвання вёрсткі тэксту і адбіўкі яго частак.

**ЛІЦЕРА** (ад лац. littera – літара). Друкарскі элемент, які ўзнаўляе літару або знак. Ліцера ўяўляе прамавугольны драўляны, металічны або пластмасавы брусок (ножку) з рэльефна выступаючай галоўкай, на якой змешчана адлюстраванне знака.

**ЛІЦЭНЗІЙНЫ АЎТАРСКІ ДАГАВОР.** Від аўтарскага дагавора на права выдання твора ў перакладзе на іншую мову. Заключаецца з уладальнікам аўтарскага права на арыгінальны твор.

**ЛІЦЭНЗІЯ** (ад лац. licentia – права). Дазвол спецыяльна ўпаўнаважанага органа дзяржаўнага кіравання на ажыццяўленне дзейнасці, якая ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам павінна ліцэнзавацца. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдае ліцэнзіі (дазволы) на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці, выкананне друкарскіх работ і інш.

**ЛУБАЧНАЯ ЛІТАРАТУРА.** Творы для першапачатковага чытання; некваліфікаваныя пераробкі вядомых літаратурных твораў, казкі, песен-

нікі, прызначаныя для малападрыхтаванага чытача, блізкія па характары лубачным малюнкам.

**ЛЯСЭ.** Шаўковая або баваўняная стужка, афарбаваная пад колер пераплёту і замацаваная зверху кнігі. Служыць для закладкі прачытаных старонак.

# М

**МАКЕТ** (ад фр. maquette – накід, мадэль). 1. Макет вёрсткі – графічны эскіз будучага нумара газеты, часопіса, кнігі, які складаецца на аснове плана ў сакратарыяце рэдакцыі. Падраздзяляецца на агульны макет нумара, што дае нагляднае ўяўленне пра ўсе яго палосы, а таксама размеркаванне і размяшчэнне галоўных матэрыялаў, і макет паласы, у якім размяркоўваюцца тэкставыя матэрыялы, ілюстрацыі, загалоўкі і іншыя элементы афармлення з указаннем іх памераў. 2. Пробны экзэмпляр выдання або пераплёту кнігі, выраблены друкарняй. 3. Рэкламны макет – узор будучага выдання, складзены ў рэкламных мэтах, які па афармленні нічым не адрозніваецца ад выдання. Звычайна ў ім надрукавана толькі некалькі старонак, як правіла, першая старонка тэксту, а астатняе – аркушы чыстай паперы. 4. Макет набору – план набору складанага тэксту.

**МАКЕТАВАННЕ.** Графічнае адлюстраванне будучых палос выданняў (кнігі, газеты, часопіса) з указаннем размяшчэння матэрыялаў. Макетаванне можа быць выканана ў маштабе 1 : 1 з дакладным узнаўленнем элементаў афармлення або ў выглядзе ўзору, агульнай схемы, паласы ці асобнай яе часткі.

**МАЛАТЫРАЖНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, выпушчанае абмежаваным тыражом, звычайна да 1000 экзэмпляраў.

**МАЛАФАРМАТНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, шырыня блока якога крыху больш за 10 см, а вышыня не перавышае 16,5 см.

**МАЛОДШЫ РЭДАКТАР.** Работнік рэдакцыйнага апарату выдавецтва, у абавязкі якога ўваходзіць тэхнічная падрыхтоўка арыгіналаў у вытворчасць (счытка іх з аўтарскім арыгіналам пасля перадрукоўкі, падчыстка старонак – выпраўленне памылак наборшчыкаў, камп'ютаршчыкаў, нумарацыя старонак, падрыхтоўка дублікатаў і г. д.); вядзенне рэдакцыйнай картатэкі і кантроль за графікам руху выдання, выкананне даручэнняў вядучага рэдактара, падрыхтоўка разлікаў з аўтарамі.

**МАНАГРАФІЯ.** Навуковая праца, у якой усебакова даследуецца асобная праблема, тэма. Вызначаецца паўнатой і ўсебаковасцю асвятлення праблемы, новым укладам у яе распрацоўку, навуковай дакладнасцю; забяспечваецца шырокім навукова-даведачным і інфармацыйным апара-

там. Манаграфія можа належаць аднаму або некалькім аўтарам, цэламу творчаму або навуковаму калектыву.

**МАНАТЫПІЯ.** Спосаб ручнога вырабу друкаванай формы, пры якім на матэрыял наносіцца шматфарбны малюнак, з якога можна атрымаць толькі адзін адбітак.

**МАНЖЭТКА.** Папяровая склееная ў кальцо стужка, якая апаясвае кнігу. Выкарыстоўваецца для рэкламы, а таксама для таго, каб аб'яднаць у камплект тамы шматтомніка.

**МАНТАЖ.** Размяшчэнне на адной адлюстроўваемай плошчы некалькіх фотаздымкаў або малюнкаў, звязаных пэўным сюжэтам.

**МАРАШКА.** Дробныя, візуальна прыкметныя на адбітках сляды фарбы, друкаваныя элементы, якіх няма на фотаформе, або адсутнасць элементаў выявы. Узнікаюць пры пападанні на друкаваную форму або афсетную пласціну кавалачкаў паперы, пылу, засохлай фарбы.

**МАРКЕТЫНГ** (ад англ. market – рынак). Сістэма кіравання вытворчасцю і збытам прадукцыі. Сутнасць маркетынгу ў тым, што на аснове вывучэння асаблівасцей рынку, тэндэнцый змянення яго аб'ёмаў, структуры і спажывецкіх звычак людзей распрацоўваюцца вытворчая праграма прадпрыемства або фірмы, асартымент іх прадукцыі. У журналістыцы маркетынг выкарыстоўваецца пры правядзенні рэкламных кампаній.

**МАСАВАЕ ВЫДАННЕ.** Выпуск кнігі або брашуры для шырокага кола чытачоў тыражом не менш за 50 тыс. экзэмпляраў.

**МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, сацыяльна-функцыянальным прызначэннем якога з'яўляецца палітычнае агітацыйна-прапагандысцкае ўздзеянне на масавага чытача.

**МАСАВЫ ЧЫТАЧ.** Чытач, які ўваходзіць у практычна неабмежаваную групу ўсіх, хто ўмее чытаць, акрамя пачынаючых чытачоў.

**МАСТАК КНІГІ.** Мастак, які спецыялізуецца на мастацкім канструяванні або ілюстраванні кніг.

**МАСТАК-АФАРМІЦЕЛЬ.** Мастак, які стварае эскізы і арыгіналы знешняга і ўнутранага мастацкага афармлення выдання, прынцыповы поўны або папалосны яго макет, але не выступае ў якасці ілюстратара.

**МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕННЕ ВЫДАННЯ.** 1. Выпрацоўка мастацкай формы выдання сродкамі кніжнай графікі і паліграфіі з поўным або частковым выкарыстаннем метадаў мастацкага канструявання. 2. Сукупнасць выяўленчых арыгіналаў і макетаў знешняга і ўнутранага афармлення выданняў (вокладкі, пераплёту, супервокладкі, тытульнага ліста, макетаў паласы, развароту, наборнага афармлення загалоўкаў, ілюстрацый і г. д.).

**МАСТАЦКАЕ КАНСТРУЯВАННЕ КНІГІ.** Стварэнне праекта мастацкага афармлення выдання, фарміраванне яго кампазіцыйнага ансамбля

як матэрыяльнага прадмета. Пад праектам падразумяваецца выражэнне зместу твора ў адзінай і цэласнай кампазіцыі выдання з дапамогай мастацкіх і паліграфічных сродкаў. Мастацкае афармленне выдання падраздзяляецца на знешняе – афармленне знешніх элементаў твораў (супервокладкі, вокладкі, пераплётнай крышкі, форзаца, футляра) і ўнутранае – афармленне ўнутраных элементаў твора (тытульнага ліста, першай, радавой і канцавой старонак, ілюстрацый і інш., унутраных частак выдання).

**МАСТАЦКАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Працэс, які выконваецца мастацкім рэдактарам і ўключае заказ мастацкага афармлення выдання, аналіз і ацэнку эскізаў, макетаў і арыгіналаў гэтага афармлення, а таксама пробных адбіткаў, ілюстрацый і элементаў афармлення з мастацкага і паліграфічнага пункту гледжання.

**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА».** Кніжнае выдавецтва, якое выпускае творы пісьменнікаў рэспублікі на беларускай і рускай мовах, у т. л. для дзяцей і юнацтва, кнігі па літаратуразнаўстве і крытыцы, а таксама творы пісьменнікаў народаў СНД і замежных краін у перакладзе на беларускую мову. Заснавана ў сакавіку 1972 г. у Мінску.

**МАСТАЦКІ РЭДАКТАР.** Выдавецкі спецыяліст, як правіла, з вышэйшай мастацка-паліграфічнай адукацыяй, які займаецца мастацкім рэдагаваннем выданняў.

**МАТРЫЦА.** Адціснутая на пластычным кардоне паглыбленая копія друкаванай прадукцыі высокага друку, якая служыць адліўной формай для вырабу стэрэатыпу. Ролю матрыцы могуць выконваць металічныя брускі, контрштампы з паглыбленымі адлюстраваннямі літар, малюнкаў і г. д.

**МАТЭРЫЯЛЫ КАНФЕРЭНЦЫІ (З'ЕЗДА, СІМПОЗІУМА)**. Неперыядычны зборнік, у якім надрукаваны матэрыялы канферэнцыі (даклады, рэкамендацыі, рашэнні, стэнаграмы і г. д.).

**МАШТАБ ЗДЫМКІ.** Ступень змяншэння або павелічэння фотаздымка, малюнка пры вырабе з іх клішэ.

**МАШЫНАПІСНЫ АРЫГІНАЛ.** Арыгінал-макет для набору, надрукаваны на пішучай машынцы або камп'ютары праз паўтара інтэрвала такім чынам, каб у кожным радку была аднолькавая колькасць знакаў (з улікам міжслоўных прабелаў і знакаў прыпынку), а на кожнай старонцы – аднолькавая колькасць радкоў.

**МЕДЫЯ.** Сукупнасць такіх сродкаў візуальнай і аўдыякамунікацыі, як друк, радыё, тэлебачанне, камп'ютарныя тэхналогіі, рэклама (вулічная, на транспарце) і г. д.

**МЕМАРЫЯЛЬНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, выпушчанае ў памяць аб нейкай асобе. Гэта можа быць зборнік артыкулаў, тэматычна звязаных з жыццём і дзейнасцю чалавека, памяці якога прысвечана выданне, або зборнік артыкулаў, дакументаў і іншых матэрыялаў пра яго жыццё і дзейнасць.

**МЕМУАРНЫ ТВОР** (ад фр. memoires – успаміны). Запіс аб падзеях, якія аўтар назіраў або ў якіх удзельнічаў. Да мемуарных твораў адносяцца аўтабіяграфія, дзённік, заметка і г. д.

**МЕНЕДЖАР.** Упраўляючы прадпрыемствам, банкам, установай або іх структурнымі падраздзяленнямі; прафесіянал у сферы кіравання, якому перададзены ўладныя функцыі.

**МЕСЦА ВЫПУСКУ.** Першы элемент выхадных даных выдання і абавязковы элемент выхадных даных у бібліяграфічным апісанні.

**МЕТАД ВЫДАННЯ.** Метад узаемадзеяння выдавецтва і паліграфпрадпрыемства ў ходзе рэдакцыйнага працэсу. Існуюць бескарэктурны, бязграначны, граначны і іншыя метады.

**МЕТАДЫЧНЫ ДАПАМОЖНІК.** Дапаможнік, у якім асноўны ўхіл робіцца на методыку выкладання пэўнай дысцыпліны, парадак працэсаў, дзеянняў і г. д.

**МІЖВЫДАВЕЦКАЯ СЕРЫЯ.** Серыя, якая выпускаецца некалькімі выдавецтвамі паводле агульнага плана, што дазваляе павысіць якасць выпускаў, дзякуючы спецыялізацыі ўдзельнікаў. Прыкладам могуць служыць серыі «Школьная бібліятэка», «Беларуская народная творчасць» і г. д., якія на працягу многіх гадоў друкуюцца ў дзяржаўных выдавецтвах Беларусі.

**МІЖНАРОДНАЯ СТАНДАРТНАЯ НУМАРАЦЫЯ КНІГ.** Ідэнтыфікацыйны код рэгістрацыйнага характару, прастаўлены на кнігах. Міжнародны стандартны нумар складаецца з абрэвіятуры ISBN (англ. International Standart Book Number) і дзесяці лічбаў, падзеленых паміж сабой на чатыры групы прабеламі або дэфісамі, напрыклад: 985-6020-13-9, дзе 985 – ідэнтыфікатар Беларусі (прысвойваецца Міжнародным агенцтвам); 6020 – ідэнтыфікатар выдавецтва (прысвойваецца Нацыянальным агенцтвам); 13 – парадкавы ідэнтыфікатар кнігі (для нумарацыі кожнага канкрэтнага выдання); 9 – кантрольная лічба (для праверкі правільнасці разліку лічбавай часткі ISBN).

Размяшчаецца у ніжнім левым вугле абароту тытульнага ліста або ў ніжняй левай частцы сумяшчальнага тытульнага ліста (рэкамендуецца паўтараць на 4-й старонцы вокладкі і супервокладкі, на задняй старонцы пераплётнай крышкі).

**МІКРАКНІГА.** Кніга, памеры якой (шырыня і вышыня) не перавышаюць 10×10 мм.

**МІНІМАЛЬНАЯ СТАЎКА АЎТАРСКАГА ЎЗНАГАРОДЖАННЯ.** Стаўка, якая паводле закона «Аб аўтарскім праве і сумежных правах» устанаўліваецца ўрадам Беларусі. Каб не ўшчамляць інтарэсаў аўтараў твораў, прадугледжваецца яе індэксацыя адначасова з індэксацыяй мінімальных заробкаў працоўных краіны.

**МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** З'яўляецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання і падпарадкавана Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь. Асноўныя задачы міністэрства:

- дзяржаўнае рэгуляванне ў галіне перадачы і распаўсюджвання інфармацыі;
- рэалізацыя палітыкі дзяржавы ў сферы масавай інфармацыі, кнігавыдання, паліграфіі і кнігараспаўсюджвання інфармацыі;
- ажыццяўленне кантролю за захаваннем заканадаўства Рэспублікі Беларусь сродкамі масавай інфармацыі, арганізацыямі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць выдавецкую, паліграфічную дзейнасць і дзейнасць па кнігараспаўсюджванні;
- распрацоўка і ажыццяўленне мерапрыемстваў, накіраваных на рэфармаванне і дынамічнае развіццё эканомікі ў галіне СМІ;
- правядзенне на аснове міжнародных дагавораў узгодненай палітыкі з адпаведнымі органамі дзяржаў – удзельніц СНД у галіне масавай інфармацыі, кнігавыдання і паліграфіі;
- фарміраванне культуры масавай інфармацыі, умацаванне прававых, прафесійных і маральных асноў дзейнасці СМІ, суб'ектаў выдавецкай дзейнасці;
- удасканаленне сістэмы кіравання і самакіравання ў галіне масавай інфармацыі, кнігавыдання і паліграфіі.

Міністэрства інфармацыі ў адпаведнасці з ускладзенымі на яго задачамі ўдзельнічае ў стварэнні рэспубліканскай інфармацыйнай сістэмы, ажыццяўляе рэгістрацыю і перарэгістрацыю СМІ, а таксама ліцэнзаванне відаў эканамічнай дзейнасці, якія вызначае Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, прымае прадугледжаныя заканадаўствам меры па недапушчэнні злоўжывання свабодай масавай інфармацыі, свабодай выдавецкай дзейнасці, а таксама цэнзуры і г. д.

Міністэрства інфармацыі ўзначальвае міністр, якога назначае на пасаду і вызваляе з пасады Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Міністр мае намеснікаў, іншых кіруючых работнікаў міністэрства і спецыялістаў галіны. Міністэрства з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае рахункі ў банках, пячаць, а таксама адпаведныя бланкі і штампы.

**МІНІЯЦЮРА.** Каляровы ці аднаколерны малюнак на старонках рукапісаў, які вызначаецца невялікім памерам і тонкай, філіграннай тэхнікай выканання. У Беларусі ўпершыню ўжыта ў Радзівілаўскім летапісе (XIII ст.).

**МІНІЯЦЮРНАЯ КНІГА.** Кніга, шырыня і вышыня якой не перавышаюць 100 мм.

**МІНСКАЯ ФАБРЫКА КАЛЯРОВАГА ДРУКУ.** Заснавана ў 1984 г. Была адным з буйнейшых прадпрыемстваў паліграфічнай прамысловасці

Беларусі. Спецыялізавалась на друкаванні шматтыражнай прадукцыі на розных мовах. Асноўная прадукцыя – кнігі, у тым ліку шматтомныя выданні, буклеты, каталогі, праспекты, альбомы, запісныя кніжкі, папкі, блакноты, календары, фаташпалеры, упакоўкі з кардону. Займаецца наборам і вёрсткай тэкстаў, колерадзяленнем, электронным мантажом, рэтушшу, вырабам каштоўных папер. Друкуе таксама дзіцячыя кніжкі-цацкі, кніжкі-панарамкі на кардоне, упакоўкі і этыкеткі для прамысловых і харчовых тавараў, папярова-белавыя тавары для школы і офісаў (сшыткі школьныя, агульныя, наборы каляровай паперы) і г. д.

**МІНСКІ ПАЛІГРАФІЧНЫ КАМБІНАТ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА.** Прадпрыемства паліграфічнай прамысловасці, якое друкуе кнігі (падручнікі, мастацкую, тэхнічную, дзіцячую і іншую літаратуру) і прадукцыю выяўленчага мастацтва (альбомы, паштоўкі, плакаты). Першую кнігу тыражом 10 тыс. экзэмпляраў камбінат выпусціў у 1956 г., у тым жа годзе яму было прысвоена імя Якуба Коласа.

**МІНЬЁН** (ад франц. mignon – мілы, цудоўны). Шрыфт, кегель якога раўняецца 7 пунктам (2,63 мм).

**МІТЭЛЬ** (ад ням. mittelgross – сярэдняга памеру). Шрыфт, кегель якога раўняецца 14 пунктам (5,26 мм).

**МОВА СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ.** Абагульняючы тэрмін, якім абазначаюцца пэўныя спосабы ў адборы, у кампаноўцы і ва ўжыванні моўных сродкаў у такіх функцыянальна-стылявых відах мовы, як мова кнігі, газеты, радыё і тэлебачання. Мова сродкаў масавай інфармацыі супрацьпастаўляецца мове персанальнай камунікацыі і займае важнае месца ў структуры сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Адлюстроўваючы складаныя формы моўных зносін і ўзаемадзеяння, сродкі масавай інфармацыі аказваюць моцны ўплыў на фарміраванне стылістычных густаў, моўных норм і на стылістычную структуру мовы ў цэлым. Усё гэта ўскладае высокую адказнасць на журналістаў за якасць мовы сродкаў масавай інфармацыі.

**МОДУЛЬ.** Адзінка даўжыні, якая ў афармленні выдання з’яўляецца асновай для графічнай пабудовы – модульнай сістэмы вёрсткі.

**МОНАВЫДАННЕ.** Неперыядычнае выданне, якое складаецца з аднаго завершанага твора.

**МСЦІСЛАВЕЦ Пётр Цімафеевіч.** Адзін з рускіх і беларускіх першадрукароў, гравёр (гады нараджэння і смерці дакладна невядомы). Разам з Іванам Фёдаравым заснаваў у Маскве друкарню, у якой былі надрукаваны «Апостал» (1564), два выданні «Часоўніка» (1565). Дзейнасць друкароў у Маскве была непрацяглай. З-за варожасці рэакцыйных колаў і кансерватыўнага духавенства паплечнікі вымушаны былі пераехаць у беларускае

мястэчка Заблудава да гетмана Вялікага Княства Літоўскага Р. Хадкевіча. З дапамогай яго заснавалі друкарню і выдалі «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр з Часаслоўцам» (1570).

Неўзабаве Мсціславец пераехаў у Вільню, дзе з дапамогай багатых купцоў Мамонічаў заснаваў уласную друкарню, у якой выдаў «Часоўнік» (1574–1576), «Евангелле напрастольнае» (1575), «Псалтыр» (1576). Кнігі Мсціслаўца вызначаліся тонкім густам і майстэрствам: яны былі багата аздоблены гравюрамі, маляўнічым арнаментам, застаўкамі, дэкаратыўнымі буквіцамі, франтаспісамі, якія шырока выкарыстоўваліся ў многіх беларускіх друкарнях таго часу.

**МУАР НА АРЫГІНАЛЕ.** Плямы, пабочныя выявы ў выглядзе сеткі на паласе арыгінала тэксту.

**МЭТАВЫ ТЫРАЖ.** Частка дадаткова аплачанага тыражу кніжнай прадукцыі, якая накіроўваецца асобам або арганізацыям па іх заяўках.

# Н

**НАБОР.** Працэс фармавання радкоў і палос з наборнага матэрыялу, які выконваецца ўручную або на наборных машынах. Практычна ва ўсіх друкаваных выданнях набор тэкстаў праводзіцца пры дапамозе камп'ютараў. Камп'ютарныя тэхналогіі атрымалі шырокае распаўсюджванне. У большасці беларускіх друкаваных сродкаў масавай інфармацыі журналісты працуюць на відэатэрміналах (ВДТ), якія складаюцца з клавіятуры і экрана. Набраны пры дапамозе клавіятуры тэкст паяўляецца на экране і можа быць лёгка выпраўлены. Адна з функцый сістэмы ВДТ – перанос з наборнага цэха ў рэдактарскія аддзелы набранага тэксту. Карэктарская вычытка раней праходзіла ў наборным цэху, цяпер робіцца непасрэдна на экране.

**НАВУКОВАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, сацыяльна-функцыянальным прызначэннем якога з'яўляецца садзейнічанне навуковым даследаванням, падвядзенне вынікаў навуковых пошукаў і дасягненняў. Творамі навуковай літаратуры могуць лічыцца літаратурна-мастацкія выданні, калі яны адрасуюцца даследчыкам іх тэкстаў, утрымліваюць апарат, у якім падводзяцца вынікі ўсёй папярэдняй навуковай работы, звязанай з вывучэннем публікуемых тэкстаў.

**НАВУКОВАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Рэдагаванне аўтарскага арыгінала, г. зн. яго аналіз і ацэнка з навуковага боку. Звычайна такое рэдагаванне выконвае запрошаны выдавецтвам спецыяліст той галіны навукі, да якой адносіцца рыхтуемы да друку твор.

**НАВУКОВА-ДАВЕДАЧНЫ АПАРАТ.** Своеасаблівы сінонім апарату выдання ў цэлым або толькі навуковага апарату.

**НАВУКОВА-ДАПАМОЖНЫ АПАРАТ ВЫДАННЯ** (навукова-даведачны апарат выдання). Частка апарату выдання, якая дапамагае чытачам лепш разабрацца ў складанасцях зместу твораў, апублікаваных у выданні. Да яго адносяцца ўступны артыкул, пасляслоўе, каментарыі і заўвагі, бібліяграфія.

**НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, сацыяльна-функцыянальнае прызначэнне якога – знаёміць чытача з дасягненнямі навукі і тэхнікі, жыццём славутых дзеячаў навукі і культуры, а таксама палітычных і дзяржаўных дзеячаў. Мае вялікае значэнне ў выхаванні навукова-матэрыялістычнага светапогляду.

**НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНАЯ МОВА, НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНАЯ ЛІТАРАТУРА.** Літаратурная мова і літаратура, якая выдаецца на гэтай мове з мэтай пераадолення культурна-адукацыйнага і прафесійна-моўнага інфармацыйнага бар'ераў.

**НАВУКОВА-ФАНТАСТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА.** Від мастацкай літаратуры, якая адлюстроўвае перспектывы навуковага, тэхнічнага і грамадскага прагрэсу, пранікненне чалавека ў таямніцы прыроды. Грунтуецца на найноўшым узроўні навуковага пазнання і асэнсавання рэчаіснасці.

**НАВУКОВЫ РЭДАКТАР.** Рэдактар, які выконвае навуковае рэдагаванне аўтарскага арыгінала.

**НАГЛЯДНЫ ДАПАМОЖНІК.** Вучэбны, практычны, вытворчы, даведачны дапаможнік, у якім асноўным сродкам перадачы зместу з'яўляюцца выяўленчыя, наглядныя сродкі. Можа быць ліставым, кніжным, камплектным выданнем.

**НАМЕНКЛАТУРНЫ КАТАЛОГ.** Каталог, які ўтрымлівае пералік і асноўныя тэхнічныя характарыстыкі наменклатуры прамысловай серыйнай прадукцыі.

**НАМІНАЛ.** Цана кнігі, якая залежыць ад аб'ёму (колькасці старонак), віду літаратуры, колькасці ілюстрацыйнага матэрыялу, якасці паперы, вокладкі і іншых паказчыкаў.

**НАНПАРЭЛЬ** (ад фр. nonpareil – беспадобны, непараўнальны). Назва шрыфта памерам 6 пунктаў (2,26 мм).

**НА ПРАВАХ РУКАПІСУ.** Выданне, якое выпускаецца невялікім тыражом для папярэдняга знаёмства з ім чытачоў-спецыялістаў. Аналагічны надпіс размяшчаецца ў верхняй частцы тытульнага ліста і вокладкі.

**НАПРАЎЛЯЮЧЫ ПУНКЦІР.** Пункцірная лінія з кропак або працяжнікаў, пры дапамозе якой увага чытача накіроўваецца на пэўную частку матэрыялу. Напраўляючым пункцірам таксама называюць шматкроп'е, якое стаіць на месцы прапушчанага тэксту або з дапамогай якога сэнсавы акцэнт пераносіцца на наступнае слова.

**«НАРОДНАЯ АСВЕТА».** Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства – вядучае выдавецтва Рэспублікі Беларусь па выпуску вучэбнай літаратуры для агульнаадукацыйных устаноў. Заснавана ў Мінску ў 1951 г. Штогод выпускае больш за 200 найменняў нацыянальных падручнікаў, вучэбных сшыткаў, вучэбна-метадычных дапаможнікаў, дыдактычных матэрыялаў, хрэстаматый, даведачнай, навукова-папулярнай, мастацкай літаратуры на беларускай і рускай мовах. Вялікая ўвага надаецца падрыхтоўцы вучэбнай літаратуры для спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы, дзе навучаюцца дзеці з рознымі псіхафізічнымі асаблівасцямі развіцця.

**НАСТОЛЬНАЯ ВЫДАВЕЦКАЯ СІСТЭМА.** Камплект настольнага электроннага абсталявання, што складаецца з персанальнага камп’ютара, які аснашчаны праграмамі для набору, карэктуры арфаграфіі, вёрсткі арыгінала-макета, а таксама лазернага прынтара і сканера.

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КНІЖНАЯ ПАЛАТА БЕЛАРУСІ.** Цэнтр дзяржаўнай бібліяграфіі, статыстыкі друку, цэнтралізаванай каталагізацыі. Уваходзіць у сістэму Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Заснавана 15 верасня 1922 г.

Нацыянальная кніжная палата атрымлівае з паліграфічных прадпрыемстваў кантрольныя экзэмпляры ўсіх выданняў, якія захоўваюцца ў архіве друку краіны, вядзе дзяржаўную бібліяграфічную рэгістрацыю ўсіх кніг, брашур, аўтарэфератаў, нот, мастацкай графікі і артыкулаў, надрукаваных у часопісах, зборніках навуковых прац, рэспубліканскіх і абласных газетах.

**НЕАЛАГІЗМ** (ад грэч. neos – новы і lógos – слова). Новаўтворанае слова або словазлучэнне. З’яўленне неалагізмаў абумоўлена развіццём навукі і тэхнікі, зменамі ў грамадскіх адносінах і г. д.

**НЕПЕРЫЁДЫКА.** Выданні (кнігі, альманахі, зборнікі), якія выходзяць у нявызначаныя тэрміны.

**НЕПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ДРУКАВАНЫЯ СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ.** Масавая кніжная прадукцыя (перш за ўсё масавая палітычная літаратура), брашуры, разлічаныя на шырокую аўдыторыю (у тым ліку, якія выходзяць серыямі), лістоўкі, пракламацыі, плакаты. У гэтых выданнях змяшчаецца як аператыўная, надзённая інфармацыя, так і сістэмна арганізаваная, у якой шырока і ўсебакова разглядаюцца маштабныя сацыяльныя з’явы, працэсы, праблемы, а таксама інтэрпрэтаваная або фундаментальная інфармацыя. Важную ролю адыгрываюць зборнікі твораў, выбраных з газет і часопісаў. Масавая кніга з’яўляецца вяршыняй сістэмы сродкаў масавай інфармацыі, яна падводзіць вынікі публічнага асвятлення і абмеркавання важных пытанняў грамадскага жыцця.

**НОВАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне кнігі (твора), якая раней выдавецтвам не выпускалася, а калі выпускалася іншым выдавецтвам, то выходзіць у

новым афармленні, утрымлівае сур’ёзныя змены, дапаўненні. Выпуск новага твора або твора ў новай рэдакцыі. Новае выданне адрозніваецца ад папярэдняга тэхнічным афармленнем.

**НОРМА.** Назва кнігі, брашуры або ініцыялы і прозвішча яе аўтара, якія ставяцца ў левым ніжнім вугле першай старонкі кожнага друкаванага аркуша.

**НОРМА ТЫРАЖУ.** Максімальны тыраж, перавышэнне якога патрабуе аплаты аўтарскага ўзнагароджання як за паўторнае выданне.

**НОТНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, большую частку аб’ёму якога складае нотны запіс музычных твораў з тэкстам або без яго.

**НУМАРАЦЫЯ** (ад лац. numero – лічу). Абазначэнне прадметаў па парадку ўзрастання, спосаб выражэння і абазначэння лічбаў. У выдавецкай справе нумаруюць старонкі выдання, элементы ўнутры выдання і яго тэксту (загалоўкі, ілюстрацыі, табліцы, бібліяграфічныя спасылкі, заўвагі, каментарыі).

**НУМАРАЦЫЯ БІБЛІЯГРАФІЧНЫХ СПАСЫЛАК.** Прысваенне парадковых нумароў падрадковым і затэкставым бібліяграфічным спасылкам для сувязі асноўнага тэксту з імі.

**НУМАРАВАНЫ ВЫПУСК ВЫДАННЯ.** Выпуск серыяльнага або шматтомнага выдання, які мае свой парадкавы нумар.

# П

**ПАБЛІК РЫЛЕЙШНЗ** (ад англ. public relations – сувязі з грамадскасцю). Кіраўніцкая дзейнасць, накіраваная на ўсталяванне ўзаемавыгадных адносін паміж арганізацыяй і грамадскасцю. Паблік рылейшнз накіраваны на мэтавае ўздзеянне на аўдыторыю, карпаратыўную і грамадскую свядомасць, стварэнне станоўчага іміджу арганізацыі, арыентаваны на ўзгадненне інтарэсаў, парытэтнае кіраванне, салідарнае вырашэнне канфліктаў. Служыць стварэнню спрыяльнага камунікатыўнага асяроддзя і забеспячэнню поспеху функцыянавання арганізацый.

Аддзелы і цэнтры паблік рылейшнз ёсць у рэспубліканскіх і рэгіянальных органах улады, фінансавых і прамысловых установах, партыях і грамадскіх аб’яднаннях, прафсаюзах і іншых арганізацыях. Пры неабходнасці арганізацыям, якія не маюць структур паблік рылейшнз, паслугі аказваюць спецыялізаваныя фірмы, агенцтвы, цэнтры, што выконваюць заказы па фарміраванні іміджу, устанаўленні і развіцці кантактаў фірмы з грамадскасцю.

**ПАГІНАЦЫЯ.** Нумарацыя старонак, слупкоў, звязаная з задачай агульнага камплектавання тэкстаў.

**ПАДАРАЧНАЕ (СУВЕНІРНАЕ) ВЫДАННЕ.** Высокамастацкае выданне, разлічанае на пакупку для падарункаў.

**ПАДЗАГАЛОВАК.** Другі ці трэці дадатковы загаловак; загаловак унутры тэксту.

**ПАДПІСНАЯ КАРЭКТУРА.** Карэктура, зацверджаная да друку. Для паліграфічных прадпрыемстваў яна з’яўляецца асноўным дакументам, якім кіруюцца пры друкаванні тыражу.

**ПАДПІСНОЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое выпускаецца па папярэдняй падпісцы.

**ПАДРАДКОВЫ НАБОР.** Набор замежнага тэксту з падрадковым перакладам, які набраны больш дробным шрыфтам.

**ПАДРУЧНІК.** Вучэбнае выданне, якое ўтрымлівае сістэматызаванае выкладанне вучэбнай дысцыпліны (яе раздзела, часткі).

**ПАДЧЫТЧЫК.** Памочнік карэктара, які чытае ўслых арыгінал, каб карэктар зверыў раздрукоўку тэксту.

**ПАЛАСА.** Старонка кнігі, газеты, часопіса.

**ПАЛІГРАФІЧНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА.** Прадпрыемства, установа ці арганізацыя, якія займаюцца паліграфічнай дзейнасцю. Паліграфічнае прадпрыемства можа працаваць пасля атрымання адпаведнай ліцэнзіі ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Набор, друкаванне і выраб тыражоў друкаваных выданняў праводзяцца паліграфічным прадпрыемствам у адпаведнасці з заканадаўствам на аснове дагавору з заказчыкам.

**ПАЛІГРАФІЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ.** Дзейнасць па ажыццяўленні набору, прызначанага для наступнага вырабу друкарскіх форм, падрыхтоўкі гэтых форм (уключаючы выраб пячатак і штампаў), друку, вырабу тыражоў друкаваных выданняў любога віду. Паліграфічная дзейнасць можа ўключаць як пералічаныя працэсы ў комплексе, так і асобна ўзятыя.

**ПАЛІГРАФІЯ.** Галіна вытворчасці, якая займаецца выпускам друкарскай прадукцыі: кніг, часопісаў, газет, тапаграфічных карт, каштоўных папер, бланкаў, дакументаў, календароў, сшыткаў, альбомаў, упаковачных матэрыялаў і інш.

**ПАПРАЎКА.** Кароткае паведамленне, надрукаванае ад імя рэдакцыі. У ёй паведамляецца чытачам аб памылцы, дапушчанай у надрукаваным матэрыяле.

**ПАПУЛЯРНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое атрымала шырокае прызнанне чытачоў.

**ПАРАГРАФ.** Падраздзел твора, на які разбіваюць тэкст главы пры адносна вялікім яе аб’ёме ў вучэбных, навуковых, вытворчых выданнях.

**ПАРАЛЕЛЬНАЯ КАРЭКТУРА.** Арганізацыя чытання карэктарскіх адбіткаў у выдавецтве паралельна карэктарам, рэдактарам, аўтарам у мэтах паскарэння вытворчага працэсу.

**ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАЦЭСЫ.** Сукупнасць аперацый апрацоўкі кніжных блокаў: вырабу пераплётных крышак, ціснення і друку на іх і замацаванне блокаў з пераплётнымі крышкамі.

**ПАРТРЭТ** (ад фр. portrait – партрэт, адлюстраванне). Адлюстраванне ў журналісцкім творы знешнасці героя: яго твару, фігуры, вопраткі, манеры трымацца.

**ПАСЛЯСЛОЎЕ.** Дадатак да літаратурнага твора, у якім утрымліваюцца вывады і неабходныя, на думку аўтара, тлумачэнні да тэксту. Звычайна размяшчаецца за літаратурным творам. Вялікую цікавасць і каштоўнасць уяўляюць аўтарскія прадмовы і пасляслоўі Францыска Скарыны да яго перакладаў асобных частак Бібліі, аўтарскія тлумачэнні «Крейцеровой сонаты» Л. Талстога і г. д.

**ПАСПАРТУ.** Канструктыўны элемент выдання ў выглядзе шчыльнага ліста паперы, на які наклейваецца ілюстрацыя.

**ПАСТСКРЫПТУМ.** Прыпіска да закончанага і падпісанага матэрыялу, якая звычайна абазначаецца лацінскімі літарамі P. S.

**ПАЎТОРНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне невялікага фармата, якое, дзякуючы сцісламу набору, змяшчае ў сабе шмат інфармацыі.

**ПАЧАТКОВАЯ ПАЛАСА.** Паласа, з якой пачынаецца выданне, яго падраздзел, твор або частка, глава і г. д. Пачатковая паласа можа быць са спускам або без яго.

**ПЕЙПЕРБЕК.** Кішэннае выданне ў папяровай вокладцы, выпушчанае масавым тыражом.

**ПЕРАБОРКА.** Змяненне ў наборы, выкліканае неабходнасцю дапоўніць матэрыял новай інфармацыяй або зрабіць дадатковую праўку.

**ПЕРАВЁРСТКА.** Працэс пераробкі звёрстаных палос-старонак, калі асобныя іх часткі перакідваюцца з месца на месца ў выніку ўнясення складанай выдавецкай праўкі або памылак вярстальшчыкаў.

**ПЕРАВЫДАННЕ.** Паўторнае выданне раней выпушчанай кнігі, брашуры. Можа быць стэрэатыпным, г. зн. без кардынальных выпраўленняў, або выпраўленым, дапоўненым, перапрацаваным.

**ПЕРАДРУК.** Перавыданне без змены тэксту, выпушчанага іншым выдавецтвам з новага набору. Патрабуе ўказання на крыніцу, з якой перадрукоўваецца матэрыял.

**ПЕРАКІДКА.** Вёрстка з пераносам часткі матэрыялу на другую паласу. Аб перакідцы даецца спецыяльнае паведамленне: «Пачатак. Заканчэнне на старонцы...», а на старонцы, куды перанесены матэрыял, указваецца: «Заканчэнне. Пачатак на старонцы...».

**ПЕРАКЛАД ТВОРА.** Тэкст твора, перакладзены з адной мовы на іншую. Пераклад дапускаецца толькі са згоды аўтара або яго даверанай асобы і вядзе да стварэння самастойнага аб'екта аўтарскага права. У гэтым

выпадку з перакладчыкам заключаецца выдавецкі дагавор, а з аўтарам арыгінала – ліцэнзійны дагавор.

**ПЕРАКЛАДЧЫК.** Спецыяліст, які валодае правам на пераклад твораў з адной мовы на іншую.

**ПЕРАПІСКА.** Зносіны пры дапамозе зафіксаваных паведамленняў – пісем.

**ПЕРАПЛЁТ.** Вокладка кнігі з дзвюх старонак, у якую заключаны блок. Па канструкцыі вокладкі пераплёт бывае цэльным або састаўным, цвёрдым або мяккім, абразным або з кантам. Знешнім матэрыялам для пераплёту служаць кардон, друкарская папера з покрыўным слоем, тэхнічная або натуральная тканіна, скура.

**ПЕРАПЛЁТНЫ КАЛЕНКОР.** Натуральная або афарбаваная баваўняная тканіна, на абодвух баках якой нанесена плёнка з крухмалістых рэчываў, мінеральных напаўняльнікаў і фарбавальнікаў. Пераплётны каленкор выкарыстоўваецца для кніжных пераплётаў.

**ПЕРАПЛЁТНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ.** Матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца для прыгатавання пераплётных крышак. Да іх адносяцца пераплётныя тканіны, іх замяняльнікі, швейныя матэрыялы і фальга для ціснення на пераплётных крышках.

**ПЕРЛ** (ад фр. perle – жамчужына). Шрыфт, кегель якога роўны 5 пунктам (1,88 мм).

**ПЕРФАРЫРАВАННЕ.** Прабіўка адтулін або прасечка штрыхоў па лініі адрыву ў выпадку, калі частку выдання мяркуецца аддзяліць і выкарыстаць самастойна.

**ПЕРЫЯДЫЧНАСЦЬ.** Характарыстыка рэгулярнасці выхаду выдання, якая вызначаецца колькасцю нумароў або выпускаў за дакладна акрэслены перыяд.

**ПІРАГРАВЮРА.** Малюнак, які выпальваецца на дрэве або скуры.

**ПІРАЦКАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, выпушчанае без ведама асобы, якая мае на яго аўтарскія і выдавецкія правы.

**ПЛАГІЯТ.** Літаратурны крадзеж, калі чужы твор выдаецца плагіятарам за свой уласны.

**ПЛАН ВЫДАННЯ (ТВОРА).** Змест або аглаўленне будучага выдання (твора), які аўтар прыкладае да сваёй заяўкі для таго, каб выдавецтва магло ўявіць змест выдання.

**ПЛАН МАСТАЦКАГА АФАРМЛЕННЯ.** План выпуску з падрабязнай характарыстыкай асноўных паказчыкаў мастацка-тэхнічнага афармлення. Сюды ўваходзяць ілюстрацыі, гарнітуры, кегелі шрыфтоў, табліцы, паліграфічныя матэрыялы, характарыстыкі гатунку паперы і фарбы, віды ціснення і г. д.

**ПЛАН РЭДАКЦЫЙНАЙ ПАДРЫХТОЎКІ.** Пералік выданняў, якія павінны скласці аснову будучага плана выпуску і знаходзяцца ў дагаворным або рэдакцыйным партфелі выдавецтва, а таксама ў выглядзе плануемых для рэалізацыі тэм.

**ПЛОСКІ ДРУК.** Спосаб друку з формы, у якой друкуючыя і прабельныя элементы ляжаць практычна ў адной плоскасці. Друкаванне ажыццяўляецца за кошт выбарачнага змочвання друкарскіх элементаў фарбай, прабельных – вадой. У цяперашні час шырока выкарыстоўваецца адна з разнавіднасцей плоскага друку – афсетны друк.

**«ПОЛЫМЯ».** Газетна-часопіснае выдавецтва. Заснавана ў верасні 1963 г. на базе газетна-часопіснага выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР і выдавецтва газеты «Мінская праўда». Выдавала газеты «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», «Физкультурник Белоруссии», «Голас Радзімы», часопісы «Беларусь», «Полымя», «Нёман», «Народная асвета», «Здравоохранение Белоруссии», «Промышленность Белоруссии», «Сельское хозяйство Белоруссии», бюлетэні «Родная прырода», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «За безопасность движения», «Рабочая смена», «Строительство и архитектура Белоруссии» і інш. Акрамя перыядычных выданняў выпускала кнігі, брашуры, буклеты, альбомы, плакаты, праспекты. Пасля рэарганізацыі выдавецкай дзейнасці ў 2002 г. спыніла існаванне, перадаўшы свае функцыі па выпуску кніжна-часопіснай прадукцыі выдавецтвам «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «БелЭн».

**ПОЎНЫ ЗБОР САЧЫНЕННЯЎ.** Збор большасці твораў аўтара, вынік яго творчай дзейнасці.

**ПРАБЕЛ.** Незапоўнены прамежак паміж выяўленчымі элементамі адбітка, словамі ў адбітку радка набору, групамі радкоў і г. д.

**ПРАДМОВА.** Элемент апарату выдання, кароткае знаёмства чытача з тэкстам твора. Пажадана, каб загаловак прадмовы змяшчаў звесткі аб аўтарскай прыналежнасці.

**ПРАКТЫКУМ.** Вучэбнае выданне, у якім друкуюцца практычныя заданні і практыкаванні, што садзейнічаюць лепшаму засваенню адукацыйнага матэрыялу.

**ПРАКТЫЧНЫ ДАПАМОЖНІК.** Вытворча-практычнае выданне, прызначанае ў дапамогу практычным работнікам для авалодання ведамі (навыкамі) пры выкананні пэўнай работы, аперацыі, працэсу.

**ПРАПІСНЫ ШРЫФТ.** Шрыфт, які складаецца з прапісных літар.

**ПРАСПЕКТ.** Даведнік або рэкламнае выданне, якое ўтрымлівае сістэматызаваны пералік паслуг, прадметаў (апісанне аднаго прадмета), прызначанае да выпуску на продаж або для экспанавання.

**ПРАСПЕКТ КНІГІ.** Прыкладзены да аўтарскай заяўкі дакумент, у якім падрабязна раскрываецца характар твора.

**ПРАЎКА.** Унясенне выпраўленняў у аўтарскі і выдавецкі арыгіналы, а таксама карэктурныя адбіткі, прызначаныя для тыражавання тым або іншым спосабам. У залежнасці ад выканаўцы і этапу рэдакцыйна-выдавецкага працэсу адпаведна вылучаюць рэдактарскую праўку, карэктарскую праўку, праўку мастацкага і тэхнічнага рэдактара.

**ПРОБНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое выпускаецца перад друкаваннем і вырабам асноўнага тыражу для непасрэднага абмеркавання і магчымай карэкціроўкі.

**ПРОБНЫ ДРУК.** Атрыманне пробных адбіткаў для кантролю за фатаграфічным, формным і друкарскім працэсамі.

**ПРОБНЫ ТЫРАЖ.** Першапачатковы тыраж выдання, выпушчаны з мэтай вызначыць попыт на яго і ў выпадку поспеху вырабіць дадатковы тыраж.

**ПРОБНЫЯ АДБІТКІ.** Адбіткі, зробленыя з друкаванай формы для кантролю вынікаў колераразддзялення і перадачы шматколернага выяўлення.

**ПРОСТЫ ТЭКСТ.** Тэкст без складаных элементаў, формул, спасылак на замежныя тэрміны, зносак, заўваг, выдзяленняў і г. д.

**ПРЫЁМ АРЫГІНАЛА АД АЎТАРА.** Стадыя выдавецкага працэсу, галоўнае ў якой — праверка якасці падрыхтоўкі аўтарскага арыгінала.

**ПРЫЖЫЦЦЁВАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое выйшла з друку пры жыцці аўтара. Усе прыжыццёвыя працы, у падрыхтоўцы якіх прымаў удзел аўтар, з'яўляюцца абавязковым матэрыялам пры тэксталагічнай падрыхтоўцы будучых выданняў.

**ПРЫСВЯЧЭННЕ.** Надпіс перад асноўным тэкстам твора (выдання), у якім аўтар паведамляе, каму ён прысвячае сваю працу і, як правіла, чаму ён гэта робіць.

**ПРЭЙСКУРАНТ.** Нарматыўнае вытворча-практычнае або даведачнае выданне, якое ўтрымлівае сістэматызаваны пералік вырабаў, матэрыялаў, абсталявання, вытворчых аперацый, паслуг і г. д. з указаннем кошту (здараецца, і з кароткімі характарыстыкамі).

**ПРЭПРЫНТ** (англ. preprint ад pre – так, перад і print – адбітак, друк). 1. Апераджальны выпуск адбіткаў артыкулаў і іншых друкаваных матэрыялаў для рассылкі аўтарам і зацікаўленым асобам да афіцыйнага выхаду ў свет з мэтай паскарэння распаўсюджвання навуковай інфармацыі. 2. Выданне, выпускаемае для абмеркавання спецыялістамі з мэтай падрыхтоўкі яго канчатковага тэксту (стэнаграмы, макеты асобных тамоў слоўнікаў і энцыклапедый, пробныя выданні падручнікаў і г. д.).

**ПСЕЎДАМАНАГРАФІЯ.** Манаграфія, у якой парушана маналітнасць тэксту з прычыны раздзялення яго паміж некалькімі аўтарамі.

**ПСЕЎДАНІМ** (ад грэч. pseudos – хлусня, мана і ónyma – імя). Несапраўднае імя аўтара, пад якім ён апублікаваў свой твор. Выдавецтва не мае права раскрываць яго без згоды аўтара. Права на псеўданім – асабістае немаёмаснае права аўтара, які можа публікаваць, узнаўляць і распаўсюджваць пад ім усе або некаторыя свае творы. Магчыма выкарыстанне адным аўтарам некалькіх псеўданімаў. Раскрыццё псеўданіма без згоды аўтара, а пасля яго смерці – без згоды асоб, якія ажыццяўляюць ахову недатыкальнасці яго твораў, з’яўляецца парушэннем аўтарскага права.

**ПУБЛІКАЦЫЯ.** 1. Твор, надрукаваны ў перыядычным выданні, неперыядычным зборніку або ў выглядзе самастойнага выдання. 2. Акт апублікавання твора.

**ПУНКТ**. Адзінка друкарскага вымярэння, роўная 0,376 мм.

# Р

**РАДАВАЯ ПАЛАСА.** Тэкставая, ілюстрацыйная або змешаная паласа без спуску і канцавога прабелу.

**РАДКАМЕР.** Лінейка для падліку колькасці радкоў у паласе, якая мае дзяленні ў 8 пунктаў зверху і ў 10 пунктаў знізу.

**РАЗВАРОТ.** Дзве суседнія старонкі раскрытага выдання, левая і правая.

**РАЗДЗЕЛ.** Рубрыкацыйная адзінка тэксту кнігі (аўтарскага арыгінала) значнага аб’ёму. Раздзел мае самастойны нумар і (або) загаловак. Больш высокай ступенню падзелу тэксту з’яўляецца частка.

**РАЗМЕТКА АРЫГІНАЛА.** Указанні і тлумачэнні ў арыгінале з мэтай дапамагчы друкарні дакладна выканаць задуму выдавецтва.

**РАЗМОЎНІК.** Папулярны двух- або шматмоўны слоўнік, які ўтрымлівае спецыяльную або агульнаўжывальную лексіку і фразеалогію і служыць дапаможнікам для зносін.

**РАЗРАДКА.** Набор з дадатковымі прабеламі паміж літарамі, знакамі.

**РАЗРЫЎ КНІЖНАГА БЛОКА.** Разрушэнне клеевай плёнкі каля карашка кніжнага блока на яго згібе з утварэннем прасвету паміж сшыткамі або кніжнымі старонкамі.

**РАМКА.** Абрамленне тэксту або загалоўка рознымі лінейкамі. Рамкі могуць быць закрытыя і паўзакрытыя. Выкарыстоўваюцца для вылучэння больш значных матэрыялаў, а таксама для прыдання арыгінальнасці вёрстцы паласы.

**РАСКЛЕЙКА.** Арыгінал паўторнага выдання ў выглядзе старонак папярэдняга выдання, расклееных у адну калонку на адным баку лістоў паперы стандартнага для машынапіснага арыгінала фармата.

**РАСТР.** Аптычнае прыстасаванне для фотамеханічнага ўзнаўлення паўтонавых выяў.

**РАСТРЫРАВАННЕ.**Ператварэнне паўтонавых выяў у мікраштрыхавыя з дапамогай растра або электроннага прыстасавання.

**РАСХІННАЯ ІЛЮСТРАЦЫЯ АБО ТАБЛІЦА.** Ілюстрацыя або табліца, якая пачынаецца на левай старонцы развароту і заканчваецца на правай, г. зн. размяшчаецца на ўвесь разварот.

**РВАНАЕ АЧКО НА АРЫГІНАЛЕ, ФОТАФОРМЕ.** Візуальна прыкметныя разрывы лініі размяшчэння літары або знака на арыгінале або фотаформе.

**РОЗНААДЦЕННЕ АДБІТКА.** Друкаваны дэфект, пры якім насычанасць фарбы адбіткаў неаднолькавая на адным, некалькіх або ўсіх друкаваных лістах тыражу.

**РОЛЕВАЯ ПАПЕРА.** Гл. *Рулонная папера.*

**РОСТ ШРЫФТУ.** Вышыня наборнай літары або адлітага наборнага радка ад асновы да паверхні ачка, г. зн. друкаваных элементаў літар, знакаў, лічбаў.

**РУБРЫКА** (ад лац. rubrica – чырвоная фарба, загаловак закона). 1. Падраздзел тэксту твора (частка, раздзел, глава, параграф). 2. Структурная адзінка дапаможнага ўказацеля, якая складаецца з загалоўка, падзагалоўка, анатацыі або каментарыя і адрасных спасылак. 3. Загаловак унутры твора або загаловак групы твораў выдання. 4. Тэматычны раздзел (падраздзел) перыядычнага выдання. 5. Пастаянная назва раздзела (падраздзела) у газеце ці часопісе, пастаянны загаловак тэматычнай старонкі або падборкі ў нумары перыядычнага выдання. 6. Графічная выява назвы раздзела (падраздзела). 7. Від загалоўка разам з шапкай, падзагалоўкам і г. д.

**РУБРЫКАЦЫЯ.** Падзел кнігі на раздзелы, главы і г. д.

**РУКАПІС.** Напісаны ад рукі тэкст твора. У шырокім сэнсе – любы аўтарскі арыгінал, г. зн. экзэмпляр твора, здадзенага аўтарам у выдавецтва ў машынапісным выглядзе; тэкст, напісаны ад рукі або набраны на камп'ютары. З рукапісу робіцца набор. Разам з рукапісам аўтар здае ў рэдакцыю электронны варыянт тэксту, што дазваляе пазбегнуць двайнога набору.

**РУЛОННАЯ ПАПЕРА** (р о л е в а я  п а п е р а). Папера, якая паступае з папяровых фабрык у рулонах. Выкарыстоўваецца на рулонных (ролевых) друкарскіх машынах.

**РУЧНЫ НАБОР.** Набор, які ажыццяўляецца без прымянення наборнай электроннай тэхнікі, уручную. Выкарыстоўваецца пры стварэнні арыгінальных выданняў падарункавага прызначэння.

**РЭГІСТРАНТ** (выдавец, вытворца дакументаў). Юрыдычная асоба або індывідуальны прадпрымальнік, які мае рэгістрацыйны нумар члена сістэмы Міжнароднай кніжнай нумарацыі (ISBN).

**РЭДАГАВАННЕ.** Прафесійная дзейнасць рэдактара, у якую ўваходзіць распрацоўка канцэпцыі выдання, у тым ліку ўдзел у мадэліраванні яго мастацкай канструкцыі і апарату; сумесная з аўтарам творчая работа над стварэннем твора; аналіз, ацэнка і ўдасканаленне аўтарскага арыгінала; фарміраванне выдавецкага арыгінала і кантроль за ім на ўсіх этапах выпуску ў свет.

**РЭДАКТАР** (ад лац. redactus – прыведзены ў парадак). Вядучы спецыяліст выдавецтва або рэдакцыі перыядычнага выдання. Ажыццяўляе ўвесь комплекс арганізацыйна-творчых мерапрыемстваў, звязаных з падрыхтоўкай твора да выпуску, а таксама выконвае функцыі кіраўніка і прадзюсара будучага выдання.

**РЭДАКТАРСКІ АНАЛІЗ.** Прагнастычны працэс з мэтай вывучэння ўздзеяння на чытача мяркуемага да выдання твора.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАРЭКТУРА.** Карэктура, якая дазваляе яшчэ раз праверыць тэкст і выявы па сэнсе, пракантраляваць правільнасць вёрсткі, разметкі тэхнічнага рэдактара.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ ПРАЎКА.** Састаўная частка рэдагавання, якую выконвае рэдактар або па яго заўвагах аўтар ці яны сумесна. Падзяляецца на некалькі відаў: вычытка, скарачэнне, апрацоўка, пераробка.

**РЭДАКЦЫЙНЫ КАЛЕКТЫЎ**. Спецыфічна арганізаваная творчая супольнасць людзей, якія выконваюць грамадска-карысную, мэтанакіраваную дзейнасць на аснове рознай (прыватнай, сумеснай, дзяржаўнай) уласнасці на сродкі вытворчасці і агульных умоў асабістай дзейнасці.

**РЭДАКЦЫЙНЫ ПАРТФЕЛЬ.** Аўтарскія арыгіналы, якія паступілі ў выдавецтва па заказе і адобраны рэдакцыяй, а таксама тыя, што атрымалі станоўчы водгук рэдактара.

**РЭДАКЦЫЙНЫ ПРАЦЭС.** Частка выдавецкага працэсу, што ўключае работы рэдакцыйнага характару, задачы якіх – знайсці тэмы для выданняў, разгледзець аўтарскія заяўкі, заключыць дагаворы, прыняць аўтарскія арыгіналы, ацаніць іх, звяртаючыся пры неабходнасці за дапамогай да рэцэнзентаў, адобрыць або адхіліць, падрыхтаваць да вытворчасці.

**РЭДАКЦЫЯ.** 1. Асноўнае структурнае падраздзяленне ўстановы, якая займаецца падрыхтоўкай і выпускам у свет выданняў. Рэдакцыі падзяляюцца на кніжныя, часопісныя, газетныя і іншыя, якія адрозніваюцца асаблівасцямі арганізацыйна-творчага працэсу. 2. Тэкст літаратурнага твора, які прайшоў апрацоўку, яго варыянт.

**РЭЗЮМЕ.** Частка апарату выдання, мэта якой – у сціслай форме выкласці сутнасць навуковай працы і вывады, каб чытач мог вырашыць, наколькі цікавая і патрэбная рэкламуемая кніга.

**РЭКЛАМА** (ад лац. reclamare – крычаць). Адзін з відаў масавай інфармацыі, які ўяўляе трансляцыю актуальных ведаў аб надзённых сацыяльных каштоўнасцях для шырокай аўдыторыі ў экспрэсіўнай і сугестыўнай формах, закліканых падштурхнуць асоб, што ўспрымаюць інфармацыю, да жадаемых рэкламадаўцу паводзін (учынкаў). З часу свайго ўзнікнення на стадыі ўрбанізму рэклама і сёння абслугоўвае ўсе сферы грамадскага жыцця, уключаючы эканоміку, палітыку, асвету, мастацтва, рэлігію і міжасабовыя паводзіны.

Рэклама падзяляецца па тыпах знакавых сродкаў на вусную, пісьмовую, друкаваную і комплексную, ёй уласціва разгалінаваная сістэма жанраў і варыянтаў іх мадыфікацыі, што залежыць ад прадметаў рэкламавання і тыпаў трансляцыі, напрыклад: рэклама ў прэсе, знешняя рэклама.

**РЭКЛАМАДАЎЦА.** Калектыўны або індывідуальны сацыяльны суб'ект (дзяржава, партыя, асоба, прадпрыемства), які праводзіць разавае ці працяглае інфармаванне масавай аўдыторыі з прагматычнай устаноўкай падштурхнуць яе да ўчынкаў, якія рэалізуюць пастаўленыя дадзеным суб'ектам мэты (камерцыйныя, палітычныя, ідэалагічныя), або сфарміраваць спрыяльную для яго дзейнасці сацыяльна-псіхалагічную атмасферу.

**РЭКЛАМНАЕ АГЕНЦТВА.** Арганізацыя, якая аказвае кліентам паслугі па планаванні, стварэнні і распаўсюджванні рэкламы. Адны рэкламныя агенцтвы аказваюць увесь спектр паслуг, другія спецыялізуюцца на адным або некалькіх відах рэкламнай дзейнасці.

Рэкламнае агенцтва ўсталёўвае кантакты паміж рэкламадаўцам і спажыўцом тавараў і паслуг, праводзіць рэкламныя кампаніі і асобныя мерапрыемствы, ажыццяўляе сувязь са сродкамі масавай інфармацыі, размяшчае заказы, кантралюе іх выкананне, праводзіць разлікі з рэкламадаўцам.

**РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое ў зручнай для ўспрыняцця форме ўтрымлівае звесткі аб мерапрыемствах, выбарах, паслугах і г. д. з мэтай інфарміравання і стварэння попыту на іх.

**РЭКЛАМНАЯ АБ'ЯВА.** Інфармацыя (тэкст і/або ілюстрацыя), падрыхтаваная для размяшчэння ў пэўным сродку распаўсюджвання рэкламы.

**РЭКЛАМНАЯ КАМПАНІЯ.** Сукупнасць мерапрыемстваў, звязаных з маркетынгам тавару або паслугі. Рэкламная кампанія ўключае прасоўванне тавару, стымуляванне дзейнасці сферы гандлю, а таксама дапаможныя мерапрыемствы, адлюстраваныя ў адзіным плане-графіку і падпарадкаваныя дасягненню пастаўленай мэты.

**РЭПРАДУКЦЫЯ.** Узнаўленне і тыражаванне малюнка, карціны шляхам фотаздымкі, клішэ, з дапамогай камп'ютара. Рэпрадукцыямі называюць таксама надрукаваныя карціны, малюнкі, фотаздымкі.

**РЭПРЫНТ.** Друкарскі адбітак апублікаванай літаратурнай крыніцы, звычайна артыкула, для перадачы аўтару; дакладнае ўзнаўленне выпушчанага раней выдання.

**РЭФЕРАТ.** Кароткае выкладанне зместу твора, якое ўключае яго асноўныя палажэнні, фактычныя звесткі і вывады і дае магчымасць вызначыць мэтазгоднасць чытання твора поўнасцю. Рэферат з'яўляецца адным з элементаў апарату выдання – яго выхадных звестак. Ён можа быць асобным творам у складзе зборніка, часопіса, выдання, якое працягваецца.

**РЭЦЭНЗЕНТ.** Спецыяліст, які аналізуе аўтарскі арыгінал або выпушчаны ў свет твор.

**РЭЦЭНЗІЯ** (ад лац. recensio – разгляд, абследаванне). Разгорнуты мастацтвазнаўчы аналіз канкрэтнага твора, у якім выяўляецца рэальная роля яго ў духоўным жыцці людзей шляхам пераканаўчай інтэрпрэтацыі мастацкіх якасцей.

# С

**СААЎТАР.** Асоба, якая разам з кім-небудзь з'яўляецца аўтарам журналісцкага або іншага тэксту.

**СААЎТАРСТВА.** Сумеснае аўтарства дзвюх або болей асоб на адзін твор навукі, літаратуры, мастацтва ці адкрыццё, вынаходніцтва і г. д. Не лічыцца сааўтарствам аказанне тэхнічнай дапамогі: падбор матэрыялаў, набор на камп'ютары. Згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь сааўтарства – аўтарскае права на твор, падрыхтаваны сумеснай творчай працай дзвюх і болей асоб. Сааўтарства належыць сааўтарам сумесна, незалежна ад таго, ці ўтварае такі твор адно непарыўнае цэлае, ці складаецца з частак, кожная з якіх мае самастойнае значэнне.

Калі адна частка твора можа быць выкарыстана незалежна ад іншых, лічыцца, што яна мае самастойнае значэнне. Кожны з сааўтараў свабодна можа выкарыстоўваць створаную ім частку твора, якая мае самастойнае значэнне, калі іншае не прадугледжана пагадненнем паміж імі. Калі твор сааўтараў утварае адно непарыўнае цэлае, то ні адзін з іх не можа без дастатковых на тое падстаў забараніць яго выкарыстанне.

**САМВЫД** (с а м а в о л ь н а е   в ы д а н н е). Афіцыйна не зарэгістраваная прэса, падпольнае выдавецтва, альтэрнатыўныя публікацыі для вузкай аўдыторыі.

**САСТАЎНЫ ПЕРАПЛЁТ.** Пераплёт, які робіцца з розных матэрыялаў: карашок – з тканіны, старонкі – з кардону, абклеенага вокладачнай паперай.

**САЮЗ ВЫДАЎЦОЎ І РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІКАЎ ДРУКУ (СВРД).** Вядзе адлік дзейнасці са снежня 2006 г., з'яўляецца некамерцыйнай арганізацыяй, створанай юрыдычнымі асобамі. Асноўная мэта – садзейнічанне фарміраванню цывілізаванага рынку друкаванай прадукцыі, які ўлічвае сучасныя тэндэнцыі і тэхналогіі.

СВРД аб'ядноўвае прадпрыемствы, што працуюць у сферы інфармацыйных тэхналогій, выдавецкай дзейнасці, у галіне рэалізацыі друку. Задачы саюза:

• аналітычнае даследаванне рынку друкаванай прадукцыі; каардынацыя ўзаемаадносін яго членаў у частцы распаўсюджвання друку;

• ажыццяўленне мэтавых праграм; распрацоўка рэкламных праектаў, сцэнарных планаў і метадычных рэкамендацый для прасоўвання выданняў;

• правядзенне сімпозіумаў, канферэнцый, круглых сталоў, выстаў, сустрэч з чытачамі і іншых мерапрыемстваў;

• аказанне кансультацыйных паслуг на рынку друкаванай прадукцыі і выдавецкай дзейнасці;

• узаемадзеянне з беларускімі і зарубежнымі арганізацыямі, якія працуюць на рынку друкаванай прадукцыі і выдавецкай дзейнасці;

• укараненне прагрэсіўных тэхналогій і распрацоўка перспектыўных напрамкаў рынку друкаванай прадукцыі.

Членамі СВРД могуць быць юрыдычныя асобы, якія ажыццяўляюць дзейнасць у сферы кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання, паліграфіі, а таксама іншую дзейнасць у рамках заканадаўства Рэспублікі Беларусь. У склад саюза могуць уваходзщь таксама асацыіруемыя члены.

**СВЕТЛЫ ШРЫФТ.** Шрыфт, у якога адносна малая таўшчыня контуру. Пры друкаванні ім атрымліваецца светлы адбітак.

**СЕРЫЯ.** Сукупнасць выданняў, аб'яднаных агульнай тэмай, мэтай, чытацкім прызначэннем, якія выходзяць пад агульнай назвай і ў аднатыпным афармленні. Серыі бываюць закрытымі, адкрытымі, міжвыдавецкімі, неперыядычнымі, перыядычнымі.

**СЕРЫЯЛ.** Літаратурны твор, які друкуецца з працягам, або часцей за ўсё фільм для працяглага тэлевізійнага прагляду.

**СЕТКА** (модульная вёрстка). Пад ёй разумеецца размеркаванне прасторы паласы на блокі і модулі. Для зручнасці чытання адыгрывае ролю шырыня калонкі ў сувязі з памерам выкарыстоўваемага шрыфту. Тэкст робіцца цяжкім для чытання, калі шырыня калонкі меншая за 10 і большая за 20 цыцараў (42 і 84 мм адпаведна). Аптымальнай шырынёй калонкі лічыцца 50–75 мм (12–17 цыцараў) для часопіса фармата А4 і газеты А3 пры кегелі 8–9 пунктаў.

**СІГНАЛЬНЫ ЭКЗЭМПЛЯР.** Першы поўнасцю гатовы друкаваны экзэмпляр выдання. Па ім вызначаецца якасць кнігі, часопіса, газеты. На сігнальным экзэмпляры ставіцца паметка аб дазволе для друкарні працягваць работу па вырабе тыражу.

**СІГНАТУРА.** Парадкавы нумар друкаванага ліста, які размяшчаецца перад нормай у кніжным полі першай старонкі кожнага друкаванага ліста і паўтараецца на трэцяй старонцы кожнага ліста з зорачкай, набранай на

верхняй лініі шрыфту ўжо без нормы. Сігнатура служыць для кантролю за правільнасцю камплектоўкі сшыткаў у кніжны блок.

**СІМЕТРЫЧНАЯ ВЁРСТКА.** Спосаб размяшчэння матэрыялаў, пры якім аднолькавыя па велічыні заметкі, карэспандэнцыі, артыкулы, фотаздымкі ставяцца на аднолькавай адлегласці ад уяўнай лініі, што падзяляе газетную, кніжную або часопісную паласу напалам.

**СІСТЭМА МЕР У ПАЛІГРАФІІ.** Сістэма асобых адзінак для вымярэння ўсіх відаў друкарскіх матэрыялаў, шрыфтоў, шырыні калонак тэксту, фармата набору і г. д. У цяперашні час у сувязі з камп'ютарным наборам і вёрсткай тэкстаў на змену традыцыйнай сістэме мер у паліграфіі прыходзіць новая – камп'ютарная, у якой галоўнай з'яўляецца лінейная сістэма вымярэння.

**СКАНВІНІЛ.** Пераплётны матэрыял на нятканай клеевай аснове з полівінілхларыдным пакрыццём.

**СКАНЕР.** Электронны апарат для сканіравання – паэлементнага ўводу (запісу) у электронную настольную выдавецкую сістэму.

**СКАНІРАВАННЕ.** Паслядоўнае счытванне або запіс у электронную выдавецкую сістэму выяў (ілюстрацый, упрыгожванняў) або тэксту з наступным яго распазнаваннем спецыяльнымі праграмнымі сродкамі.

**СКАРОЧАНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне са скарачэннямі ў публікуемых творах.

**СКАРЫНА ФРАНЦЫСК.** Стваральнік беларускага і ўсходнеславянскага друкаванага пісьма, гуманіст, асветнік. Нарадзіўся каля 1490 г. у Полацку, памёр у Празе каля 1540 г. Адыграў вырашальную ролю ў развіцці культурнага жыцця Беларусі XVI ст.

Першае выданне Скарыны – «Псалтыр» – выйшла з друку каля 1517 г. у Празе. Тут жа, у Празе, Скарына выдаў перакладзеныя ім наступныя кнігі: у 1517 г. – «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў»; у 1518 г. – «Прамудрасць Божая», «Царствы», «Ісус Навін»; у 1519 г. – «Юдзіф», «Суддзі», «Быццё», «Руф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Прарок Даніїл».

Каля 1520 г. Скарына пераехаў у Вільню і ў доме «шаноўнага мужа Якуба Бабіча, найстаршага бурмістра слаўнага і вялікага места Віленскага» заснаваў друкарню – першую на тэрыторыі Беларусі. Каля 1522 г. убачыла свет першае віленскае выданне Скарыны – «Малая падарожная кніжка», выхад якой паклаў пачатак кнігадрукаванню ў нашай краіне. У сакавіку 1525 г. у Віленскай друкарні выйшаў у свет «Апостал», апошняе выданне Скарыны, якое лічыцца першай дакладна датаванай кнігай, надрукаванай на тэрыторыі СНД.

**СКЛАДАЛЬНІК.** Аўтар складзенага твора (зборніка, хрэстаматыі, анталогіі і г. д.).

**СКРАЗНАЯ НУМАРАЦЫЯ.** Парадкавая нумарацыя элементаў выдання (загалоўкаў, ілюстрацый, табліц, формул, зносак) ад пачатку да канца выдання.

**СЛАЙД.** Тое, што і *дыяпазітыў.*

**СЛОВА.** Цэнтральная адзінка мовы, якой уласцівы фанетычныя (гукавы комплекс), лексіка-семантычныя (значэнне, здольнасць адлюстроўваць паняцце) і граматычныя (марфалагічная структура і сінтаксічныя функцыі) прадметы, што дазваляюць слову выкарыстоўвацца для назвы паняццяў, прадметаў, асоб, дзеянняў, прымет і ацэнак. Стылістычныя функцыі, шматзначнасць, унікальнасць паходжання слоў выклікалі да жыцця разнастайныя слоўнікі, у якіх фіксуюцца іх шматгранныя якасці, напрыклад: этымалагічны, арфаграфічны, тлумачальны, словаўтваральны, энцыклапедычны, граматычны, а таксама слоўнікі амонімаў, паронімаў, эпітэтаў, націскаў, дзе адлюстраваны далёка не поўны пералік спосабаў апісання слова як моўнай адзінкі.

**СЛОГАН.** Рэкламная формула, заклік, дэвіз, з дапамогай якіх настойліва праслаўляюцца тыя ці іншыя тавары або дзейнасць перыядычнага выдання, напрыклад: «“Звязда” – родная газета на роднай мове» і г. д.

**СЛОЎНІК.** Даведачнае выданне ў форме ўпарадкаванага пераліку заглаўных слоў – назваў аб’ектаў даведкі і даведачных звестак, якія адносяцца да іх. Слоўнік будуецца часцей за ўсё па алфавіце. Існуюць слоўнікі біяграфічныя, бібліяграфічныя, лінгвістычныя, тапанімічныя, энцыклапедычныя, тэрміналагічныя і г. д.

**СЛУЖБОВЫ РАДОК.** Пачатковы радок гранкі з абазначэннем выканаўцы, нумару заказу і месца захоўвання набору.

**СПЕЦЫЯЛЬНАЕ РЭДАГАВАННЕ.** Рэдагаванне аўтарскага арыгінала, для работы над якім патрэбны веды спецыяліста пэўнай галіны навукі, тэхнікі, літаратуры.

**СПІС ЛІТАРАТУРЫ.** У яго ўваходзяць бібліяграфічныя даныя – апісанні крыніц, цытаты, зноскі, рэкамендуемая літаратура. Бібліяграфічны апарат выконвае дзве функцыі: 1) даведачную – дае чытачу магчымасць знайсці крыніцу цытат; 2) інфармацыйную – знаёміць чытача з літаратурай па тэме кнігі, рэкамендуе яму літаратуру для паглыбленага вывучэння праблемы, што асвятляецца ў кнізе. Ён можа быць прадстаўлены ўнутрытэкставымі, падрадковымі або затэкставымі спасылкамі, спісамі выданняў. У энцыклапедыях спісы літаратуры павінны рэкамендаваць найбольш значныя, аўтарытэтныя выданні па дадзенай праблеме, пацвярджаць пярвічнасць прыводзімых у ім звестак.

Абавязковымі элементамі бібліяграфічнага апісання кнігі з’яўляюцца: загаловак, звесткі аб паўторнасці выдання, месца выдання, назва выдавецтва, год выдання, указанне на колькасць старонак.

Бібліяграфічны апарат павышае аўтарытэт выдання, без яго нельга выпускаць любы від літаратуры.

**СПОСАБ ДРУКУ.** Спосаб тыражавання адбіткаў з набору. Гл. *Высокі друк, Глыбокі друк, Плоскі друк.*

**СПУСК НА ПАЛАСЕ** (спускавы прабел). Прабел у верхняй частцы пачатковай паласы выдання, падраздзела, твора ў зборніку, які ўзнікае ў выніку таго, што асноўны тэкст пачынаецца не ад верху паласы, а спушчаны на той ці іншы памер.

**СПУСКАВАЯ ПАЛАСА.** Паласа са спускам, які абазначае пачатак выдання, яго падраздзела (часткі, главы), твора ў зборніку.

**СТАНДАРТ.** У шырокім сэнсе слова – узор, эталон, мадэль, што прымаюцца за зыходныя для супастаўлення з імі іншых падобных рэчаў, паняццяў, аб’ектаў. Стандарт як нарматыўна-тэхнічны дакумент устанаўлівае комплекс норм, правіл, патрабаванняў да аб’екта стандартызацыі, зацвярджаецца кампетэнтным органам. Арганізацыйныя пытанні, распрацоўка і ўкараненне стандартаў па выдавецкай і паліграфічнай справе, інфармацыі і бібліяграфіі ўскладзена на Галоўную арганізацыю па стандартызацыі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь – Нацыянальную кніжную палату Беларусі.

**СТАПАРЭЗКА.** Машына, якая рэжа паперу на лісты патрэбнага фармата для складання іх у стопы.

**СТАРОНКА.** Адзін бок кніжнага ліста.

**СТАТУТ** (ад лац. statuo – пастанаўляю). Палажэнне, звод правіл, якія вызначаюць умовы заснавання і дзейнасці ўстаноў і арганізацый.

**СТАТУТ ВЫДАВЕЦТВА.** Нарматыўны акт, на падставе якога заснoўваецца і дзейнічае выдавецтва. Ён вызначае і рэгулюе ўзаемаадносіны заснавальніка і калектыву прадпрыемства. Прымаецца на агульным сходзе калектыву большасцю галасоў пры наяўнасці не менш як дзвюх трэцей ад яе складу і зацвярджаецца заснавальнікам сродку масавай інфармацыі.

У статуце павінны быць дакладна вызначаны ўзаемныя правы і абавязкі заснавальніка, выдавецтва, дырэктара; паўнамоцтвы штатных супрацоўнікаў; парадак назначэння (выбрання) дырэктара, калегіі або іншых органаў кіравання выдавецтвам; прычыны і парадак прыпынення або спынення дзейнасці сродку масавай інфармацыі; перадача і (або) захаванне права на назву; іншыя юрыдычныя вынікі змены заснавальніка, змянення складу сузаснавальнікаў, спынення дзейнасці сродку масавай інфармацыі, ліквідацыі або рэарганізацыі выдавецтва, змянення яго арганізацыйна-прававой формы і г. д.

**СТАТУТНАЕ ВЫДАННЕ.** Афіцыйнае выданне, якое ўтрымлівае статут (сход, звод правіл, рэгулюючых арганізацыю і парадак дзейнасці ўстановы, прадпрыемства, таварыства і да т. п.).

**СТАТЫСТЫКА ДРУКУ.** Галіна статыстыкі, якая займаецца зборам, апрацоўкай і аналізам статыстычных даных аб творах друку, што характарызуюць колькасныя і якасныя змены ў выдавецкай справе.

**СТРУКТУРА ВЫДАВЕЦТВА.** Дзяленне калектыву на ўзаемазвязаныя часткі: рэдакцыйную, мастацка-афарміцельскую, вытворчую, эканамічную, маркетынг, распаўсюджвання кніг і г. д.

**СТРУКТУРА ТЭКСТУ.** Састаўныя часткі тэксту, звязаныя паміж сабой у адно цэлае, якім з'яўляецца твор.

**СТЫЛІСТЫКА** (фр. style ад грэч. stylos – палачка для пісьма). Навука аб стылях мовы. Абапіраецца на моваэнаўства, але разам з тым мае самастойны прадмет і задачы. У моўнай дзейнасці людзей выкарыстоўваюцца розныя стылі мовы, з'яўленне якіх абумоўлена пэўнымі мэтамі, сацыяльным, бытавым і псіхалагічным станам гаворачага (пішучага) чалавека, часам і месцам. Стылістыкай вылучаюцца размоўны, пісьмовы, навуковы, публіцыстычны і іншыя стылі мовы, што адрозніваюцца сістэмамі моўных элементаў і форм.

**СТЭРЭАТЫП.** Маналітная копія друкаванай формы, адлітая з матрыцы ў мэтах тыражавання набору, клішэ, гравюр.

**СТЭРЭАТЫПНАЕ ВЫДАННЕ.** Паўторнае выданне, надрукаванае па стэрэатыпе.

**СУМЕЖНЫЯ ПРАВЫ.** Рэгулюемыя законам адносіны, якія ўзнікаюць у сувязі з выкарыстаннем твораў мастацтва, тэхнікі, літаратуры і г. д.

**СУМЕСНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое выпускаецца ад імя двух або некалькіх выдаўцоў (выдавецтваў або прыватных асоб), патрабуе суменай аўтарскай і рэдакцыйна-выдавецкай работы над выданнем, удзелу кожнага з суб'ектаў у аўтарскіх правах на ўсё выданне або яго частку.

**СУПЕРВОКЛАДКА.** Папяровая вокладка з тэкстам або малюнкам паверх пераплёту кнігі.

**СУЦЭЛЬНЫ ТЭКСТ.** Тэкст, які не перарываецца формуламі, табліцамі, ілюстрацыямі.

**СЦЯГ.** Шматкалонны загаловак, які стаіць над матэрыялам, размешчаным на меншай колькасці калонак, чым яго загаловак. Сцяг адбіваецца лінейкай ад іншых артыкулаў і заметак.

**СШЫТАК.** Надрукаваныя і сфальцаваныя папяровыя аркушы або іх долі. Колькасць старонак сшытка залежыць ад колькасці згібаў. Пры двух згібах атрымліваецца 8 старонак, пры трох – 16, пры чатырох – 32.

**СЯРЭДНІК.** Прабел, які раздзяляе калонкі набору пры шматкалоннай вёрстцы.

# Т

**ТАБЛІЦА.** Асобая форма перадачы зместу, якая адрозніваецца ад тэксту арганізацыяй слоў і лічбаў у калонцы і гарызантальных радках такім чынам, што кожны элемент з'яўляецца адначасова састаўной часткай і радка, і калонкі.

**ТАПАГРАФІКА.** 1. Мастацтва мадэліравання паліграфічнай прадукцыі. 2. Мастацтва падбору шрыфтоў і іх кампаноўкі.

**ТАПАНІМІЧНЫ СЛОЎНІК.** Слоўнік геаграфічных назваў.

**ТАРШАНІРАВАННЕ.** Бясфарбнае цісненне па ўсёй паверхні адбітка або матэрыялу для таго, каб прыдаць яму пэўную фактуру – імітаваць скуру, тканіну, іншае пакрыццё вокладкі.

**ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК.** Моўны слоўнік, які тлумачыць значэнне слоў, дае іх граматычную і стылёвую характарыстыкі, узоры ўжывання і іншыя звесткі.

**ТОМ.** Адзінка шматтомнага перыядычнага выдання або выдання, якое працягваецца і ўяўляе адносна самастойны твор або аб'яднанне некалькіх асобных выпускаў кніг шматтомнага выдання.

**ТУПЫ БОК.** Пачатковы радок без абзацнага водступу.

**ТЫП ВЫДАННЯЎ.** Гістарычна ўзнікшая сукупнасць выданняў, аб'яднаных адным мэтавым прызначэннем і аўдыторнай групай.

**ТЫРАЖ.** Колькасць экзэмпляраў якога-небудзь друкаванага выдання аднаго выпуску. Тыраж з'яўляецца абавязковым элементам выхадных звестак. Можа быць гадавы, дадатковы (дадрукоўка тыражу), агульны, пробны, разавы, сярэдні.

Вывучэнню тыражоў у сучаснай журналістыцы надаецца вялікае значэнне, таму што па агульнай колькасці друкаванай прадукцыі, якая выпускаецца ў свет, спецыялісты мяркуюць не толькі аб аўтарытэце тых або іншых выданняў, але і аб агульных тэндэнцыях у інфармацыйным бізнесе ва ўмовах канкурэнцыі паміж друкаванымі і электроннымі медыявыданнямі, афіцыйнымі і альтэрнатыўнымі выданнямі.

**ТЫРАЖАВАННЕ.** Размнажванне, выраб вялікай колькасці аўтэнтычных экзэмпляраў аднаго дакумента.

**ТЫТУЛ.** Першая старонка кнігі, на якой указаны аўтар, назва твора, год і месца яго выдання і назва выдавецтва. У зборы твораў, серыйным выданні агульны тытул размяшчаецца на другой старонцы, а тытул чарговага тома – на трэцяй. Калі на другой старонцы змешчаны малюнак (франтыспіс), то агульны тытул размяшчаецца на трэцяй старонцы.

**ТЫТУЛЬНЫ ЛІСТ.** Пачатковы кніжны ліст выдання, на якім размяшчаюцца асноўныя выхадныя звесткі. Без яго выпускаюцца толькі не-

вялікія брашуры, некаторыя часопісы, тонкія кнігі для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту з асноўнымі выхаднымі звесткамі на пярэдняй старонцы вокладкі. Да тытульнага ліста адносіцца контртытул і авантытул.

**ТЫТУЛЬНЫ РЭДАКТАР.** Рэдактар, імя якога размяшчаецца на тытульным лісце, што сведчыць для чытача гарантыяй высокай якасці і саліднасці выдання. Асноўная задача тытульнага рэдактара – кіраваць работай аўтара (аўтарскага калектыву) над творам.

**ТЫТУЛЬНЫ ШРЫФТ.** Шрыфты ўсіх канфігурацый, якія выкарыстоўваюцца для набору загалоўкаў.

**ТЭЗІСЫ ДАКЛАДАЎ (ПАВЕДАМЛЕННЯЎ)** навуковай канферэнцыі (з’езда, сімпозіума). Навуковы неперыядычны зборнік, які ўтрымлівае апублікаваныя да пачатку канферэнцыі матэрыялы папярэдняга характару (анатацыі, рэфераты) дакладаў або паведамленняў.

**ТЭКСТ.** Інфармацыя, мастацкія вобразы, выражаныя з дапамогай слоў, аб’яднаных у сказы. Тэкстам можа называцца і твор у цэлым, і любая яго частка.

Адпаведна ролі ў выданні размічаюць тэксты асноўныя, дапаможныя, дадатковыя, па форме – празаічныя і вершаваныя. Да тэкстаў таксама адносяцца табліцы, ілюстрацыі, любыя выяўленні і г. д.

**ТЭКСТОЎКА.** Подпіс пад ілюстрацыяй.

**ТЭМАТЫЧНАЕ ПЛАНАВАННЕ.** Планаванне выпуску выданняў на канкрэтныя тэмы, а таксама па тэматычных напрамках. У першую чаргу ўлічваецца фактар чытацкага і пакупніцкага попыту.

**ТЭМАТЫЧНЫ ВЫДАВЕЦКІ ПЛАН.** План, аснову якога складаюць загалоўкі (тэмы) выданняў, рыхтуемых да выхаду ў пэўны перыяд года. Існуюць тэматычныя планы: выпуску, рэдакцыйнай падрыхтоўкі, перспектыўны, план мастацкага афармлення.

**ТЭМАТЫЧНЫ ЗБОРНІК.** Зборнік, складзены з твораў пэўнага жанру, на пэўную тэму, які належыць аднаму або некалькім аўтарам.

**ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК.** Слоўнік, які ўтрымлівае тэрміны пэўнай галіны ведаў або тэмы і тлумачэнні паняццяў.

**ТЭРЦЫЯ.** Шрыфт, кегль якога раўняецца 16 пунктам (6,01 мм).

**ТЭХНІЧНАЯ РАЗМЕТКА АРЫГІНАЛА.** Канкрэтныя пісьмовыя ўказанні тэхнічнага рэдактара і вычытчыка па наборы і вёрстцы кожнага элемента арыгінала з мэтай дапамагчы друкарні дакладна ажыццявіць афарміцельскую задуму выдавецтва.

**ТЭХНІЧНЫ ДАГАВОР.** Дагавор, у якім вызначаюцца ўзаемаадносіны рэдакцыі або выдавецтва з друкарняй. У тэхнічным дагаворы агаворваюцца тэрміны і парадак здачы арыгінала-макета, час выпуску выдання

або гатоўнасці прадукцыі і інш. За парушэнне ўмоў тэхнічнага дагавору вінаваты бок выплачвае штраф.

**ТЭХНІЧНЫ РЭДАКТАР.** Супрацоўнік выдавецтва, які займаецца тэхнічным рэдагаваннем выдання. Правярае, наколькі арыгіналы выдання адпавядаюць нарматыўным патрабаванням да іх, размячае арыгіналы да набору, вёрсткі і рэпрадуцыравання, запаўняе тэхнічную, выдавецкую спецыфікацыю паліграфічнага выканання выдання, правярае па карэктурных і пробных адбітках, як выкананы друкарняй мастацка-афарміцельскія і тэхнічныя ўказанні выдавецтва, а таксама тэхнічныя правілы набору і вёрсткі, правярае якасць паліграфічнага выканання выдання па чыстых лістах і сігнальным экзэмпляры.

**ТЭХНІЧНЫЯ ЎМОВЫ (ТУ).** Нарматыўны дакумент, які ўстанаўлівае патрабаванні да канкрэтнай прадукцыі.

# У

**УЗНІКНЕННЕ АЎТАРСКАГА ПРАВА.** Аўтарскае права на твор мастацкай літаратуры ці журналістыкі ўзнікае са стварэннем твора ў аб’ектыўнай форме. Для ўзнікнення і ажыццяўлення аўтарскага права не патрабуецца рэгістрацыя твора, іншае яго спецыяльнае афармленне ці выкананне якіх-небудзь фармальнасцей. Уласнік выключных аўтарскіх правоў для іх абвяшчэння можа выкарыстаць знак аховы аўтарскага права, які змяшчаецца на кожным экзэмпляры твора. Пры адсутнасці знака аховы аўтарам твора лічыцца асоба, якая ўказана ў якасці аўтара на арыгінале ці на экзэмпляры твора. Гл. *Аўтарскае права, Знак аховы аўтарскага права.*

**УЛІКОВА-ВЫДАВЕЦКІ АБ’ЁМ** (выдавецкі аб’ём) – аб’ём выдання, групы выданняў гадавога выпуску выдавецтва.

**УЛІКОВА-ВЫДАВЕЦКІ АРКУШ.** Адзінка вымярэння аб’ёму выдання, роўная 40 тыс. знакаў (літары, знакі прыпынку, лічбы і г. д., кожны прабел паміж словамі лічыцца за адзін знак) у празаічным тэксце, або 700 радкам вершаванага тэксту, або 3000 $см^2$ выяўленчай паверхні ілюстрацый.

**УЛІКОВА-ВЫДАВЕЦКІ ЛІСТ-АДБІТАК.** Адзінка ўлікова-выдавецкага лістажу, адзін з улікова-выдавецкіх лістоў-адбіткаў.

**УЛІКОВА-ВЫДАВЕЦКІ ЛІСТАЖ.** Колькасць улікова-выдавецкіх лістоў-адбіткаў ва ўсім тыражы выдання, у тыражы ўсіх выданняў, выпушчаных выдавецтвам за год.

**УМОЎНЫ ДРУКАВАНЫ ЛІСТ.** Друкаваны ліст памерам 60×90 см, да якога прыраўніваюцца пры дапамозе каэфіцыентаў пераводу фізічнага друкаванага ліста ва ўмоўныя друкаваныя лісты іншых фарматаў. Умоўны

друкаваны ліст неабходны для падліку агульнага друкаванага аб'ёму выданняў розных фарматаў, агульнай колькасці паперы для выпуску ўсіх выданняў за пэўны перыяд.

**УМОЎНЫ ЗАГАЛОВАК.** Загаловак, які ўводзіцца складальнікам бібліяграфічнага апісання для спрашчэння пошуку.

**УНІВЕРСАЛЬНАЯ ДЗЕСЯЦІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ (УДК).** Камбінацыйная сістэма бібліятэчна-бібліяграфічнай класіфікацыі. Індэкс УДК – абавязковы элемент выхадных звестак Дзяржаўнага стандарта 7.4–95. Ставіцца ў верхнім левым вугле абароту тытульнага ліста.

**УНІВЕРСАЛЬНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ.** Энцыклапедыя, якая ахоплівае ўсё кола ведаў аб свеце і чалавеку.

**«УНІВЕРСІТЭЦКАЕ».** Выдавецтва створана на базе выдавецтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна ў 1984 г. (апошняе было заснавана ў Мінску ў 1954 г.). У лютым 1962 г. аб'яднана з рэдакцыйна-выдавецкім аддзелам Беларускага політэхнічнага інстытута і рэарганізавана ў выдавецтва «Вышэйшая школа». Са снежня 1967 г. – зноў самастойнае выдавецтва. Выпускала манаграфіі, навукова-метадычную літаратуру, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі для ВНУ, тэматычныя навуковыя зборнікі, навуковы часопіс «Веснік БДУ імя У. І. Леніна». У 1984 г. рэарганізавана ў выдавецтва «Універсітэцкае». Атрымаўшы рэспубліканскі статус, значна пашырыла тэматыку, поле дзейнасці, распаўсюдзіўшы свой уплыў на іншыя навуковыя ўстановы, у першую чаргу – Гомельскі, Брэсцкі, Гродзенскі, Віцебскі, Магілёўскі ўніверсітэты. У 2002 г. у час правядзення чарговай рэарганізацыі было рэфармавана шляхам далучэння да выдавецтва «Вышэйшая школа».

**«УРАДЖАЙ».** Дзяржаўнае кніжнае выдавецтва Беларусі, заснавана ў Мінску ў 1961 г. як спецыялізаванае выдавецтва «Сельгасвыд БССР» Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, з 1963 г. – «Ураджай». Выдавала літаратуру для патрэб сельскай гаспадаркі па пытаннях земляробства, раслінаводства, жывёлагадоўлі, эканомікі і кіравання, меліярацыі, вядзення прысядзібнай і фермерскай гаспадаркі, падручнікі і даведнікі, а таксама літаратуру па сумежных галінах навук і гаспадарчай дзейнасці (біятэхналогіі, экалогіі, прыродазнаўстве, генетыцы, селекцыі, лясной, воднай гаспадарцы, медыцыне, машынабудаванні, перапрацоўчай прамысловасці, тавазнаўстве і інш.). Выпускала кнігі па гісторыі культуры, мастацтва і архітэктуры, літаратуры, усеагульнай гісторыі. У 2002 г. далучана да выдавецтва «Беларусь».

**УСТАНОВА.** Грамадская ці дзяржаўная арганізацыя, створаная для ажыццяўлення сацыяльна-культурнай або іншай дзейнасці.

# Ф

**ФАКСІМІЛЕ** (ад лац. fac simile – рабі падобнае). 1. Дакладнае ўзнаўленне рукапіснага тэксту, подпісу, дакумента. 2. Дакладнае аднаўленне аўтарскага тэксту або яго часткі.

**ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ.** Рэпрадукцыя нейкага каштоўнага выдання мінулых гадоў, якое паўтарае ўсе асаблівасці яго афармлення, фармат, гатунак і колер паперы, пераплёт або вокладку і г. д.

**ФАЛІЯНТ (**ад лац. folium – ліст). У шырокім сэнсе – выданне вялікага фармата, у вузкім – выданне ў 1/2 папяровага ліста.

**ФАЛЬЦ.** Месца згібу аркуша пры фальцоўцы.

**ФАЛЬЦОЎКА.** 1. Аперацыя згібу, складвання аддрукаванага ліста ў сшытак. 2. Складванне надрукаванага папяровага ліста або яго долі для атрымання сшытка. Фальцоўка можа быть перпендыкулярнай, паралельнай, камбінаванай, адна-, двух-, трох- і чатырохскладной.

**ФАНАГРАМА.** Пласцінка або плёнка з гукавым запісам.

**ФАНАРЫК (**б а р а в і к , м а р г і н а л і я). Загаловак або выява, размешчаныя на полі старонкі, па-за паласой набору.

**ФАРБААДБІТАК.** Адзінка аб'ёму друку, роўная кожнаму сутыкненню паперы з друкарскай формай, г. зн. аднаму адбітку з адной фарбай. Пры друкаванні ў адну фарбу колькасць фарбаадбіткаў у выданні адпавядае колькасці лістоў у ім. Пры друку ў дзве фарбы, калі папера сутыкаецца з друкарскай формай двойчы (спачатку для адной фарбы, затым – для другой), колькасць фарбаадбіткаў раўняецца двум.

**ФАРБАДЗЯЛЕННЕ.** Дзяленне шматкаляровага арыгінала на колеры, з якіх ён складаецца, падрыхтоўка да друку.

**ФАРБАПРАГОН.** Адзінка вымярэння колькасці каляровага друку.

**ФАРМАТ.** Памеры кнігі, часопіса, папяровага аркуша.

**ФАРМАТ ВЫДАННЯ.** Загадзя вызначаныя (выбраныя) памеры гатовага друкаванага вырабу. Фармат выдання абазначаецца ў міліметрах або сантыметрах ці фарматам друкарскай паперы і доляй папяровага аркуша. Стандартны фармат выдання ўстанаўліваецца па існуючых стандартах.

**ФАРМАТ ПАЛАСЫ НАБОРУ.** Памер (шырыня і вышыня) паласы набору без калонлічбы. Абазначаецца ў квадратах і долях квадрата.

**ФАРМАТ ПАПЕРЫ.** Памер папяровага ліста па шырыні і вышыні. У рулоннай паперы практычна нармавана толькі шырыня папяровага палатна, бо яно можа быць парэзана ў адпаведнасці з параметрам друкарскага абсталявання.

Стандартныя фарматы паперы, якая выпускаецца ў Расіі і Беларусі (у сантыметрах): 60×84; 70×90; 70×100; 60×90 (60×88); 75×90; 84×108. Фарматы паперы за мяжой устаноўлены Міжнароднай арганізацыяй па стандар-

тызацыі – ISO (у міліметрах): 841×1189 (AO), 1000×1414 (BO), 917×1297 (CO) з вытворнымі ад іх фарматамі (у кожнага з наступных фарматаў па памеры меншы бок адпавядае палове большага папярэдняга: A1 – 594×841, A2 – 420×594, A3 – 297×420, A4 – 210×297 і г. д.).

**ФАРМАТ РАДКА.** Даўжыня радка набору, якая выражаецца ў квадратах (1 квадрат раўняецца 48 пунктам – 18,04 мм).

**ФАТАГРАФАВАННЕ.** Комплекс працэсаў, звязаных з атрыманнем выяў на святлоадчувальных матэрыялах пры дапамозе святла.

**ФІЗІЧНЫ ДРУКАВАНЫ ЛІСТ.** Друкаваны ліст натуральнага памеру, які залежыць ад фармата папяровага ліста, рознага ў выданнях, надрукаваных на аднолькавай па фармаце паперы.

**ФІЗІЧНЫ ДРУКАВАНЫ ЛІСТ-АДБІТАК.** Адзінка друкаванага лістажу выдання, адзін фізічны друкаваны ліст з усёй колькасці фізічных друкаваных лістоў у тыражы выдання або сукупнасці выданняў аднаго фармата.

**ФІЗІЧНЫ ЛІСТ.** Друкаваны ліст, роўны па памерах папяроваму лісту любога стандартнага памеру, надрукаванаму з аднаго боку. Адзін папяровы ліст, надрукаваны з двух бакоў, утрымлівае два фізічныя друкаваныя лісты.

**ФІЛІГРАНЬ.** 1. Тое, што і вадзяныя знакі. 2. Драцяная сетка, якая выкарыстоўваецца для атрымання вадзяных знакаў.

**ФІРМЕННАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое рэгулярна выпускаецца прадпрыемствам для свайго персаналу, дылераў, перспектыўных кліентаў, акцыянераў і іншых груп насельніцтва.

**ФІРМЕННЫ ЗНАК.** Графічнае вырашэнне зместу інфармацыйнай сістэмы, як правіла, сацыяльнай арганізацыі, напрыклад: *гандлёвая марка*.

**ФОН ФАРБАВАНЫ.** Пафарбаваная паверхня матэрыялу, на якой можа быць зроблены адбітак. Шырока прымяняецца для афармлення вокладак.

**ФОРЗАЦ** (ад ням. Vorzatz, vor – перад, Zatz – набор). Канструктыўны элемент выдання ў пераплёце, асноўнае назначэнне якога змацоўваць, злучаць кніжны блок з пераплётнай крышкай, а дадатковае – служыць мастацкім элементам знешняга афармлення і паведамляць важную для карыстання інфармацыю.

**ФОРМНЫЯ ПРАЦЭСЫ.** Комплекс працэсаў паліграфічнай вытворчасці, накіраваных на стварэнне друкаваных форм.

**ФОРТКА.** Загаловак невялікага памеру, які размяшчаецца каля аборкі першага абзаца тэксту. Такі загаловак амаль не парушае прамавугольнасць старонкі, паласы.

**ФОТААЛЬБОМ.** Альбом, выяўленчым матэрыялам у якім з’яўляюцца рэпрадукцыі фотаздымкаў.

**ФОТАКНІГА.** Від фотаальбома, які стварае цэльны мастацкі твор, пабудаваны на фотаздымках.

**ФОТАМАНТАЖ.** Працэс і вынік манціравання некалькіх фотавыяў у складаную ілюстрацыю. Выкарыстоўваецца пры ілюстраванні вокладак і супервокладак.

**ФОТАНАБОР.** 1. Комплекс аперацый, у выніку выканання якіх тэкставая інфармацыя фіксуецца на святлоадчувальным матэрыяле (фотаплёнцы або фотапаперы) паліграфічным шрыфтам. Для гэтых мэт выкарыстоўваюцца самыя шматлікія камплекты фотанаборнага абсталявання з шырокім прымяненнем электронікі і электронна-вылічальнай тэхнікі. 2. Працэс вырабу на спецыяльных фотанаборных машынах негатываў, дыяпазітываў або адбіткаў для далейшага вырабу друкарскіх форм для высокага, глыбокага і плоскага друку. Працэс прыгатавання тэкставых дыяпазітываў на фотанаборных машынах або аўтаматах.

**ФРАНТЫСПІС.** Малюнак, які размяшчаецца перад першай старонкай кнігі або зверху старонкі перад пачаткам тэксту.

**ФУТЛЯР.** Кардонны або пластмасавы кораб, у якім размяшчаецца кніга або альбом вялікай мастацкай вартасці. Абараняе ад знешніх пашкоджанняў і адначасова служыць састаўной часткай мастацкага афармлення кнігі.

# Х

**ХОЛДЫНГ.** Кампанія або кааперацыя, якая кантралюе некалькі фірм або арганізацый. У практыцы СМІ Рэспублікі Беларусь створаны «Холдынг “ЛіМ”» на базе літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Всемирная литература», газеты «ЛіМ» і інш. У выніку значна павялічыліся тыражы выданняў, палепшылася іх фінансава-эканамічнае становішча.

**ХРАМАТЫПІЯ.** Паліграфічны спосаб шматфарбнага друкавання.

**ХРАНАЛАГІЧНЫ ЎКАЗАЛЬНІК.** Дапаможны ўказальнік, пабудаваны ў храналогіі дат падзей, які адрасуецца да адпаведных старонак тэксту.

**ХРОМАЛІТАГРАФІЯ.** Паліграфічнае прадпрыемства, якое друкуе выданні некалькімі фарбамі літаграфічным спосабам.

**ХРЭСТАМАТЫЯ** (грэч. chrestomatheia ад chrestos – карысны і manthano – вучуся). Зборнік сістэматычна падабраных у вучэбных мэтах або для самаадукацыі матэрыялаў па пэўнай галіне ведаў.

# Ц

**ЦАНА ВЫДАННЯ.** Кошт экзэмпляра выдання, велічыня якога складаецца з выпускной цаны выдавецтва і нацэнак кнігагандлёвых арганізацый.

**ЦІСНЕННЕ.** Стварэнне выявы шляхам дэфармавання матэрыялу на пераплётнай крышцы, кардоне, паперы, палімерным матэрыяле нагрэтымі штампамі.

**ЦЫНКАГРАФІЯ.** Адзін з відаў вырабу рэпрадукцыйных форм высокага друку, пры якім атрыманыя з выяўленчых арыгіналаў негатывы капіруюць на пакрытую святлоадчувальным слоем цынкавую пласціну і затым травяць кіслатой незадубленыя пры капіраванні прабельныя элементы, каб паглыбіць іх на патрэбны памер і атрымаць цынкаграфічнае клішэ.

**ЦЫТАТА** (в ы т р ы м к а). Тэкст з пэўнага твора, які даслоўна прыводзіцца аўтарам у выданні з мэтай абаснавання ўласных сцвярджэнняў або апраўяржэння цытуемага аўтара. Цытаты звычайна заключаюць у двукоссе або выдзяляюць шрыфтавым спосабам.

**ЦЫЦАРА.** Шрыфт, кегель якога роўны 12 пунктам (4,51 мм).

**ЦЭНТРАЛЬНАЯ ПЕРАПЛЁТНАЯ КРЫШКА.** Цэнтральная пераплётная крышка, старонкі якой пакрыты цэльнай папяровай вокладкай.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ РАЗВАРОТ.** Ліст паперы, на якім размешчаны дзве супрацьлеглыя старонкі ў сярэдзіне выдання. Цэнтральны разварот дае магчымасць друкаваць адзінае адлюстраванне на абедзвюх частках праз згіб і ўнутраныя палі.

# Ч

**ЧАРНАВЫ АДБІТАК.** Неканчатковы адбітак, атрыманы з камп’ютарнага прынтара з мэтай вычыткі і падгонкі матэрыялаў.

**ЧАРЦЁЖ.** Накід прадметаў, іх частак, дэталей лініямі, штрыхамі, выкананы з адпаведнасцю або з указаннем сапраўдных памераў гэтых прадметаў, які дае ўяўленне аб іх рэальным выглядзе і будове.

**ЧАСОПІС.** Перыядычнае выданне, у якім асноўнае месца адводзіцца не аператыўнай інфармацыі, як у газеце, а навуковым, гістарычным, мастацкім або літаратурна-публіцыстычным матэрыялам.

**ЧАСТКА.** Адна з самых буйных рубрык (падраздзелаў), якая можа складацца з раздзелаў і аб’ядноўвацца ў кнігі з некалькіх частак.

**ЧОРНЫ РАДОК.** Перавёрнуты ў металічным наборы радок, які дае адбітак у выглядзе суцэльнай чорнай паласы, роўнай па вышыні кегелю радка. Чорны радок – вынік выпадковай памылкі, а часцей сігнал выдавецтву аб тым, што паласа няпоўнафарматная, што ў ёй не хапае радка.

**ЧУЖАЯ ЛІТАРА.** Літара іншай гарнітуры, кегелю або абрысу, якая трапіла ў набор выпадкова.

**ЧУЖЫ ШРЫФТ.** Тое, што і чужая літара.

**ЧЫРВОНЫ РАДОК.** Радок, які пачынаецца дакладна па цэнтральнай восі фармата набору і з аднолькавымі водступамі ад левага і правага краю. Так набіраюць загалоўкі, формулы, подпісы пад клішэ.

Назва «чырвоны радок» увайшла ў практыку кнігадрукавання ў тыя часы, калі ў рукапіснай або першадрукаванай кнізе ініцыялы, пачатковыя радкі, загалоўкі і г. д. пісаліся кінаварам, што засяроджвала ўвагу і ўпрыгожвала кнігу.

**ЧЫСТЫ АРКУШ.** Першы адбітак, атрыманы з друкарскай машыны, які зацвярджаецца перад друкаваннем усіх экзэмпляраў выдання.

# Ш

**ШАБЛОН.** 1. Узор, па якім штампуюцца аднолькавыя вырабы. 2. *перан.* Некрытычнае капіраванне нейкага ўзору, працяглае яго выкарыстанне.

**ШАПКА.** Загаловак, які аб'ядноўвае матэрыялы на адну тэму.

**ШМАТФАРБНЫ ДРУК.** Друкаванне ў тры і болей фарбы. Шматфарбны друк можа быць з лакальнымі друкуючымі элементамі, якія даюць адбітак лакальнага колеру, можа быць трох- або чатырохкаляровы, ён дае шмат адценняў розных колераў, што дасягаецца змяненнем растравых друкуючых элементаў, вылучаных пры падзеле асноўных колераў спектра.

**ШМУЦТЫТУЛ.** 1. Ліст, на вонкавай старонцы якога (правая старонка развароту) размяшчаецца толькі загаловак твора або яго часткі. Можа суправаджацца відарысам, эпіграфам, загалоўкамі падначаленых падраздзелаў, а адварот пакінуты чыстым або запоўнены тэкстам. 2. Загаловак або падзагаловак, які размешчаны на першай старонцы ліста, называемага шмуцтытулам.

**ШПАЦЫЯ.** Адносная адзінка для вымярэння гарызантальных памераў шрыфту ў камп'ютарным наборы. Існуюць тры градацыі гэтай адзінкі: круглая, паўкруглая і тонкая шпацыя.

**ШПОН.** Прабельны матэрыял у выглядзе тонкіх пласцінак рознай даўжыні 2, 3, 4-пунктавага кегелю. Прызначаны для павелічэння інтэрліньяжу.

**ШРЫФТ.** 1. Графічная форма сістэмы пісьма. 2. Камплект літар або матрыц, неабходных для ўзнаўлення тэксту і загалоўкаў.

Шрыфты падзяляюцца па малюнку, абрысе і памеры. Зыходзячы з малюнка, формы насечак і суадносін асноўных і спалучальных штрыхоў, шрыфты падзяляюцца на шэсць асноўных груп (сечаныя, з ледзь заўважнымі насечкамі, медыяльныя, звычайныя, брусковыя, новыя малакантрасныя) і адну дадатковую. Паводле абрысу шрыфты дзеляцца па насычанасці: на светлыя (гл. *Светлы шрыфт*), паўтлустыя і тлустыя; паводле нахілу: на прамыя, нахіленыя і курсіўныя; паводле адноснай шырыні (шчыльнасці): на вузкія, нармальныя і шырокія; паводле запоўненасці асноўных штрыхоў: на нармальна запоўненыя, контурныя, адценeныя і штрыхаваныя. У залежнасці ад памеру шрыфты дзеляцца: на тэкставыя –

ад 4 пунктаў да 12; тытульныя (загаловачныя) – ад 14 пунктаў да 72; афішныя – ад 2 квадратаў да 15. Некаторыя шрыфты (у асноўным тэкставыя) маюць назвы ў залежнасці ад памеру: брыльянт – 3 пункты, дыямент – 4, перл – 5, нанпарэль – 6, міньён – 7, петыт – 8, боргес – 9, корпус – 10, цыцара – 12 пунктаў.

**ШРЫФТАВАЯ ВОКЛАДКА.** Вокладка кнігі, часопіса, выкананая толькі з дапамогай шрыфтоў.

**ШТАМП ПЕРАПЛЁТНЫ.** Форма з рэльефнай выявай, якая служыць для ціснення на пераплётнай крышцы або вокладцы.

**ШТАНЦАВАННЕ.** Тэхналагічны друкарскі працэс. Выкарыстоўваецца пры вырабе этыкетак, складаных упаковачных скрынак і іншай прадукцыі. Для гэтых работ выкарыстоўваюць тыгельныя або цыліндравыя машыны, у якіх замацоўваецца металічная форма, якая пад ціскам робіць неабходныя надрэзы на матэрыяле арыгінала.

**ШТАТ.** Пастаянны склад супрацоўнікаў выдавецтва. Да штатнага персаналу адносяцца і асобы, якія працуюць у рэдакцыі па сумяшчальніцтве. Кожнае выдавецтва мае штатны расклад, які зацвярджаецца заснавальнікам і ўключае пералік пасад пастаянных супрацоўнікаў з указаннем колькасці аднайменных пасад (вакансій) і памеру акладаў.

**ШТРЫХ.** Выяўленчы элемент штрыхавога арыгінала, суцэльная лінія адной сілы тона.

**ШТРЫХАВАЯ ІЛЮСТРАЦЫЯ.** Малюнак, у якім адлюстраванне перадаецца таўшчынёй штрыхоў і інтэрваламі паміж імі.

**ШТРЫХАВОЕ КЛІШЭ.** Клішэ, вырабленае са штрыхавога выяўленчага арыгінала.

**ШТРЫХКОД.** Для аўтаматычнага счытвання Міжнароднага стандартнага нумара кнігі ISBN у сусветнай выдавецкай практыцы прымяняецца метад штрыхавога кадзіравання. Штрыхаваныя коды ўяўляюць чаргаванне цёмных і светлых палосак рознай шырыні. Счытваюцца яны спецыяльнымі аптычнымі прыстасаваннямі. Прымяненне штрыхавога кадзіравання кніг – не толькі позва часу, але і сведчанне культуры і аўтарытэту выдавецкіх арганізацый. Больш таго, зарубежныя кнігагандлёвыя фірмы адмаўляюцца купляць кнігі без кодаў. У нашай рэспубліцы метадычнае кіраўніцтва па штрыхавым кадзіраванні кніг ажыццяўляе Нацыянальная кніжная палата.

**ШЫРЫНЯ АЧКА ШРЫФТУ.** Адзін з асноўных паказчыкаў абрысу шрыфту, які вызначае адлегласць паміж асноўнымі штрыхамі літар. Паводле гэтага адрозніваюцца шрыфты нармальнага, вузкага і шырокага абрысу.

**ШЫЦЦЁ.** Спосаб змацавання кніжна-часопісных сшыткаў у кніжны блок або выданне ў вокладцы.

**ШЭРЫ ДРУК.** Старонкі з тэкстам, дрэнна надрукаваным з-за недастатковай падачы фарбы або недастатковага ціску пры друку.

# Э

**ЭКЗЭМПЛЯР ВЫДАННЯ.** Кожная асобная адзінка тыражу выдання.

**ЭКСЛІБРЫС** (ад лац. ex libris – з кніг). Па-мастацку выкананы ярлычок, віньетка з імем уладальніка або з сімвалічным малюнкам, які наклейваецца на ўнутраны бок пераплёту вокладкі. Прадмет калекцыяніравання. Звязаны непасрэдна з кнігай, з’яўляецца адным з яе элементаў. Дазваляе прасачыць лёс кнігі, яе шлях ад аднаго ўладальніка да іншага.

**ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, у якім выкарыстаны новыя формы мастацкага афармлення, новыя паліграфічныя спосабы, матэрыялы і г. д.

**ЭКСПРЭС-ІНФАРМАЦЫЯ.** Рэфератыўнае інфармацыйнае перыядычнае выданне (ліставое або ў выглядзе брашуры) з пашыраным рэфератам (рэфератамі) найбольш актуальных апублікаваных зарубежных матэрыялаў і неапублікаваных айчынных дакументаў. Выпускаецца з мэтай аператыўна паведаміць аб іх змесце спецыялістам.

**ЭЛЕКТРОННА-ГРАВІРАВАЛЬНЫ АПАРАТ (ЭГА).** Апарат, з дапамогай якога вырабляюцца клішэ.

**ЭЛЕКТРОННАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое ўяўляе электронны запіс інфармацыі (твора) на магнітным дыску, кампакт-дыску і г. д., разлічанай на выкарыстанне з дапамогай электронных тэхнічных прыстасаванняў.

**ЭЛЕКТРОННАЯ ВЫЛІЧАЛЬНАЯ МАШЫНА (ЭВМ).** Машына, якая мае асноўныя функцыянальныя элементы (лагічныя, запамінальныя, індыкацыйныя і інш.), выкананыя на электронных прыборах. Выкарыстоўваецца пераважна пры апрацоўцы інфармацыі.

**ЭЛЕКТРОННАЯ ПОШТА.** Аўтаматычная сістэма перадачы інфармацыі з пераўтварэннем тэкстаў у электронныя сігналы.

**ЭЛЕКТРОННЫ МАНТАЖ.** Размяшчэнне палос выдання ў фармаце друкаваных лістоў электроннай, настольнай выдавецкай сістэмы.

**ЭМБЛЕМА** (ад грэч. emblēma – устаўка; рэльефная аздоба). Умоўнае або сімвалічнае адлюстраванне якога-небудзь паняцця, ідэі, вобраза і г. д.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ СЛОЎНІК.** Слоўнік з артыкуламі, якія ў сукупнасці даюць сістэмны звод ведаў аб Сусвеце і чалавеку ў цэлым або нейкай галіне (галіновы энцыклапедычны слоўнік). Ад энцыклапедыі адрозніваецца адносна невялікай колькасцю матэрыялаў.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ.** Даведачнае выданне, якое ўтрымлівае ў абагульненым выглядзе асноўныя звесткі па адной або ўсіх галінах ведаў і практычнай дзейнасці, выкладзеныя ў выглядзе кароткіх артыкулаў, размешчаных у алфавітным парадку.

**ЭПІГРАФ** (ад грэч. epigraphe – надпіс). Сціслая цытата з нейкага тэксту, якая папярэднічае ўсяму або асобнаму раздзелу мастацкага твора і выяўляе яго асноўную ідэйна-сэнсавую скіраванасць. Эпіграфы могуць быць з фальклорных крыніц, Бібліі, летапісаў, літаратурных твораў, дакументаў і г. д.

**ЭСКІЗ АФАРМЛЕННЯ.** Камплект эскізаў афармлення вокладкі (пераплёту), тытульных лістоў, спускавых і звычайных палос з рознымі загалоўкамі, выкананых мастаком і прадстаўленых у выдавецтва для зацвярджэння да падрыхтоўкі арыгіналаў афармлення.

**ЭСТАМП.** Ліставое выяўленчае выданне, надрукаванае з арыгінальнай друкаванай формы, выробленай самім мастаком (ксілаграфія, лінагравюра, афорт і г. д.).

**ЭТЫКЕТКА.** Ліставое выданне, від прыкладной графікі, які мае бытавое прызначэнне. Этыкетка можа быць выяўленчай і шрыфтавой.

# Ю

**ЮБІЛЕЙНАЕ ВЫДАННЕ.** Выданне, якое прымеркавана да юбілею і мае юбілейны характар па змесце і афармленні. Звычайна выпускаецца ў палепшаным афармленні.

# Я

**ЯРЛЫК.** Ліставое выданне, якое ўтрымлівае асноўныя звесткі пра тавар, прызначанае для наклейкі на каробку або паперу, у якую ўпакоўваецца тавар.

**ЯРУСЫ ГАЛОЎКІ ТАБЛІЦЫ.** Аддзеленыя гарызантальнымі лінейкамі або прабеламі (пры наборы табліцы без лінеек) рады супадначаленых загалоўкаў граф.

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ ОРГАНЫ І АРГАНІЗАЦЫІ Ў СФЕРЫ КНІГАВЫДАННЯ

## МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Міністэрства інфармацыі з'яўляецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання і падначальваецца Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь. Яго асноўныя задачы ў сферы кнігавыдання: рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі, кантроль за захоўваннем заканадаўства ў Беларусі арганізацыямі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць; распрацоўка і правядзенне мерапрыемстваў, накіраваных на рэфармаванне і дынамічнае развіццё эканомікі; удасканаленне сістэмы кіравання кнігавыданнем; арганізацыя і развіццё міжнароднага супрацоўніцтва; правядзенне на падставе міжнародных дагавароў узгодненай палітыкі з адпаведнымі органамі дзяржаў – удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Міністэрства ажыццяўляе рэгістрацыю сродкаў масавай інфармацыі, а таксама ліцэнзаванне выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці, распрацоўвае і размяшчае дзяржаўны заказ на рэалізацыю выдавецкіх праектаў і праграм выпуску сацыяльна значнай літаратуры, распрацоўвае і прымае ўдзел у распрацоўцы галіновых нарматыўных прававых актаў, у межах сваёй кампетэнцыі кантралюе захоўванне заканадаўства Рэспублікі Беларусь, палажэнняў міжнародных дагавароў у галіне аўтарскага права і сумежных правоў сродкамі масавай інфармацыі, юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць выдавецкую, паліграфічную дзейнасць і дзейнасць па кнігараспаўсюджванні.

У адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі Міністэрства інфармацыі мае права запытваць у дзяржаўных органаў і юрыдычных асоб інфармацыю, неабходную для ажыццяўлення сваіх задач і функцый у сферы кнігавыдання, атрымліваць бясплатныя экзэмпляры друкаваных выданняў, складаць пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкуламі 22.9; 22.14; 22.33 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных парушэннях у выпадку парушэння заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, парадку рассылкі абавязковых бясплатных экзэмпляраў дакументаў, распаўсюджвання сродкамі масавай інфармацыі заведама хлуслівых звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

# НЕКАТОРЫЯ НАРМАТЫЎНЫЯ ПРАВАВЫЯ АКТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ ВЫДАВЕЦКАЙ СПРАВЫ

Выдавецкая дзейнасць у нашай краіне рэгулюецца нарматыўнымі прававымі актамі агульнадзяржаўнага і галіновага значэння: законамі, указамі Прэзідэнта, пастановамі ўрада, распарадчымі дакументамі Міністэрства інфармацыі, міжнароднымі прававымі актамі і дамовамі, тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі. Важнейшымі тут з'яўляюцца наступныя:

- Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (арт. 51);
- міжнародныя канвенцыі з удзелам Беларусі:

– Сусветная (Жэнеўская) канвенцыя аб аўтарскім праве (у рэдакцыі 1952 г.);

– Бернская канвенцыя аб ахове літаратурных і мастацкіх твораў (уступіла ў дзеянне на тэрыторыі Беларусі ў 1997 г.);

- Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь (раздз. V);
- закон Рэспублікі Беларусь «Аб аўтарскім праве і сумежных правах» ад 17 мая 2011 г.;
- закон Рэспублікі Беларусь «Аб ратыфікацыі Пагаднення аб супрацоўніцтве па недапушчэнні правапарушэнняў у галіне інтэлектуальнай уласнасці» ад 6 лістапада 1998 г. № 202-З;
- закон Рэспублікі Беларусь «Аб ратыфікацыі Дагавора Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па аўтарскаму праву» ад 10 чэрвеня 1998 г. № 165-З і інш.

Выдаўцам варта ведаць патрабаванні заканадаўства Беларусі ў галіне рэкламы, дзяржаўных сакрэтаў і камерцыйнай тайны, інфарматызацыі, а таксама заканадаўства, якое рэгулюе пытанні кнігараспаўсюджвання. Абмежаванняў для распаўсюджвання кніжнай прадукцыі ў нашай краіне практычна няма. Выключэнне складаюць выданні, якія ўтрымліваюць заклікі да сілавога захопу дзяржаўнай улады, прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, парнаграфіі.

Дэкрэтам Прэзідэнта ад 4 ліпеня 2003 г. № 17 «Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці» да ліцэнзуемай аднесена дзейнасць па распаўсюджванні прававой інфармацыі. Адным з важнейшых дакументаў з'яўляецца таксама «Палажэнне аб ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці». Яно распаўсюджваецца на юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, зарэгістраваных на тэрыторыі Беларусі, на замежных юрыдычных асоб і дзяржаўныя арганізацыі, створаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам замежных дзяржаў пры наяўнасці іх прадстаўніцтваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

# ВЫДАВЕЦКІ СТАНДАРТ ЯК ЭТАЛОН ЯКАСЦІ І ЭФЕКТЫЎНАСЦІ

Стандарт (ад англ. standard) – норма, узор, у шырокім сэнсе слова – эталон, мадэль, якія прымаюцца за зыходныя для супастаўлення з імі іншых падобных аб'ектаў. Як нарматыўна-тэхнічны дакумент стандарт устанаўлівае комплекс мер, норм, патрабаванняў, правіл да аб'екта стандартызацыі і зацвярджаецца кампетэнтным органам. У Расіі стандарт быў упершыню ўзаконены Пятром І пры пабудове флоту і вырабе зброі.

Развіццё рускай чыгункі запатрабавала строгіх падыходаў да вымярэння адлегласцей паміж рэйкамі, коламі, уліку ўплыву тэмпературы ў розныя перыяды года на трываласць металу, з якога выраблялiся рэйкі. Заключэнне міжнародных пагадненняў пра выкарыстанне чыгуначнага транспарту як важнага сродку перавозу грузаў і пасажыраў па тэрыторыях розных краін прывяло да распрацоўкі і прымянення агульных для гэтых краін стандартаў.

З часам стандартызацыя атрымала сталую прапіску і ў іншых сферах гаспадарання, у тым ліку і ў кнігавыдавецкай справе. Яна прывяла ў адпаведнасць нарматыўную базу прамысловай вытворчасці і выдавецкіх працэсаў, уніфікавала характарыстыкі кніг, павысіла інфармаванасць пра выпускаемую прадукцыю, садзейнічала распрацоўцы міжнароднай нумарацыі кніг, палепшыла эфектыўнасць кніжнага гандлю.

Стандартызацыя, вядома, у пэўнай ступені абмяжоўвае дзейнасць выдаўцоў, паліграфістаў, але ў той жа час з'яўляецца стымулятарам для распрацоўкі новых тэхналогій вытворчасці, актывізуе пошук выдаўцоў пры рэдагаванні, афармленні кніг.

Прымяненне стандартаў спрыяе паляпшэнню якасці прадукцыі, павышэнню ўзроўню ўніфікацыі і ўзаемазамяняльнасці, развіццю аўтаматызацыі вытворчасці, яе эфектыўнасці.

Стандарты – не застылая догма, а творчы працэс, які ўбірае ў сябе ўсё новыя патрабаванні і позвы часу. Так, напрыклад, камп'ютарызацыя закранула і выдавецкую, і паліграфічную сферы, дазволіла значна скараціць многія вытворчыя працэсы ў канвееры «аўтар – рэдактар – паліграфіст – прадавец», палепшыла дызайн кнігі, паскорыла працэс яе рэалізацыі. У сярэднім стандарты пераглядаюцца не радзей, чым раз у пяць гадоў з дня іх увядзення, але пры неабходнасці гэтыя тэрміны могуць мяняцца, што сведчыць пра творчы характар стандартызацыі. Асноўныя віды стандартаў патрабуюць ад работнікаў выдавецтваў указваць прозвішча аўтара, загаловак, надзагаловачныя і падзагаловачныя звесткі, юрыдычны адрас, год выдання, класіфікацыйныя індэксы, міжнародныя стандартныя нумары, штрыхкоды, знак аховы аўтарскага права, а таксама дату выдачы ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць, дату здачы рукапісу ў набор, падпісання да друку, від, нумар, фармат паперы і долі аркуша, гарнітуру шрыфту асноўнага тэксту, тыраж, нумар заказа паліграфічнага прадпрыемства, паштовы адрас апошняга.

Для павышэння аўтарытэту і адказнасці за якасць выпушчанай прадукцыі выхадныя звесткі ўключаюць таксама прозвішчы рэдактара (рэдактараў), карэктараў, мастакоў, мастацкіх і тэхнічных рэдактараў, складальнікаў, членаў рэдакцыйных калегій, рэцэнзентаў, а таксама назвы арганізацый, якія прымалі ўдзел у стварэнні кнігі.

Выхадныя звесткі размяшчаюцца ў ніжняй частцы тытульнага ліста, на авантытуле, контртытуле, на першай або апошняй старонцы вокладкі, супервокладкі.

Пытаннямі распрацоўкі і ўкаранення дзяржаўных, галіновых стандартаў Беларусі займаецца Камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. У выдавецкай, паліграфічнай, бібліятэчнай справе гэтыя функцыі перададзены Галаўной службе стандартызацыі Нацыянальнай палаты Беларусі.

Прывядзём асноўныя міждзяржаўныя (у рамках СНД), дзяржаўныя і галіновыя стандарты, якія рэгламентуюць выдавецкую дзейнасць у Беларусі*. Нагадаем, што абрэвіятура ДСТ азначае міждзяржаўны стандарт у рамках СНД, СТБ – стандарт Беларусі, ГСТ – галіновы стандарт (у пераважнай большасці апошнія стандарты распрацаваны расійскім бокам яшчэ да распаду СССР і прымяняюцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі), СанПіН – санітарныя правілы і нормы, ТУ – тэхнічныя ўмовы.

**ТКП 066-2007(02330).** Парадак арганізацыі работ па тэхнічнаму нарміраванню і стандартызацыі ў сістэме Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Асноўныя палажэнні.

**СТБ 7.2-2001.** СІБВС. Арыгіналы для паліграфічнага рэпрадуцыравання ў газетнай вытворчасці. Агульныя тэхнічныя патрабаванні.

**СТБ 7.4-2009.** СІБВС. Выданні. Выхадныя звесткі. Агульныя патрабаванні і правілы афармлення.

**СТБ 7.12-2001.** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Скарачэнне слоў і словазлучэнняў на беларускай мове. Агульныя патрабаванні і правілы.

**СТБ 7.53-2008.** СІБВС. Выданні. Міжнародны стандартны кніжны нумар. Выкарыстанне і выдавецкае афармленне.

**СТБ 7.200-2003.** СІБВС. Альбомы. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 7.201-2003.** СІБВС. Часопісы. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 7.202-2005.** СІБВС. Даведнікі. Асноўныя віды. Патрабаванні да асноўнага тэксту, апарату выдання і выдавецкага афармлення.

**СТБ 7.203-2005.** СІБВС. Энцыклапедыя. Асноўныя віды. Патрабаванні да асноўнага тэксту, апарату выдання і выдавецкага афармлення.

**СТБ 7.204-2006.** СІБВС. Выданні кніжныя. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 7.205-2006.** СІБВС. Выданні. Знак аховы аўтарскага права. Агульныя патрабаванні і правілы афармлення.

**СТБ 7.205-2006.** СІБВС. Выданні кніжныя і часопісныя для дзяцей. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 7.208-2008.** СІБВС. Бібліяграфічная спасылка. Агульныя патрабаванні і правілы састаўлення.

**СТБ 7.209-2008.** СІБВС. Выданні. Асноўныя элементы. Тэрміны і азначэнні.

**СТБ 1021-2007.** Выданні вучэбныя для агульнай сярэдняй адукацыі. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 1198-99.** Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для сістэмы прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі. Агульныя ўмовы.

---

* Что нужно знать об издательской деятельности: практ. пособие. – 3-е изд. – Минск: Нац. книж. палата Беларуси, 2011.

**СТБ 1339-2002.** Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для сістэмы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 1340-2002.** Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы. Агульныя тэхнічныя ўмовы.

**СТБ 1654-2006.** Выданні ліставыя. Маркіроўка, упакоўка, транспарціроўка і захоўванне.

**СТБ 1655-2006.** Выданні кніжныя. Маркіроўка, упакоўка, транспарціроўка і захоўванне.

**СТБ ДСТ 7.60-2005.** СІБВС. Выданні. Асноўныя віды. Тэрміны і азначэнні.

**ДСТ 7.1-2003.** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Бібліяграфічнае апісанне. Агульныя патрабаванні і правілы састаўлення.

**ДСТ 7.5-98.** СІБВС. Часопісы, зборнікі, інфармацыйныя выданні. Выдавецкае афармленне публікуемых матэрыялаў.

**ДСТ 7.9-95 (ІСА 214-76).** СІБВС. Рэферат і анатацыя. Агульныя патрабаванні.

**ДСТ 7.11-2004 (ІСА 832:1994).** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Скарачэнне слоў і словазлучэнняў на замежных еўрапейскіх мовах.

**ДСТ 7.12-93.** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Скарачэнне слоў на рускай мове. Агульныя патрабаванні і правілы.

**ДСТ 7.22-2003.** СІБВС. Прамысловыя каталогі. Агульныя патрабаванні.

**ДСТ 7.23-96.** СІБВС. Выданні інфармацыйныя. Структура афармлення.

**ДСТ 7.51-98.** СІБВС. Картачка для каталогаў і картатэк. Каталагізацыя ў выданні. Склад, структура даных і выдавецкае афармленне.

**ДСТ 7.56-2002 (ІСА 3297-98).** СІБВС. Выданні. Міжнародная стандартная нумарацыя серыйных выданняў (са зменамі 2006 г.).

**ДСТ 7.62-2008.** СІБВС. Знакі для разметкі арыгіналаў і выпраўлення карэктурных і пробных адбіткаў. Агульныя патрабаванні.

**ДСТ 7.69-95 (ІСА 5127:11-83).** СІБВС. Аўдыявізуальныя дакументы. Асноўныя тэрміны і азначэнні.

**ДСТ 7.78-99.** СІБВС. Выданні. Дапаможныя ўказальнікі.

**ДСТ 7.80-2000.** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Загаловак. Агульныя патрабаванні і правілы састаўлення.

**ДСТ 7.82-2001.** СІБВС. Бібліяграфічны запіс. Бібліяграфічнае апісанне электронных рэсурсаў. Агульныя патрабаванні і правілы састаўлення.

**ДСТ 7.83-2001.** СІБВС. Электронныя выданні. Асноўныя віды і выхадныя звесткі.

**ДСТ 7.84-2002.** СІБВС. Выданні. Вокладкі і пераплёты. Агульныя патрабаванні і правілы афармлення.

**ДСТ 7.86-2003.** Выданні. Агульныя патрабаванні да выдавецкай анатацыі.

**ДСТ 7.87-2003.** СІБВС. Кніжныя помнікі. Агульныя патрабаванні.

**ДСТ 7.88-2003.** СІБВС. Правілы скарачэння загалоўкаў і слоў у загалоўках публікацый.

**ДСТ 7.89-2005.** СІБВС. Арыгіналы тэкставыя, аўтарскія і выдавецкія. Агульныя патрабаванні.

**ДСТ 5773-90.** Выданні кніжныя і часопісныя. Фарматы.

**ДСТ 22240-76.** Вокладкі і крышкі пераплётныя. Тыпы.

**ДСТ 30721-2000.** Аўтаматычная ідэнтыфікацыя. Кадзіраванне штрыхавое. Тэрміны і азначэнні.

**СанПіН РБ 1.1.10-38-2002.** Гігіенічныя патрабаванні да кніжных выданняў для дарослых.

**СанПіН РБ 2.4.7.16-1-2005.** Гігіенічныя патрабаванні да кніжных выданняў і часопісных для дзяцей.

**СанПіН РБ 2.4.7.16-32-2006.** Гігіенічныя патрабаванні да папярова-белавых вырабаў для дзяцей.

**СанПіН РБ 14-9-2002.** Гігіенічныя патрабаванні да вучэбных выданняў для агульнай сярэдняй адукацыі.

**ТУ РБ 02478970.001-98.** Выданні для сляпых рэльефна-кропачныя.

**ТУ РБ 100061706.001-2003.** Паштоўкі выяўленчыя немаркіраваныя.

**ТУ РБ 100061706.003-2003.** Календары.

**ТУ BY 100083317.002-2007.** Выданні ліставыя.

**ТУ BY 100299680.002-2009.** Выданні кніжныя мініяцюрныя.

**ТУ РБ 100715741.004-2002.** Прадукцыя друкаваная рэкламнага характару.

**ТУ РБ 100715741.009-2004.** Плакаты.

**ТУ BY 100715741.011-2006.** Кніжкі-расфарбоўкі для дзяцей.

**ТУ РБ 190184544.004-2003.** Календары перакідныя і адрыўныя.

**ТУ BY 200020405.008-2007.** Календары настольнага выгляду «Дамок».

**ТУ BY 400062502.005-2006.** Дапаможнікі вучэбна-наглядныя.

# ЛІЦЭНЗАВАННЕ ВЫДАВЕЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці» ад 1 верасня 2010 г. № 450 зацверджана «Палажэнне аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці». Глава 31 Палажэння рэгулюе прававыя адносіны па ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці. Асобныя палажэнні гэтага дакумента прыводзяцца ніжэй*.

### Палажэнне аб парадку выдачы і выкарыстання ліцэнзій на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці

Выдавецкая дзейнасць – гэта комплекс дзеянняў, якія ўключаюць у сябе рэдакцыйна-выдавецкую падрыхтоўку, накіраваны на атрыманне паліграфічна афармленага выдання (выдавецкай прадукцыі) з устаноўленымі выхаднымі звесткамі і прызначаны для перадачы інфармацыі. У рэдакцыйна-выдавецкую падрыхтоўку ўваходзяць наступныя працэсы:

- літаратурнае рэдагаванне і вычытка аўтарскага арыгінала;

---

* Печ. по: Справочно-аналитическая информация о деятельности отрасли СМИ и печати в 2011 году. – Минск: Мин-во информации Респ. Беларусь, 2012.

• рэдакцыйна-тэхнічная падрыхтоўка і выраб арыгінала-макета (тэхнічнае рэдагаванне, набор, вёрстка, вычытка карэктур, разметка і мастацкае рэдагаванне ілюстрацый);

• выпуск выданняў у свет.

Атрыманне ліцэнзіі неабходна для выдання наступных тэматычных накірункаў незалежна ад іх матэрыяльнай канструкцыі, аб'ёму, тыражу, характару інфармацыі і выканання: афіцыйнага, навуковага, навукова-папулярнага, вытворча-практычнага, вучэбнага, масава-палітычнага, даведачнага, для адпачынку, рэкламнага, літаратурна-мастацкага, рэлігійнага.

Не патрабуецца атрыманне ліцэнзіі на выпуск ведамаснай літаратуры, пералік якой утрымліваецца ў загадзе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама бланачнай, этыкетачнай, упаковачнай прадукцыі, таварных ярлыкоў.

Ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці юрыдычнай асобай магчыма пры наяўнасці ў яе штаце прафесіянальна падрыхтаваных спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, якія маюць вопыт работы ў выдавецкай справе не менш як тры гады і паспяхова здалі кваліфікацыйны экзамен.

У ліцэнзіі на права вядзення выдавецкай дзейнасці ўказваюцца тэматычныя напрамкі выданняў. Правы на вядзенне выдавецкай дзейнасці не могуць быць перададзены іншым асобам.

### Парадак выдачы ліцэнзіі

Ліцэнзія выдаецца Міністэрствам інфармацыі па заяве зацікаўленага аб'екта гаспадарання. Да заявы прыкладаюцца наступныя дакументы:

1. Заява суб'екта гаспадарання з указаннем назвы, падрабязнага паштовага адраса, тэлефона, віду будучага выдання па яго тэматычным напрамку, моў, на якіх будзе выдавацца літаратура, прозвішча асобы, адказнай за ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці.
2. Копія дакументаў – рашэнне выканкама або іншага органа аб рэгістрацыі статута суб'екта гаспадарання.
3. Даведка з падатковага органа па месцы знаходжання асобы, якая падала заяву на атрыманне ліцэнзіі, аб адсутнасці запазычанасці па падатках і іншых плацяжах у бюджэт.
4. Даведка з органа ўнутраных спраў аб адсутнасці судзімасці або фактаў прыцягнення да крымінальнай адказнасці на момант падачы заявы.
5. Заключэнне абласнога ўпраўлення па друку.
6. Заключэнне кваліфікацыйнай камісіі.
7. Копія дакумента аб аплаце выдачы ліцэнзіі.
8. Згодна з Пастановай Савета Міністраў Беларусі за ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці ўстаноўлена плата ў памеры 20 мінімальных заробкаў, за прадоўжанне ліцэнзіі – 10 мінімальных заробкаў. За права займацца паліграфічнай дзейнасцю ўстаноўлена плата ў памеры 200 мінімальных заработных плат, за прадоўжанне ліцэнзіі – 100 мінімальных заработных плат.

Кнігавыданне ў Рэспубліцы Беларусь рэгулюецца законамі краіны, указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, загадамі, інструкцыямі, указаннямі Міністэрства інфармацыі, якія рэгламентуюць выдавецкую і паліграфічную дзейнасць суб'ек-

